29 красавіка 2016 | № 17 (482)

# Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Дом ураду ў Камароўскім лесе**
стар. 23

**4 ДЗЯРЖАВА СТАВІЦЦА ДА НАС ЯК ДА ЖЫВЁЛ**
Супрацоўнікі Мінгандлю прыйшлі з пазапланавай праверкай у міні-кавярню — адразу пасля іх візіту «хуткая» забрала ўладальніцу кавярні Таццяну Аляхновіч у шпіталь з высокім ціскам

**20 ЗША: ПЕРАМАГЧЫ ПАЛІТЫЧНАЕ ВАРВАРСТВА**
Трамп па-майстэрску валодае мовай нянавісці і заахвочвае сваіх прыхільнікаў да ўжывання гвалту. Ён выказвае захапленне Пуціным і сее страх і паранойю ў сваіх палітычных мэтах

**7–18 Літаратурная Беларусь**

**22 ЯК У БЕЛАРУСІ «РУССКИЙ МИР» СТВАРАЛІ**
У Беларусі сем гадоў існавала афіцыйна зарэгістраваная арганізацыя, якая як ніхто адстойвала «русский мир» і далучэнне да яго Беларусі




# Дзень паслухмянага таварыша

## Першамай — цудоўная магчымасць прайсціся маршам і нарэшце нагадаць пра такі панятак, як «грамадзянін»



Вольга ХВОІН

Чатыры гады таму я пісала тэкст да Першамаю, дзе гаварылася пра намінальнасць ды неэфектыўнасць прафсаюзаў у дзяржаве. Сёлета згадваць прафсаюзы мала сэнсу, бо ворах праблем у краіне такі вялікі, што не ў прафсаюзах цяпер паратунак.

Крызісныя з'явы ў Беларусі ўжо ахопліваюць усе сферы жыцця. Але кіраўніцтва дзяржавы ўпарта адмаўляецца публічна прызнаваць усю сур'ёзнасць сітуацыі. Яшчэ ў лютым Лукашэнка запэўніваў, што «крызіс у нас у галаве». А ў красавіку падчас наведвання Ельскага раёна паабяцаў прад'явіць народу рэалістычную праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на наступную пяцігодку. І нас чакае — так-так! — менавіта рост і поспех.

Прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў заявіў, што ўраду сёлета давялося прымаць меры «па бюджэтнай кансалідацыі», каб справіцца з прагнознымі паказчыкамі на 2016 год.

Маўляў, ішоў пошук дадатковых крыніц даходаў. Гэта і павышэнне ставак акцызаў на нафтапрадукты («без павелічэння рознічных цэнаў»), і адмова ад льгот па ПДВ на грамадскім транспарце («не павялічваючы тарыфы»). Кабякоў кажа, што кіраўнік дзяржавы не пагадзіўся «на больш глыбокія меры, адчувальныя для насельніцтва».

Але д'ябал хаваецца ў дробязях — Кабякоў гаворыць, што насельніцтва нічога не адчула, а кошт праезду ў маршрутцы, паслугамі якой я карыстаюся, падрос акурат на памер ПДВ (і нават абвестку-тлумачэнне для пасажыраў павесілі). Адназначна, нехта нам хлусіць!

«Павінны даць аддачу мадэрнізаваныя прадпрыемствы, а іх велізарная колькасць. І мы не спыняемся. Пры ўсіх складанасцях галоўная наша задача — мадэрнізацыя і абнаўленне вытворчасці на інавацыйнай аснове», — распавядаў у Ельскім раёне пра планы наконт прамысловасці Лукашэнка.

Нагадаю, пра ўсеагульную мадэрнізацыю было заяўлена яшчэ ў 2012 годзе, была зацверджаная адпаведная праграма, разлічаная да 2020 года, з агульным аб'ёмам выдаткаў у 90 мільярдаў рублёў, з якіх больш за 40 працэнтаў павінны быць з рэспубліканскага бюджэту, яшчэ трацiна рэсурсаў меркавалася прыцягнуць ад замежных інвестараў. Але маштабны праект праваліўся.

«Пагрозы і прамовы Лукашэнкі, яго рыторыка — настолькі збітае гэта ўсё. А тым часам нашая прамысловасць, на мой погляд, недзе ў 2010–2012 гадах пераадолела кропку незвароту, якая не дазваляе працаваць у ранейшых умовах і з ранейшымі магчымасцямі. Мадэрнізацыя мусіць праводзіцца сістэмна, сыходзячы з патрабаванняў рынка, чаго ў нас няма, а ёсць фактар палітычнага кіраўніцтва», — гаворыць старшыня прафсаюза Свабоднага прафсаюза металістаў Аляксандр Бухвостаў.

Бухвостаў адзначае, што сітуацыя ў прамысловай галіне і так цяжкая для людзей, якія там занятыя, таму пытанне працаўладкавання і ўласнага дабрабыту будзе бліжэйшым часам абвастрацца.




«Але, паслухайце, прафсаюз — гэта самі людзі. Калі яны не хочуць змагацца за свае правы, то чым ім дапаможаш? У свабодныя прафсаюзы па дапамогу звяртаюцца мала, вельмі мала», — прызнаецца прафсаюзны лідар.

Кантрактная сістэма раз'яднала рабочых, кожны думае, што ціхенька зможа адседзецца і не страціць працу. Няма разумення, што трэба аб'ядноўвацца дзеля агульнай мэты.

### Што могуць незалежныя прафсаюзы?

«А што могуць незалежныя прафсаюзы? Даць параду, пракансультаваць, абараніць у судзе. Можа быць цяпер, калі сітуацыя ўскладніцца, пачне прачынацца свядомасць, узнікнуць новыя аб'яднанні», — спадзяецца Бухвостаў, што свядомасць рабочых зменіцца пад эканамічным ціскам.

Сакавіцкае апытанне НІСЭПІ паказала, што ў параўнанні са снежнем 2015 года колькасць грамадзян, якія адчуваюць на сабе праявы крызісу, павялічылася адразу на 20,9 пункта і склала рэкордныя для грамадскіх настрояў 87,8%. Людзі абвінавачваюць кіраўніка дзяржавы і ўрад, прызнаюцца, што ледзь зводзяць канцы з канцамі і не хапае грошай на прадукты (19,4 % рэспандэнтаў). Але ніякага радыкалізму і рашучасці — у апазіцыі да цяперашняй улады сёння лічаць сябе 18% беларусаў (у чэрвені крызіснага 2011 года — 25,8%).

Сёлета Першамай выпадае на нядзелю — такая магчымасць прайсціся маршам да адміністрацыі прадпрыемства, горада ці дзяржавы з патрабаваннямі і ўмовамі, нагадаць урэшце пра такі панятак, як «грамадзянін». Сітуацыя ж наспела. Але не, афіцыйны прафсаюз правядзе ціхія сустрэчы: будуць балонікі і сцяжкі, раскажуць пра сацыяльна арыентаваную дзяржаву. Відавочна, замест такога варыянту лепш паехаць на лецішча ці да сваякоў ды пасадзіць бульбу. Можа стацца так, што плён гэтай працы дапаможа перажыць крызісныя часы.

Але гэты метад зноў-такі — ціха адседзецца ў сваім кутку.

# Актывіст супраць газеты

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Суд Савецкага раёна Мінска не задаволіў позву экс-прадпрымальніка Аляксандра Шыловіча да газеты «Советская Белоруссия». «Я ж змагаюся з уладамі. А гэта адна сістэма», — пракаментаваў рашэнне суда Аляксандр Шыловіч.**

Гісторыя жыхара вёскі Падзерскія Агароднікі і дзяржаўнай газеты нагадвае серыял. Аляксандр Шыловіч звярнуўся ў рэдакцыю з лістом. У калісьці адным з лепшых калгасаў няма нармальных умоваў для жыцця: не працуюць клубы, лазні, млыны, водаправод. А звароты па набалелых праблемах мясцовыя ўлады ігнаруюць. Аўтар ліста прасіў газету разабрацца з безгаспадарчасцю і дапамагчы жыхарам.

«Советская Белоруссия» адгукнулася. Гаспадарку на Случчыне наведаў тагачасны намеснік рэдактара Маліноўскі. Аднак ніякай дапамогі жыхары на дачакаліся. На гэты факт Аляксандр Шыловіч адрэагаваў другім лістом. У якім напісаў, што карэспандэнт «пайшоў на павадку ў жменькі бессаромных чыноўнікаў».

У адказ на гэты ліст прыехаў журналіст «СБ» Віктар Панамароў. «Мяне паслалі раз і назаўсёды разабрацца з гэтай справай», — заявіў ён. Так з'явіўся артыкул «Советы постороннего». Пра добрага і «нават мяккага, чым часам варта было б» кіраўніка калгаса, пра небывалае за ўсе часы прыбаўленне жывёл у вазе, павелічэнне надояў малака і чэргі жадаючых уладкавацца на працу. А галоўнае, пра скандаліста Шыловіча, які не бачыць пазітыву, а робіць самарэкламу. Галоўная афіцыйная газета падала асобу Аляксандра Шыловіча ў непрыглядным святле.

Адметна, што ўсё гэта адбывалася ў 2001 годзе. На пытанне, чаму толькі цяпер вырашыў судзіцца, Аляксандр Фёдаравіч адказаў, што зараз нават сляпому бачна, што меў рацыю ён, а не мясцовыя кіраўнікі. Працы няма, вёскі пусцеюць, закрываюцца крамы і школы.

У Агародніках зруйнавалі лазню і сад, у Вялікай Падзеры знеслі клуб, а потым фруктовыя дрэвы. Іх саджалі мясцовыя жыхары — кожнае прысвячалася камусьці з загінулых падчас вайны вяскоўцаў. У Бярозаўцы замест запусцелага клуба жыхары зладзілі цэркаўку. Збіраліся маліцца, да іх на выходных прыязджаў бацюшка. І гэты будынак таксама зруйнавалі. «Для ўлады няма нічога святога», — лічыць Аляксандр Шыловіч.

Ён звярнуўся ў суд з позвай аб абароне гонару і годнасці. Мясцовыя жыхары выступілі ў судзе сведкамі. «Кіраўніцтва не любіць тых, хто праўду ў вочы кажа, — заявіла Святлана Арэшка. — Мы прыехалі падтрымаць чалавека. Бо як нейкая праблема — усе да яго. Завезці нябожчыка на могілкі, натачыць альбо адрамантаваць інструмент — заўсёды дапаможа». «Ён мне пераварыў «Жыгулі». Нічога не ўзяў», — распавёў Аляксандр Курус.

З кабінета суддзі Ларысы Тарчылінай сведкі выходзілі абураныя. Напрыклад, суддзю цікавіла, у якіх стасунках на дадзены момант знаходзіцца Шыловіч з былой жонкай. Альбо яна звярнулася да адной са сведак са словамі: «Вы як жанчына падзяліцеся чуткамі». Падчас працэсу суддзя раптам узгадала, што ў яе яшчэ адна судовая справа. І абвясціла перапынак, кажа Аляксандр Шыловіч.

Негатыўны вобраз Шыловіча, які толькі пра сябе дбае, журналіст «СБ» падаваў на падставе размовы «двух сустрэчных мужыкоў», тагачаснага старшыні калгаса Валерыя Пілецкага і «старасты вёскі, то бок старшыні камітэта грамадскага самакіравання Алены Паўлаўны Ломец». «Ды ніякая яна ні стараста! Адкуль гэта ўзялі? Хто яе прызначыў?» — абурыўся Аляксандр Шыловіч.

Аднак у спекуляцыі, маніпуляцыі, дэмагогіі і некампетэнтнасці журналіст «СБ» абвінавачваў пазоўніка. «Гэта страшны чалавек. Яго нельга падпускаць да людзей», — сказаў журналіст пра Шыловіча. «А прадстаўнік газеты Аляксей Шпілеўскі заявіў у спрэчках, што артыкул — гэта асабістае меркаванне карэспандэнта, — адзначыў Аляксандр Шыловіч. — Нічога сабе меркаванне! На ўсю краіну зняславіць!»

«Замест таго, каб даць па руках і паставіць на месца зарваўшыхся мясцовых князькоў, чалавека зганілі, — выказаўся старшыня Мінскай абласной арганізацыі БСДП (Грамада) Анатоль Юрэвіч, які жыве ў Казловічах. — Аляксандр спрабаваў штосьці зрабіць для людзей, захаваць сацыяльную інфраструктуру ў вёсках. А «СБ» стала на абарону ўладаў. Калісьці калгас імя Кірава быў мільянерам, грымеў на ўвесь Саюз. Давялі гаспадарку да ніткі. Развалілі кансервавы завод — ён выпускаў 23 найменні прадукцыі, якая ішла на экспарт. Вынішчаюць прыроду — з возера зрабілі сметнік. Працы няма, людзі співаюцца ад безвыходнасці і незапатрабаванасці. Гэта катастрофа для ўсёй краіны. Дурні для ўлады выгадныя. Такое самавольства на месцах! Паспрабуй штосьці сказаць супраць — зжывуць са свету, пазбавяць працы. Рыба гніе з галавы. Гэта тэндэнцыя ўсёй дзяржавы».

Рашэнне суда Савецкага раёна Мінска экс-прадпрымальнік збіраецца абскардзіць. А супрацоўнік «СБ» Віктар Панамароў паабяцаў: «Я па гэтаму суду напішу другі артыкул!» Таму ў гісторыі рана ставіць кропку.

# Аднойчы вясною

Сяргей ШАПРАН

**«Вясна», святкуючы 20-годдзе, прапанавала выкладваць у сеціве фотаздымкі, на якіх нам — 20. Калі казаць пра маладосць, адразу міжволі чамусьці прыгадваецца сонечны май 1989-га і — Віктар Цой...**



Гэта былі часы гарбачоўскай перабудовы. Жалезная заслона абрынулася тады не толькі паміж Захадам і СССР, але і ўнутры самога Савецкага Саюза. Па тэлебачанні — праграма «Взгляд». У газетных шапіках — чэргі. У Прыбалтыцы і Беларусі — народныя франты. І ўжо не на вініле, і нават не па ТБ, а тут, у Мінску, жыўцом — маладыя легенды: «ДДТ», «Аквариум», «Наутилус Помпилиус». Я вучыўся ў БДУ і адначасова працаваў у надзвычай папулярнай тады рыжскай газеце «Советская молодёжь». Мае першыя інтэрв'ю — з Юрам Шаўчуком, Барысам Грабеншчыковым, Жанай Агузаравай, Васілём Быкавым, Святланай Алексіевіч...

Але адным з першых быў Віктар Цой. Ён выступаў на стадыёне «Дынама», побач з якім месціўся наш студэнцкі гарадок БДУ. Гурт «Кино» даваў некалькі канцэртаў. Толькі што па кінатэатрах з трыумфам прайшлі «Асса» Салаўёва і «Игла» Нугманава. Віктар Цой — сапраўдная суперзорка. Яго песня «Перемен!» была лейтматывам тых новых светлых часоў, якія — мы, дваццацігадовыя, былі перакананыя — прыйшлі беззваротна і назаўсёды. І вось Цой у Мінску...

***— Давайце пачнём з самага пачатку: чаму менавіта «Кино»?***

***Цой:*** У сэнсе — чаму гурт называецца «Кино»? Ведаеце, калі мы прыдумлялі гэтую назву, нам было па 18–19 гадоў, і зараз я проста нават не памятаю. Гэта так, ад «ліхатара» проста.

***— Вы ў жыцці такі ж самы змагар, як і на сцэне?***

***Цой:*** А я й не ведаю. Я не лічу сябе змагаром. Я спяваю песні. І спяваю пра тое, што мне падабаецца, што мяне хвалюе...

***— Але вы на сцэне ствараеце нейкі вобраз. Як вы самі можаце яго ахарактарызаваць?***

***Цой:*** Я нічога не ствараю, ніякіх вобразаў. Я вось сяджу тут, выходжу на сцэну, я... сам вобраз. (Смяецца.)

***— Што для вас галоўнае сёння?***

***Цой (пасля паўзы):*** Захаваць унутраную свабоду.

***— А што пажадаеце чытачам?***

***Цой:*** Я ніколі нікога не вучу, то бок імкнуся не вучыць. Я магу пажадаць толькі ўдачы...

Увогуле, гутарылі тады доўга... У мяне быў з сабой «Зенит», я толькі-толькі пачынаў фатаграфаваць. Фотаўспышку (яе пазычыў таварыш па інтэрнаце) трымаў у руках упершыню, таму яна і бліснула толькі аднойчы. Прапанаваў Цою выйсці на вуліцу — думаў сфатаграфаваць яго на фоне шматлюдных трыбун, але ён пажадаў стаць каля сцяны. «Не магу на вас глядзець — сонца ў вочы свеціць», — сказаў, усміхнуўшыся... Так атрымаліся яшчэ тры кадры.

Быў сонечны май. Гэта і былі часы маёй маладосці.

З днём народзінаў, «Вясна»!

# Справу вярнулі на дапрацоўку

Марат ГАРАВЫ

**Суддзя суда Цэнтральнага раёна горада Мінск Вікторыя Шабуня 25 красавіка вярнула на дапрацоўку ў Цэнтральны РУУС сталіцы адміністрацыйную справу юрысткі Тамары Сяргей.**

Тамара Сяргей абвінавачвалася ва ўдзеле ў недазволеным пікеце, які 31 сакавіка на сталічнай плошчы Свабоды правялі актывісты Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры. Яны спрабавалі дамагчыся дыялогу з чыноўнікамі, якія даюць адпіскі на звароты грамадзян.

Праз тыдзень на шэраг грамадскіх актывістаў, у тым ліку і на Тамару Сяргей, участковы інспектар міліцыі Цэнтральнага РУУС Антон Зубцоў склаў пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. Падтрымаць праваабаронцу ў судзе прыйшлі яе сябры з Грамадзянскай ініцыятывы, а таксама журналісты незалежных СМІ.

Судовы працэс з перапынкамі цягнуўся больш за тры гадзіны. Супраць Тамары Сяргей сведчылі супрацоўнікі АМАП Мінгарвыканкаму, камандзір аддзялення Алесь Сакольчык і камандзір узводу Зміцер Лабкоў. Юрыстка змагла даказаць суду неабходнасць вяртання адміністрацыйнай справы на дапрацоўку.

У каментары НЧ Тамара Сяргей адзначыла: «У судовым працэсе я прадставіла доказы, што Антон Зубцоў цалкам праігнараваў найважнейшы этап адміністрацыйнай справы — яе падрыхтоўку. Апроч таго, у матэрыялах справы знаходзяцца абсалютна аднолькавыя пратаколы апытання сведкаў — супрацоўнікаў АМАП, што пацвярджае фальсіфікацыю гэтых дакументаў. А сам пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні быў напісаны неразборлівым почыркам».

У гэтай сітуацыі праваабаронца прасіла суд прызнаць не маючым юрыдычнай сілы пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, складзены Антонам Зубцовым, і спыніць адміністрацыйны працэс.

Нагадаем, што 22 красавіка актывістка ініцыятывы з Бабруйску (Магілёўская вобласць) Валянціна Каваленка за ўдзел у пікетаванні 31 сакавіка на плошчы Свабоды была аштрафаваная суддзёй суду Цэнтральнага раёна на 20 базавых велічынь (4,2 мільёна рублёў). Справы яшчэ двух пікетоўшчыц, мінчанкі Камеліі Чарняўскай і бабруйчанкі Любові Санкевіч, будуць разглядацца ў судзе Цэнтральнага раёна сталіцы, адпаведна, 28 красавіка і 5 мая а 16.00.

Трэба адзначыць, што 77-гадовая Камелія Чарняўская даведалася пра судовы працэс над сабой толькі 25 красавіка ў зале судовага пасяджэння падчас разгляду адміністрацыйнай справы Тамары Сяргей.

# Пратакол за абарону жывёл

**На актывістаў з руху «Экалагічны Пошуг» і «Кошт жыцця», якія бралі ўдзел у пікеце ў абарону жывёл каля Дзяржцырку, склалі пратаколы адміністратыўнага правапарушэння за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.**

25 красавіка іх усіх шасцёра выклікалі ў Партызанскі РУУС Мінска. Дата суда пакуль не прызначаная. Частка ўдзельнікаў пікету была з завязанымі тварамі, але іх апазнаваў супрацоўнік ГУБАЗ Ігар Луневіч, які асабіста прысутнічаў падчас акцыі.

Нагадаем, 17 красавіка напярэдадні цыркавога прадстаўлення актывісты агітавалі байкатаваць цыркавое шоу з удзелам дрэсіраваных жывёл. Пікет працягваўся каля 20 хвілін. Неўзабаве да пікетоўшчыкаў падышоў ахоўнік цырку. На месцы таксама аказаліся і людзі ў цывільным з відэакамерамі. Але калі прыехала машына міліцыі, удзельнікі пікету паспелі разысціся.

**Паводле spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Дасядзім да пад’ёму

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У гэтым годзе сельская гаспадарка Беларусі мае атрымаць загад на масавую (прынамсі, большую, чым звычайна) сяўбу бульбы. Згодна з беларускай традыцыяй, менавіта там (у бульбе) мы павінны перасядзець крызіс.**



Аляксандр Лукашэнка, па старой завядзёнцы, наведаў «чарнобыльскія» раёны і там выказаў надзею на тое, што з улікам хвалепадобнага развіцця сусветнай эканомікі на змену крызісным з’явам абавязкова прыйдзе рост. І нам трэба проста дачакацца гэтага росту.

Праўда, калі прыйдзе рост у Беларусь, ён не сказаў. Гэтым і абумоўлена меркаванне пра масавую бульбагадоўлю.

Сапраўды, калі будзе рост? Калі скончыцца крызіс? Гэта невядома, таму што крызіс, насамрэч, ужо прайшоў, і пра гэта неаднаразова згадвалася. Эканамісты мяркуюць, што крызіс — гэта калі падае ВУП. Згодна з дадзенымі Еўрастата, ВУП еўразоны (тыя краіны, якія карыстаюцца еўра) у мінулым годзе вырас на 1,5%, а Еўрасаюза ў цэлым — на 1,8%. Нават шматпакутная Грэцыя паказала ў 2015-м рост ВУП на 0,25%, калі ўсе прадказвалі ёй спад ад 1,5% да 3% — у залежнасці ад фантазіі.

Ва Украіне, дзе не заканчваецца вайна, іх Нацбанк зафіксаваў рост ВУП каля 1% па першаму кварталу 2016 года.

А крызіс — толькі ў нас і ў нашага «галоўнага саюзніка». ВУП Расіі за 2015 год упаў на 3,7%, у нас — на 3,9%. Нават наш партнёр па ЕАЭС і Мытным саюзе Казахстан скончыў мінулы год з плюсам у 1,2% ВУП.

Вось і думай, чаму ва ўсіх пад’ём, а ў нас — крызіс. Можа, гэта мы самі вінаватыя? Можа, трэба было б звярнуць увагу не на «знешнія фактары», а зірнуць на сябе?

Але нам усё яшчэ прапаноўваюць зацягнуць паясы і пачакаць. Як казаў наш правадыр, як толькі хваля пойдзе ўверх, мы апынёмся наперадзе ўсёй планеты. Бо нездарма ж мы праводзілі мадэрнізацыю прадпрыемстваў? Гэтыя прадпрыемствы нас і выцягнуць…

Думка, шчыра кажучы, вельмі спрэчная. Яна заснаваная на савецкім «дэфіцытным» мысленні: маўляў, варта стварыць тавар, і яго абавязкова нехта набудзе. Але пасля СССР прайшло ўжо чвэрць стагоддзя, і дэфіцыту ўжо даўно няма — быў бы грошы.

Вось мы мадэрнізавалі цэментныя заводы, упіхалі туды мільярд долараў. А потым высветлілася, што наш цэмент нікому не патрэбны — у свеце свайго хапае. Ці, напрыклад, нашумелы на гэтым тыдні «Мастоўдрэў». Паводле афіцыйных дадзеных, у мадэрнізацыю прадпрыемства з 2008 па 2015 дзяржавай было ўкладзена каля 182 мільёнаў еўра. А зараз прадпрыемства знаходзіцца на мяжы банкруцтва, таму што яго прадукцыя не карыстаецца попытам. На гэты конт старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў заявіў: «Не пралічылі рынкаў — і сутыкнуліся з праблемамі. Прадпрыемства мае не больш за 50% загрузкі. Адразу паўсталі пытанні з рабочымі, з заробкамі, з фінансавым станам. Бізнесам павінен займацца той, хто разбіраецца ў гэтым».

А як робяць нармальныя гаспадарнікі? Яны спачатку думаюць пра тое, які тавар і каму можна прапанаваць. А ўжо потым пачынаюць яго вырабляць. Напрыклад, бачаць яны, што Беларусь мадэрнізуе свае чыгуначныя шляхі, будуе атамную станцыю і электрыфікуе рэйкі ад Мінску да Гомеля. Значыць, што? Значыць, ім спатрэбяцца цягнікі. І, — вось яно, — у Беларусі паўстае швейцарскі «Штадлер» па вытворчасці тых самых цягнікоў.

Праўда, у Беларускай чыгункі і Мінскага метрапалітэну не так багата грошай, каб масава набываць гэтыя цягнікі. Але гэта ўжо іншыя праблемы.

А мы ўсё чакаем заканчэння крызісу ды спадзяемся на тое, што спраўдзяцца бюракратычна-фантастычныя прагнозы. А яны, сабакі, ніяк не хочуць спраўджвацца. Скажам, на ўвесь гэты год інфляцыя запланавана ў памеры 12%. Але ўжо за першы квартал яна склала 5,7% — амаль палову гадавога прагнозу. Мы сціпла запрагназавалі «грэчаскі ВУП» — рост у 0,3%. А ён, гэты ВУП, толькі за першы квартал абрынуўся на 3,6%. Ну што яму перашкаджала адпавядаць паказчыкам?

Вось Белстат рапартуе, што намінальная налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў сінявокай у сакавіку 2016 года вырасла на 478 тысяч — да 7 094 521 рубля, а рабочых і служачых — на 483,7 тысяч да 7 136 393 рублёў. Канешне, гэтыя лічбы выклікалі злыя кпіны ў інтэрнэце. Асабліва ў людзей з рэгіёнаў, якія пішуць, што знайсці працу за чатыры мільёны ў месяц — гэта ўжо шчасце. А ў асноўным заробак — тры мільёны і менш.

Адначасова той жа самы Белстат піша: «Рэальная заработная плата работнікаў у сакавіку знізілася на 3,2% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года… Сярэднямесячная рэальная зарплата ў 1 квартале 2016 года знізілася на 3,4%».

Дык я не зразумеў, хто прысабечыў «намінальную налічаную» зарплату ды так, што «з’елася» не толькі павышэнне на паўмільёны рублёў, але і яшчэ больш? Што, зноў ЖКГ вінаватая?

Вось яшчэ адно дзіва. Сярэдні памер пенсій па ўзросту ў сакавіку 2016 года склаў 2 мільёны 906,8 тысячы рублёў (каля 130 долараў ЗША), паведаміў той жа Белстат, і пахваліўся, што гэта больш за лютаўскі паказчык аж на 0,1%. Але пры тым жа сярэдні памер прызначаных пенсіянерам пенсій склаў 2 мільёны 820,1 тысячы рублёў. Хто і дзе «заныкаў» пенсіянерскіх 85 тысяч?

Як кажуць, без стакана тут не разбярэшся. І беларусы спрабуюць разабрацца. Даволі працяглы перыяд продажы гарэлкі ў Беларусі падалі: у 2015 годзе яны знізіліся на 10,6% у параўнанні з 2014 годам. А ў першым квартале 2016 года рэалізацыя гарэлкі ў Беларусі вырасла на 1,1%.

За першы квартал гэтага года прададзена 2 мільёны 138,9 тысячы дэкалітраў гарэлкі, яе доля ў агульным аб’ёме продажаў алкаголю склала 50,1% (у першым квартале 2015 г. — 47%). Прычым, спажыванне астатняга алкаголю стабільна падае. Лікёра-гарэлачных вырабаў рэалізавана на 8,6% менш, вінаградных він — менш на 3,5%, пладовых він — зніжэнне на 23,9%. Каньяку прададзена на 12,7% менш, слабаалкагольных напояў — на 11,6% менш. І толькі Новы год выратаваў пеністыя віны, уключаючы шампанскае, якога было прададзена на 1,5% больш.

Гэта трывожная тэндэнцыя для Аляксандра Рыгоравіча, які казаў у пасланні народу і парламенту: «Перастанем піць — другая бяда будзе». Цікава, якая?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Юрась Карманаў

**Беларускі журналіст, які працуе на «Associated Press», узарваў сусветную супольнасць.**

Артыкул пад назвай «Тэст выявіў Чарнобыльскі асадак у беларускім малацэ» выйшаў 25 красавіка ў рубрыцы «AP Exclusive». Па сусветнай медыяпрасторы ён разышоўся як вірус. На мабільных прыладах артыкул быў загружаны ў першы ж дзень 43 тысячы разоў і ўзначаліў рэйтынг «Мабільны Топ-10» на AP.

Сутнасць у тым, што побач з Палескім радыелагічным запаведнікам журналісты знайшлі ферму, якая пастаўляе малако на ААТ «Мілкавіта» ў Хойніках, якое, у сваю чаргу, прадае каля 90% прадукцыі ў Маскву. Між тым, у малацэ, якое журналісты як прыватныя асобы набылі ў фермера і здалі ў Мінскі абласны цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, было выяўлена перавышэнне нормы стронцыю ў 10 разоў (!). У фермера не аказалася ніякіх прыладаў для кантролю за радыяцыяй у сваіх прадуктах.

Зразумела, Мінскі цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, а таксама прадпрыемства «Мілкавіта» аспрэчваюць інфармацыю пра забруджанне фермерскага малака радыяцыяй. Аднак запіс пра здадзенае на аналіз малако ёсць у журнале лабараторных даследаванняў Мінскага гарадскога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя. А таксама ў журналістаў засталася даведка па выніках аналізу. З дакументамі ўжо не паспрачаешся.

## Вячаслаў Кебіч

**Калі б былы прэм’ер у свой час стаў прэзідэнтам, мы б зараз жылі ў іншай краіне. У Расіі.**



Пра гэта сведчыць яго новая кніга. Вячаслаў Кебіч працягвае выдаваць кнігі. Раней былі апублікаваныя яго ўспаміны «Спакуса ўладай» і «Белавежскі гамбіт». Новая кніга называецца «Любім мы Расію?». У назве прысутнічае пытальнік, але на 500 старонках аўтар паслядоўна даказвае, што праўдзівы, справядлівы і гістарычна дакладны адказ можа быць толькі адзін: «Так!».

Назвы раздзелаў кнігі гавораць самі за сябе — «Мы наш, мы «русский мир» пабудуем?», «Пра тое, чаму ні адна з рэспублік не пярэчыла развалу СССР», «Віскулі да і пасля: храналогія дзяржаўнага перавароту», «Рэспубліка Беларусь у СНД: «запаведнік сацыялізму» ці «Вандэя капіталізму?» і г.д.

«Беларускі народ ганарыцца тым, што яму давялося быць «запаведнікам сацыялізму», захавальнікам вечных маральных каштоўнасцяў. Надыдзе той дзень, я ў гэтым не сумняваюся, калі да гэтай жыватворнай крыніцы прыпадуць усе тыя, хто, адурманены міязмамі капіталізму, паспяшаўся адмовіцца ад савецкага мінулага», — піша Кебіч.

Таксама аўтар кнігі адзначае: «Сцерагчыся прыходу «русского мира» ў Беларусь няма ніякага сэнсу. Ён даўно ўжо тут. У нашых думках. У нашых душах. У нашым ладзе жыцця».

## Віктар Ганчарэнка

**Былы трэнер БАТЭ ўваходзіць у лік кандыдатаў на пасаду галоўнага трэнера «Кубані».**



Краснадарскі клуб цікавіцца беларускім спецыялістам, піша sport-express.ru. Гаворка ідзе пра пачатак працы летам.

Ганчарэнка ўжо быў трэнерам «Кубані». Ён быў звольнены ў лістападзе 2014-га, калі яго каманда адставала ад другога месца на адзін бал, пацярпеўшы ў трынаццаці турах толькі адну паразу. Звальненне здарылася пасля гасцявой перамогі над «Уралам». Пасля гэтага Ганчарэнка ўзначаліў пакрыўджаны ім «Урал» — і ў першым жа матчы пакрыўдзіў «Кубань», шляхам гасцявой перамогі «Урала» над «Кубанню». Але перад гульнёй з «Церакам» Ганчарэнка звольніўся: кажуць, у знак пратэсту супраць «дамоўнага» матчу, дзе «Урал» павінен быў «зліцца» «Цераку».

Зараз экс-рулявы БАТЭ, «Кубані» і «Урала» працуе асістэнтам Леаніда Слуцкага ў ЦСКА.

# Дзяржава ставіцца да нас як да жывёл

Тацццяна ШАПУЦЬКА

**Супрацоўнікі Мінгандлю прыйшлі з пазапланавай праверкай у міні-кавярню — адразу пасля іх візіту «хуткая» забрала ўладальніцу кавярні Тацццяну Аляхновіч у шпіталь з высокім ціскам. Зараз прадпрымальніца злягла з нервовым зрывам.**



Невялікая кавярня на чатыры столікі месціцца ў адным з мінскіх гандлёвых цэнтраў, дзе прадаюцца разнастайныя аўтамабільныя тавары. Ужо некалькі дзён як пакупнікі, так і гандляры застаюцца без адзінага месца, дзе можна было падмацавацца ды выпіць кубак кавы. Кавярня працуе год, і за гэты час перажыла дзве праверкі — калі на працу санстанцыі Тацццяна Аляхновіч не наракае, ад праверкі Міністэрства гандлю жанчына дагэтуль у шоку.

— Мне тэлефануе прадавец, кажа — маўляў, прыйшла праверка з Мінгандлю. Я пытаюся: табе прадпісанне, пасведчанні паказалі? Апынулася, нічога не паказалі. Кажу, нічога табе не дазваляю падпісваць, выязджаю, хутка буду. Папрасіла трубку перадаць рэвізорам, яны адмовіліся браць — маўляў, няхай прыязджае, на месцы ўсё вырашым. Адначасова з гэтым жанчына (адна з рэвізораў. — аўт.) ужо пачала лазіць па лядоўнях… Яшчэ прадпісанне не падпісалі, кнігу ўліку не завялі, пасведчанняў не паказалі. Па сутнасці, можна было проста зачыніцца і выклікаць міліцыю — хто гэтыя людзі?

Пакуль Тацццяна Аляхновіч ехала ў кавярню, рэвізоры ўжо пачалі праверку.

— Прадавец займалася дакументамі, тым часам правяраючы пайшоў у падсобку глядзець лядоўню. Там нельга знаходзіцца без матэрыяльна адказнай асобы — мяне, — бо ў памяшканні ляжаць асабістыя рэчы. У лядоўні на паліцы для персаналу былі мае дзве катлеты, гэта я ссабойку брала, там была этыкетка ад «Віталюра» — бачна, што маё, а не з кавярні. Рэвізор гэтыя катлеты дастаў, перамацаў іх, перанюхаў…

Пасля з кутка, дзе вісіць інфармацыя для спажыўцоў, узяў арыгінал дакумента асартыментага пераліку з пячаткай — і наўпрост у арыгінале пачаў нейкія свае лічбы пісаць асадкай! У афіцыйным дакуменце!

Пазней, дарэчы, у мяне гэты асартыментны пералік проста знік, хаця афіцыйнага вымання не праводзілася. Рэвізор сказаў, што паклаў гэты дакумент у кнігу праверак і рэвізій, аднак на відэа (з камеры відэаназірання ў кавярні. — аўт.) дакладна бачна, што кнігу ён вярнуў пустую. Калі я праз некалькі дзён прыйшла ў Мінгандлю і спыталася, дзе мой асартыментны пералік — я не магу без яго працаваць, — ён сказаў, што кінуў яго ў кнігу. Кажу: «Вы ж разумееце, што вы туды не клалі?» Яны ўсе там з мяне засмяяліся, і ён кажа: «Дакажыце!» Такое бяспраўе! Ставяцца як да нейкіх жывёл.

Па выніках праверкі рэвізоры вынеслі прадпісанні зачыніць кавярню




на 10 дзён, хаця выяўленыя парушэнні цяжка назваць істотнымі — у прыватнасці, на цэнніках няправільна ўказаныя назвы краін-вытворцаў (напрыклад, не Рэспубліка Беларусь, а РБ), не была вывешаная інфармацыя пра забарону прадаваць запальнічкі асобам да 15 гадоў; на бутэльцы з сіропам для кавы дрэнна разбіраецца тэрмін прыдатнасці — дарэчы, на відэазапісе бачна: рэвізор пагадзіўся з прадаўцом, што надпіс прачытаць нескладана, аднак, як вынікае з дакументаў, усё ж унёс гэта ў спіс парушэнняў… У лік парушэнняў унеслі і адсутнасць спецвопраткі, нягледзячы на тое, што прадавец паказала адмысловы халат правяраючым — дзяўчына зняла вопратку на некалькі хвілін, бо выходзіла ў прыбіральню, аднак гэты довад яны да ўвагі не прынялі.

Самай «цяжкай» правінай рэвізоры палічылі наяўнасць пратэрмінаваных прадуктаў — тыя самыя дзве катлеты з ссабойкі, пачак сухарыкаў, якія ляжаў на вітрыне ў якасці прыкладу (адпаведная пазнака, што сухарыкі — узор і не прадаюцца, была на пачку) і адзін бутэрброд («бульбадог», які проста размарожваўся ў лядоўні). Агульная сума «пратэрміноўкі» — 65 тысяч рублёў. Нават калі пагадзіцца з рэвізорамі і палічыць гэтыя прадукты пратэрмінаванымі, ці варта за такую суму зачыняць кавярню?

Акрамя сапсаванага здароўя, прадпрымальніца можа панесці велізарныя фінансавыя выдаткі. Дакладных сумаў Тацццяна Аляхновіч яшчэ не пралічвала, аднак

**Уся праверка зафіксаваная на камеру відэаназірання, і дзеянні рэвізораў можна параўнаць з тым, як тое мусіць праводзіцца**

толькі штраф, які ёй могуць выпісаць, складае некалькі мільёнаў. А яшчэ 10-дзённы кошт арэнды, камунальных паслугаў, падаткаў… Да таго ж у кавярні засталося шмат ежы. Забраць дадому і з'есці, каб не прападала, прадпрымальніца не можа, бо ў выпадку, калі яе скаргі на выніка праверкі ў Міністэрства гандлю, Камітэт дзяржкантролю і Генеральную пракуратуру будуць задаволеныя, жанчына будзе патрабаваць кампенсацыі за папсаваныя прадукты.

Тацццяна Аляхновіч зазначае, што дакументы па выніках праверкі складзеныя неахайна: шмат абдрукоўак, прадпісанні на закрыццё кавярні (афіцыйныя дакументы) надрукаваныя на чарнавіках; у адным з экземпляраў зробленыя папраўкі карэктарам; у дакуменце пазначана, што праверку праводзілі тры рэвізоры, а насамрэч іх было двое. Дарэчы, калі рэвізоры прывезлі ў кавярню прадпісанне на закрыццё, Тацццяны Аляхновіч на месцы не было, і рэвізоры, пагражаючы міліцыяй, спрабавалі прымусіць падпісаць дакументы прадаўца (ёсць на відэа на нашым сайце novychas.by).

Яшчэ адна дзіўная акалічнасць: разам з рэвізорамі падчас праверкі прысутнічалі двое невядомых людзей — мужчына з фотаапаратам і жанчына з дыктафонам. Па іх гутарцы Тацццяна зразумела, што яны, быццам, з газеты, аднак яны не прадставіліся, а калі прадпрымальніца спыталася, на якой падставе жанчына вядзе аўдыёзапіс, яна хуценька схавала дыктафон у сумку (ёсць на відэа).

Таксама на відэазапісе бачна, як рэвізоры паказваюць на паліцы і вітрыну і актыўна каменціруюць «журналістам», паказваюць унутраныя дакументы кавярні, абяцаюць выслаць акт праверкі жанчыне на мэйл…

Чаму правяраючыя так дачапіліся да яе сціплай міні-кавярні, Тацццяна Аляхновіч не ўяўляе. Магчыма, паказная праверка для «журналістаў», магчыма, скаргу на кавярню напісаў помслівы кліент.

— У лютым прыйшоў чалавек, купіў булку (у плёнцы). Спытаўся, дзе прыбіральня, пайшоў туды. Пасля прыходзіць з адкрытай булкай — маўляў, глядзіце, там цвіль. Я прапанавала вярнуць грошы, у якасці кампенсацыі прапанавала каву. Ён гаворыць: «Давайце 200 тысяч і каву». Я адмовілася — на якой падставе я буду даваць яму гэтыя грошы? У нас усё прыходзіць па дакументах, калі з булкай нешта не тое — я буду пісаць пастаўшчыкам. Тады ён прыгразіў скаргай у Мінгандаль і паабяцаў праблемы. Пасля ён мне набіраў на асабісты нумар, хаця дзе ён мог яго ўзяць? Пачаў пагражаць, маўляў, лепш бы далі грошы, адрас выпытваў. Давялося напісаць на яго заяву ў міліцыю, на што мне ўчастковы сказаў: «А што вы хочаце, ён вас абражаў матам, нажом тыкаў? Ну калі тыкне, тады і прыйдзеце». Я кажу: як жа, на відэа факт вымагальніцтва грошай, чутны пагрозы — міліцыянт пасмяяўся, і ўсё.

Тацццяна Аляхновіч складваць рукі не збіраецца і гатовая нават да судовых спрэчак:

— Вялікія сеткі крамаў баяцца нешта казаць, яны не могуць проста зачыніцца, ім далей працаваць з Міністэрствам гандлю. Я ж індывідуальная прадпрымальніца, мне і так створаныя ўмовы, што зробкаў фактычна ніякіх. І калі яны будуць да мяне хадзіць адзін за адным, даймаць праверкамі і штрафамі, я не бачу сэнсу далей працаваць.

Гэтая гісторыя незвычайная таму, што ўся праверка зафіксаваная на камеру відэаназірання, і фактычныя дзеянні рэвізораў (акрамя праверкі ў падсобцы, дзе камера не фіксуе) можна параўнаць з тым, як праверка мусіць праводзіцца. Магчыма, менавіта таму, што правяраючыя не чакалі, што іх дзеянні будуць запісвацца на відэа, што Тацццяна Аляхновіч не ціха пагодзіцца з парушэннямі і выплаціць штраф, а напіша скаргі і звернецца ў СМІ, пакуль (прынамсі ў інтэрнэце) мы не змаглі знайсці хоць якую інфармацыю пра гэтую праверку ад таямнічых журналістаў…

Магчыма, нашы чытачы сутыкаліся з падобнымі сітуацыямі альбо маюць станоўчы досвед абароны ад нядобрасумленных рэвізораў — пішыце на адрас рэдакцыі novychas@gmail.com, Тацццяна Аляхновіч шукае аднадумцаў.

# Чарнобыльскі шлях – 2016

## Крэатыў і еднасць

Сяргей ПУЛЬША

**«Чарнобыльскі шлях» прайшоў даволі відовішчна ды крэатыўна і, нягледзячы на надвор’е, сабраў даволі шмат людзей.**



Фота Аляксея Сталярова

Прыемна здзівіла, што на акцыі даволі мірна суіснавалі і «радыкалы», і «памяркоўныя». Актывісты Аб’яднанай грамадзянскай партыі на чале з Анатолем Лябедзькам ішлі разам з сябрамі «Гавары праўду», Андрэем Дзмітрыевым і Таццянай Караткевіч. Сябры Партыі БНФ не ганьбілі анархістаў, якія з’явіліся на акцыю з чорна-чырвона-чорнымі сцягамі. Левыя «зялёныя» і правыя хрысціянскія дэмакраты не кідаліся ў ідэалагічныя бойкі і спрэчкі.

Карацей, гэты «Чарнобыльскі шлях» стаў аб’ядноўчай акцыяй для апазіцыянераў. Значыць, яны могуць аб’ядноўвацца, калі хочуць. І калі для гэтага ёсць грунтоўная падстава.

Варта адзначыць і разумную стратэгію правядзення акцыі. Гэтым разам ад пачатку нават не заяўляўся мітынг на плошчы Бангалор. Шэсце адразу скіроўвалі да Чарнобыльскай капліцы на вуліцы Карастаянавай.

Але ўсё, як заўсёды, сапсавала міліцыя. Гэтым разам металашукальнікамі была абкружаная ўжо пляцоўка ля капліцы. Што выклікала зразумелую і стандартную рэакцыю: людзі не пагадзіліся праходзіць праз дагляд, палічыўшы гэта ніжэй за сваю годнасць. І пачалі разыходзіцца.

Увогуле, гэта дзіўная міліцэйская традыцыя. Калі б яны шукалі выбухоўку альбо атрутныя рэчы — трэба было б гэта рабіць адразу на месцы збору, перад пачаткам акцыі. Патэнцыйны тэрарыст мог сто разоў зрабіць сваю справу падчас шэсця. Абшукваць людзей ужо па заканчэнні акцыі папросту бессэнсоўна. Калі, канешне, не задаешся мэтай дробнай помсты за сапсаваны вечар. А менавіта на тое і выглядаюць дзеянні міліцыі.

**Гэты «Чарнобыльскі шлях» стаў аб’яднаўчай акцыяй для апазіцыянераў. Могуць аб’яднацца, калі хочуць**

Акцыя традыцыйна скончылася хвілінай маўчання. Паводле папярэдняй інфармацыі, ніхто затрыманы не быў.

## Якая дарога да Храма — такі і марш

Аляксандр УЛІЦЁНАК

**Марш 26 красавіка — у крыві многіх: традыцыя... Але хіба можна параўнаць сённяшні марш з тым, які мы бачылі ў 1996-м?! У відавочнага здрабнення — мільён прычын.**

Для мяне галоўная вось гэтая: прапаў дух, сышло пачуццё. Калі хочаце — святасць падмяніла дзяжурка. Запалітызавалі марш: аслабеў ток, згасла энергія, замест веры — дзяжурныя лозунгі. Набор клішаваных патрабаванняў. Да ўлады, вядома ж.

Ну а самі? Паклаўшы руку на сэрца: толькі адну ідэю, толькі аднаго апазіцыянера магу ўспомніць, які падаў за 30 гадоў эфектыўную і рэзанансную, практычна падхопленую ўсёй Беларуссю чарнобыльскую ідэю. Гэта Генадзь Грушавы з яго клопатам пра здароўе дзяцей зоны. Ён паўмільёна вывез на аздараўленне! Паспрабуйце паўтарыць у любым зручным для вас сучасным фармаце! Калі ёсць такое — тады ёсць глыбокі, сакральны сэнс і ў маршах. Тады яны для людзей, а не для апазіцыянераў.

Але больш за два гады таму Чарнобыль забраў і Генадзя Уладзіміравіча. Сыходзячы, ён пакінуў свой сімвал пазбаўлення ад спадчыны катастрофы — Сад надзеі ля аднаго з самых вялікіх сталічных храмаў. І Сад той ёсць знакам многім. Але — зноў жа — дзяжурным знакам: па вялікім рахунку, дарога да пазалочаных купалаў, да дрэў жыцця і надзеі бязлюдная. Запушчаная. І сад запушчаны.

Вось успомнілі, запрасілі ганаровым арганізатарам на Марш нашу нобелеўскую лаўрэатку Святлану Алексіевіч, аўтара «Чарнобыльскай малітвы»: дарэчнае запрашэнне, разумнае. Але чаму б паралельна не ўспомніць і не прывесці ў парадак Сад надзеі Генадзя Грушавога? Чаму б не проста ў мегафон прараўсці ў тысячны раз грознае: «Ганьба!», а ручкамі зрабіць перад маршам хаця б нешта вельмі патрэбнае. Так, гэта ўлада вінаватая, што лясы ў зоне адсялення забруджаны — ганьба ёй! Але хто ў адказе за дзікі Сад амаль у цэнтры Мінска?

Мы забываем пра тое, хто і што для Марша знак. Сімвал. Ідэя. Шыфр. Код. Нарэшце — Чарнобыльская малітва. Вось і атрымліваецца: якая дарога да Храма — такі і марш.

# Дзякуй за ўсё, дарагі мой спадар Генадзь!

Валярына КУСТАВА

**Генадзя Грушавога няма з намі ўжо больш за два гады. Напярэдадні чарговай гадавіны Чарнобыльскай трагедыі хочацца яшчэ раз узгадаць, што гэта быў за чалавек. У кожнага з нас свае ўспаміны.**



З Генадзем Грушавым мяне пазнаёміў Уладзімір Някляеў. Ён сказаў: «Цябе запрашае на свой Дзень народзінаў Генадзь Грушавы, прыводзь сімпатычнага хлопца якога для пары, каб па прыстойнаму ды прыгожаму, Грушавы з табой пазнаёміцца хоча. Ён круты». Пытаюся: «А хто гэта? А што яму падарыць?» Някляеў тады сказаў, што ў Грушавога ўсё ёсць, нічога не трэба і што ён усіх беларускіх дзяцей за мяжой аздараўляў, стварыўшы Фонд «Дзецям Чарнобыля».

І тут я ўспомніла, што калі мне было восем гадоў, я ездзіла ў Германію на некалькі месяцаў у складзе змешанай групы — дзеці з Чарнобыльскай зоны і таленавітая падлеткі (мастакі, малады паэты). Кіраўніком групы быў мастацтвазнаўца Міхась Баразна (будучы рэктар Акадэміі мастацтваў).

Я была адной з самых маленькіх па ўзросце. У першы дзень мяне вывезлі далёка ад усіх, у асобную сям’ю, дзе жылі маладая маці Дораці, яе муж Норберт і іх смуглявая прыёмная дачушка Аляксандра. Мне вылучылі пакой і да сустрэчы спяклі яблычны пірог. Я не змагла яго з’есці, бо расплакалася, стамілася і вельмі хацела дамоў. Я не разумела нямецкую мову, толькі крыху англійскую. Але я ўспомніла каляровых казачных гномікаў, якіх мы назіралі па дарозе ў Нямеччыну з вокнаў аўтобуса. Упершыню я ўбачыла прыбіральні і рукамыйнікі, дзе — цуда! — вада лілася з дапамогай руху рукі ля пімпачкі. І гномікі, гномікі...

Дораці і Норберт вырашылі ўзяць яшчэ адну дзяўчыну з маёй групы, Віку. Ёй было 14, яна была адной з самых дарослых. І добра ведала англійскую. Некалькі тыдняў мы жылі ў маёй сям’і, пасля нас разам аддалі ў сям’ю, што мусіла прымаць Віку.

Маё першае каханне — Маркус — жыў акурат у другой сям’і, у якую мы пераехалі з Вікай. Яму было 13 гадоў, і ён навучыў мяне ездзіць на ровары. Мы разам хадзілі ў школу. На ўроках англійскай мовы здолела, як цяпер памятаю, дакладна сказаць, які час паказвае гадзіннік. І клас мне пляскаў у ладкі. А яшчэ настаўнік сядзеў на стале, а дзеці шапталіся, хтосьці гартаў часопіс, хтосьці пад музыку рабіў творчае заданне. Было лёгка і весела. Ніхто не баяўся.

Гэтая лёгкасць засталася ўва мне і да гэтага.

Колькі гадоў таму, аднойчы, я ішла па цэнтры вельмі засмучаная, бо на заўтра павінен быў адбыцца фестываль паэзіі і песні ў Крэве, які я арганізавала, а ў мяне да гэтага часу не было транспарту, каб завесці туды ўсіх удзельнікаў — праблема падавалася цяжка вырашальнай. Думаючы пра гэта, я сутыкнулася з Генадзем Грушавым, які задумённа выходзіў з крамы. Ён узрадаваўся. Пачуўшы пра мае турботы, проста сказаў, што ўсё будзе добра. На наступны дзень каля моста ў Траецкім мяне і маіх гасцей чакаў вялізны аўтобус. Яго ў падарунак прывёз спадар Генадзь, ён забраў усіх, прывёз у Крэва, паслухаў канцэрт, завёз усіх спачатку ў кавярню, а пасля па дамах. І за гэта толькі папрасіў, каб маладыя паэты і я прывезлі яму свае кнігі (ён хацеў іх набыць!).

Па дарозе, даведаўшыся, што ў мяне падвіс тэлефон, ён прапанаваў свой уласны, новы, бо — ён сказаў — яму падарылі на Дзень народзінаў, але ў яго ўжо ёсць тэлефон. Я была ўражаная. Але адмовілася. А ён усё паўтараў: ды што ты, гэта дробязі, мне самому цікава і прыемна гэта рабіць.

У 2012-м на Моладзевым форуме ў Драздах, дзе мы на валанцёрскіх пачатках з калегамі ездзілі даваць майстар-класы і дапамагаць дзеткам з пастаноўкай тэматычных спектакляў, пасля прагляду на сцэну выйшаў Генадзь Грушавы. Ён сказаў, што ўгадаў, хто паставіў сцэнку для нашай групы, і што па сутнасці — яна вельмі адпаведная метафара і выяўляе акурат тое, што ён хацеў змяніць у галовах, выпраўляючы дзетак на аздараўленне за мяжу. Ён гаварыў так разумна і разам з тым зразумела, пераканаўча, шчыра і змястоўна, што я яшчэ тады адзначыла сабе — што за такога, што за яго — я б галасавала...

Ён ведаў, што вельмі, вельмі важна — дапамагаць іншым, каб змяніць мысленне людзей да лепшага. Ён памятаў пра кожнага, хаця, здавалася, што яму да ўсіх, калі сам ужо быў хворы на тое, ад чаго ратаваў беларускіх дзяцей...

Ён быў першым, хто прывучыў мяне да «латэ макіятэ». Запрасіў у «Аліву», што на праспекце Незалежнасці — і спытаў: «Якую ты каву любіш? Дзяўчына, як ты, павінна любіць напрыклад, «латэ макіятэ». Тады я ўпершыню пачула такую назву. Гэтая кава толькі з’явілася ў менскіх кавярнях. Афіцыянт прынёс. Але ў ёй аказалася недастаткова малака на густ спадара Генадзя. І тады ён загадаў памяняць яе на сапраўдны «латэ». Мы доўга размаўлялі. Было цікава з ім, а ён казаў, што яму прыемна гутарыць са мной. Я верыла.

Цяпер я п’ю толькі гэтую каву — і кожны раз успамінаю каляровых гномікаў па дарозе ў Нямеччыну, успамінаю Маркуса, школу, у якой вялікадушны сядзіць на стале, аўтобус у Крэва, Дзень народзінаў спадара Генадзя ў кавярні «Бярозка», яго прамову на Форуме, успамінаю, як спадарыня Ірына, жонка Генадзя, прыходзіла ў Берлінскі калоквіум, каб падтрымаць мяне на выступе, як завітала за год да таго ў Тахелес, на мой першы нямецкі выступ, каб пазнаёміцца, успамінаю, як танцавалі з яго сынам Максам у начным Віленскім клубе, успамінаю... І дапіваю «латэ макіятэ». І замаўляю яго зноў, зноў і зноў... Дзякуй за ўсё гэта, дарагі мой спадар Генадзь! І за тое, што мне цяпер заўжды лёгка, нястрашна. І, шчыра кажучы, перад сваімі студэнтамі я таксама сяджу на стале, а часам нават цікаўлюся, якую каву яны любяць.

# Рэбека Хармс: «Украінскі прыклад прымусіў Мінск задумацца пра незалежнасць»

Алег НОВІКАЎ

**У Мінску 24 красавіка прайшла канферэнцыя «Чарнобыль +30», адной з дакладчыц на якой была Рэбека Хармс — кіраўніца фракцыі «Зялёных» у Еўрапарламенце. У кулуарах мерапрыемства сп. Хармс адказала НЧ на актуальныя пытанні еўрапейкай палітыкі.**

***— Спадарыня Хармс, з набліжэннем 23 чэрвеня (дата, калі ў Вялікабрытаніі пройдзе рэферэндум наконт выхаду краіны з ЕС) заўважна, як на Захадзе нарастае нярвовасць і напружанасць. Песімісты лічаць, што, прагаласаваўшы за выхад, брытанцы здольныя выклікаць сістэмны крызіс Еўрасаюза, аж да поўнага развалу аб'яднання. Наколькі сур'ёзныя такія прагнозы?***

— Брытанскі рэферэндум — безумоўна, выклік для ЕС. Яшчэ ніколі ў гісторыі ні адна з вялікіх нацый, на якіх фактычна трымаецца ЕС, не заяўляла пра намер выхаду. Пры гэтым лёс ЕС вырашаецца праз вельмі сумнеўны спосаб — нацыянальны рэферэндум, — які я заўсёды крытыкую. Праўда, я не думаю, што ў выпадку перамогі еўраскептыкаў можна будзе казаць пра канчатковы калапс еўрапраекта. Хутчэй за ўсё, такі сцэнар справакуе багаты на рызыкі працэс, які на нейкі час дэстабілізуе еўрапейскі дом. Можа паўстаць пытанне выхаду Грэцыі, што будзе моцным ударам па прэстыжы Еўрасаюза. Можна чакаць выбуху нацыяналізму і расізму, якія па сутнасці накіраваныя супраць ідэі еўраінтэграцыі. Зараз паміж Лонданам і Брусэлем ідуць дэбаты: чым можна задаволіць брытанцаў? Магу сказаць, што гэта вельмі цяжкія і складаныя дэбаты.

***— Наколькі праўдзівая інфармацыя пра тое, што шатландскі ўрад рыхтуе новы рэферэндум пра незалежнасць? Пра яго, быццам, збіраюцца абвясціць у выпадку, калі большасць шатландцаў на плебісцыце 23 чэрвеня выступіць за ЕС.***

— Думаю, гэта толькі спекуляцыі ў нацыяналістычнай і жоўтай прэсе.

***— Перамога праеўрапейскіх палітычных сілаў на парламенцкіх выбарах у Сербіі можа азначаць пачатак фазы імклівай інтэграцыі Балкан у ЕС?***

— Мы хацелі б бачыць усе Балканскія краіны сябрамі Еўрасаюза. Аднак гэтаму павінен папярэднічаць этап, калі ЕС зноў набудзе ўпэўненасць і аўтарытэт. Я думаю, што сімвалам гэтага можа быць перазагрузка еўрапейскага праекта ў выглядзе падпісання новай хартыі або прыняцця новай рэдакцыі канстытуцыі Еўрасаюза. У гэтым дакуменце будуць лепш прапісаныя паўнамоцтвы нацыянальных і наднацыянальных органаў.

***— Ці можна сказаць, што першыя кандыдаты на ўступленне ў ЕС — краіны Балканскага рэгіёну, а Малдове і Украіне варта пачакаць?***

— Усё залежыць ад узроўню стабільнасці еўрапейскіх інстытутаў. Абапіраючыся выключна на кансенсус унутры ЕС і на моцныя эканамічныя рэсурсы, можна казаць пра патэнцыял пашырэння аб'яднання. Не буду хаваць, што ў Брусэлі некаторыя лічаць, што ў дачыненні да згаданых краін можна абмежавацца фарматам зоны свабоднага гандлю. Такі фармат, быццам, дазволіць падтрымліваць там дэмакратыю і гарантаваць бяспеку на межах з ЕС. На маю думку, лепшы гарант агульнаеўрапейскай бяспекі ўсё ж — палітычная інтэграцыя.

***— Ваша партыя — нямецкія «Зялёныя» — моцна крытыкуе дамову Еўрасаюза з Турцыяй. Маўляў, у абмен на прыём сірыйскіх мігрантаў Еўропа гатовая прабачыць Эрдагану яго аўтарытарныя выхадкі…***

— Я згодная, што ў рамках дамовы наконт эмігрантаў мы павінны дамагацца дэмакратычных рэформаў у Турцыі. Аднак мы павінны таксама ўлічваць, што сярод краін ЕС няма згоды на размяшчэнне імігрантаў. Я ўпэўненая, што прынцып квот на размяшчэнне імігрантаў паміж краінамі Еўрасаюза мог часткова зняць праблему і ўзмацніць нашы пазіцыі ў дыялогу з Анкарой. Вельмі сорамна, што некаторыя дзяржавы ЕС не згодныя ісці на супрацоўніцтва ў галіне міграцыйных квот. Гэта сапраўдны сорам.

***— Прыкладна ў пачатку лета, калі ўсё толькі і будуць казаць пра рэферэндум у Вялікабрытаніі, павінна быць прынятае рашэнне пра лёс санкцый супраць Расіі. Ваш прагноз?***

— Пакуль сітуацыя падвешаная. Асабіста я супраць адмены санкцый без выканання мінскіх дамоў. Прынамсі, умовай для перагляду санкцый можа быць кантроль Кіева над дасюль не кантралюемай часткай расійска-ўкраінскай мяжы.

***— А якая ваша ацэнка перспектыў новага ўкраінскага ўраду?***

— У 2014 годзе ніхто не меў асаблівых ілюзій, што ўсё будзе занадта гладка. Аднак пасля такіх моцных пратэстаў на Майдане і вялікай цаны, якая была заплачаная за перамогу над рэжымам Януковіча, падавалася, што эліты павінны задумацца. Няздольнасць старой каманды перамагчы карупцыю патрабуе новай генерацыі палітыкаў. Я спадзяюся не на ўрад, а на новыя выбары, якія прывядуць ва ўладу свежыя палітсілы. Інакш краіна згубіць давер на Захадзе.

***— Што вы думаеце пра апошнія прыкметы пацяплення паміж Мінскам і Захадам?***

— Гэта для еўрапейскіх палітыкаў абсалютна новая і вялікая тэма. Для мяне відавочна толькі тое, што Лукашэнка хоча працягваць кантраляваць краіну перад пагрозай з Усходу. Украінскі прыклад прымусіў Мінск задумацца пра незалежнасць.

Варта дадаць, што першапачаткова спадарыню Хармс не хацелі пускаць у Беларусь, паколькі, як высветлілася на пашпартным кантролі, палітык знаходзіцца ў расійскім «чорным спісе». Спатрэбіўся званок у пасольства ФРГ, дзе нехта выйшаў на МЗС. Праз нейкі час там дазволілі ўезд Хармс у Беларусь, што, напэўна, таксама ёсць сімвалічнай праявай жадання нашых уладаў нешта мяняць на заходнім напрамку.




# Андрэа Віктарын: мы ніколі не забываемся пра правы чалавека

Вольга ХВОІН

**Еўрасаюз не выключае пытанне правоў чалавека з парадку дня ва ўзаемаадносінах з Беларуссю. Пра гэта заявіла старшыня Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Беларусі Андрэа Віктарын у часе канферэнцыі, арганізацый грамадзянскай супольнасці «Развіццё нацыянальнай платформы: новыя стратэгіі». У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі каля 70 грамадскіх арганізацый.**



Адным з кантэкстаў сёлетняй канферэнцыі сталі палітычныя падзеі пачатку красавіка: на пасяджэнні Каардынацыйнай групы ЕС—Беларусь упершыню за доўгія гады прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці ўдзельнічалі ў трохбаковых кансультацыях «ЕС — беларускі ўрад — грамадзянская супольнасць».

У сувязі з новымі абставінамі нацыянальны каардынатар ФГС УП Улад Вялічка адзначае, што Нацплатформа дала магчымасць грамадзянскай супольнасці наўпрост гаварыць з ЕС. А спробы далучыць грамадзянскую супольнасць да дыялогу даюць спадзяванні набыць новы статус.

У рабоце канферэнцыі прыняла ўдзел і старшыня Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Беларусі Андрэа Віктарын. Яна адзначыла, што Еўрасаюз застаецца прыхільнікам палітыкі крытычнага ўзаемадзеяння з Беларуссю. Еўракамісары, паводле слоў дыпламата, прызнаюць, што за апошнія два гады былі зробленыя некаторыя крокі для паляпшэння адносінаў. У прыватнасці, гэта пачатак перамоў па пагадненнях аб спрашчэнні візавага рэжыму, мабільнасці. Летась аднавіўся дыялог паміж Беларуссю і ЕС па правах чалавека. У сакавіку ў Мінск прыязджаў Стаўрас Ламбрынідзіс — спецпрадстаўнік ЕС па правах чалавека. Спадарыня Віктарын адзначыла таксама канструктыўную ролю Беларусі ў сваім рэгіёне і спрыянне ў рэалізацыі Мінскіх пагадненняў, што скіраваны на вырашэнне вайсковага канфлікту ва Украіне.

«Вызваленне палітвязняў у жніўні 2015 года было крокам, якога ЕС доўга дамагаўся. ЕС канстатуе, што кастрычніцкія выбары ў 2015 годзе прайшлі без гвалту. Такім чынам было адзначана, што парадак дня, супрацоўніцтва Беларусі з ЕС можа стаць больш пазітыўным, — сказала Андрэа Віктарын. — І ўсё гэта прывяло да прыняцця двух рашэнняў з боку ЕС: прыпыніць дзеянне санкцый і ў лютым 2016 года ўвогуле скасаваць санкцыі ў дачыненні да большасці тых, хто быў «чорным спісе» ЕС. Дзякуючы ўсяму гэтаму былі створаныя перадумовы для работы каардынацыйнай групы. Мы асабліва ўзрадаваныя, што на першай сустрэчы ўдзельнічалі прадстаўнікі чатырох арганізацый ад грамадзянскай супольнасці. Не ўсё так проста было, але важна, што мы змаглі сабраць тры бакі вакол круглага стала. Я спадзяюся, што справа будзе мець працяг».

**Мы цалкам перакананыя, што ніхто не мае права забіраць чужое жыццё. Менавіта таму мы заклікалі Беларусь увесці мараторый на смяротную кару**

Андрэа Віктарын таксама нагадала, што для ЕС ёсць актуальнымі пытанні рэабілітацыі палітвязняў, аднаўленне іх грамадзянскіх і палітычных правоў, знішчэнне перашкод для рэгістрацыі палітычных партый і грамадскіх арганізацый незалежна ад іх поглядаў. У спісе актуальных тэм — і наяўнасць смяротнай кары ў Беларусі.

«Мы цалкам перакананыя, што ніхто не мае права забіраць чужое жыццё. Менавіта таму мы заклікалі Беларусь увесці мараторый, каб канчаткова скасаваць гэтую меру. І будзем працягваць гэтыя заклікі», — сказала дыпламат.

Яна нагадала пра мерапрыемствы, якія праводзіў ЕС у рамках праграм, скіраваных на адмену смяротнага пакарання. Гэтае ж пытанне будзе ўздымацца падчас наступнага раўнду перамоў па правах чалавека, што адбудзецца, меркавана, у чэрвені ў Мінску. Перад гэтым плануюцца кансультацыі з праваабаронцамі і прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці.

Падтрымка грамадзянскай супольнасці была і застаецца ключавым элементам у адносінах ЕС і Беларусі, адзначыла Андрэа Віктарын.

**Літаратурная Беларусь**

Выпуск №4 (116)
(красавік)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»
lit-bel.org
novychas.by

## Змест

**НАВІНЫ:** асноўныя падзеі грамадска-літаратурнага жыцця Беларусі.с. 2
**ПАМЯЦЬ:** «Падарожжа да Міхася СТРАЛЬЦОВА» Анатоля ВЯРЦІНСКАГА....с. 3
**ЗАПІСЫ:** дзённікавыя нататкі Анатоля КУДРАЎЦА....с. 4
**ПАЭЗІЯ:** новыя вершы Алены ІГНАЦЮК і згадка Сяргея ПАНІЗЬНІКА пра Веру ВЯРБУ....с. 5
**ЧЫТАЛЬНЯ:** эсэ Франца СІЎКО «Я пешкі, мама» і аповед «Дарунак» Міколы БУСЛА....с. 6–7
**ПАЭЗІЯ:** вершаванае «Прычасце» Васіля ЗУЁНКА....с. 8
**ЧАРНОБЫЛЬ:** урывак з дакументальнага рамана Валера САНЬКО..с. 9
**АСОБА:** Ала ПЕТРУШКЕВІЧ пра новае юбілейнае выданне Аляксея ПЯТКЕВІЧА....с. 10
**ДЗЕЦЯМ:** паэтычны падарунак Уладзіміра СІЎЧЫКАВА і Алеся ЕМЯЛЬЯНАВА....с. 11
**СПАДЧЫНА:** старонкі з апошняй прыжыццёвай кнігі эсэістыкі апошняга Народнага паэта Беларусі Ніла ГІЛЕВІЧА....с. 12

# У вянок памяці Ніла Гілевіча



### Брату Нілу Сымонавічу

***Замест тосту ў застоллі***
***30 верасня 2011 г.***

Мікола ГІЛЬ

*Ёсць боскае, па ўсім, наканаванне,*
*Што тая ж падгаенская зямля*
*Купалы праз паўвека апасля*
*Тваё узгадавала дараванне.*

*І талентам крынічным надзяліла,*
*Ды — лёсам горкім, здрадзівым, што жах!*
*Ты быццам паўтарыў Купалы шлях, —*
*І ява, й прышласць — белы свет нямілы!*

*А выдавала колісь, мілы Божа!*
*Народ і край — жыве, адно — прывяў,*
*І песню ім абодвум ты спяваў*
*Нястомна і натхнёна, шчыра, гожа!*

*Усім, чым мог, што меў і чым валодаў,*
*Біў у адно, нібы каменячос:*
*Каб мовы нашай і краіны лёс*
*Быў шчасны, як у іншых ёсць народаў.*

*Любоў прасветлая і боль пякельны*
*За мову родную і родны люд —*
*Да гэтакай галеры ты прыкут*
*З юнацтва і па сёння непадзельна.*

*І, як Купала, шчыраваў з размахам,*
*Не шнур араў, а краю ўвесь абшар,*
*Шырокі твой і вольны творчы дар —*
*Ён семярых, як кажуць, пабіваха м.*

*І працы плён — на семярых тых годны,*
*Абсяг шырокі культ-грамадскіх дзей,*
*Пашана і любоў сярод людзей, —*
*Як і Купала, хрышчаны Народным!*

*Раджае талент геніяў і — праца,*
*Ды тытанічная, а не ад часу час.*
*Быў пад сядлом заўсёды твой Пегас, —*
*Прад Усявышнім ёсць чым апраўдацца!*

*Быў шчасця міг, як Беларусь паўстала*
*У дзевяностых, на савецкім тле,*
*Між цемры міг у сонечным святле, —*
*Як у дваццатых помных для Купалы.*

*Прарок, Дзяржаватворца, а — зламалі,*
*Паверыў: пабялее Сатана...*
*А ты? Ты прадчуваў бяду да дна,*
*Змагаўся і... з усіх бакоў абклалі...*

*Таго, што раньш было, няма нічога,*
*Народ маўчыць, як і заўжды, здавён,*
*Ды ўсё ж аднойчы возьме кнігі ён*
*Твайго і нашага Пісьма Святога!*

*Пакуль жа наша Беларусь распнута,*
*Між роспачу й надзеяй ты жывеш*
*І на Галгофу крыж свой валачэш, —*
*Як з ім ішоў Сын Божы на пакуты.*

*І пад увагу беручы ўсё гэта,*
*Не буду я казаць банальны тост, —*
*Замест яго згадаю лепш наўпрост*
*Страфу другога слаўнага паэта:*

*«Свой сум прад непазбежнасцю агорай*
*І браму за сабою прычыні;*
*Забудзь, што быў калісьці на кані, —*
*Ступай паціху басаног па зорах...».*

### Тры кіты

***На развітанне з Нілам Гілевічам***

Анатоль ЗЭКАЎ

*Барадулін, Бураўкін, Гілевіч...*
*Адыход іх сцінае жальбой.*
*Пакрысе, Беларусь, сірацееш.*
*Ды і мы сірацеем з табой.*

*Хоць і кажуць: няма незаменных, —*
*толькі вось ці заменіць хто іх, —*
*тых, хто нас узнімаў звек з каленяў,*
*словам родным чаруючы слых,*

*хто не ладзіў з уладай хаўрусу,*
*мог у вочы ёй праўду сказаць,*
*каб сябе мог адчуць беларусам*
*кожны з нас, хто хацеў адчуваць,*

*каб без мовы мы не анямелі*
*і не сталі глухімі зусім.*
*Барадулін, Бураўкін, Гілевіч —*
*тры кіты, на якіх і стаім.*

**29 сакавіка 2016 года**

### Паэт купалаўскага гарту

***Светлай памяці Ніла Гілевіча***

Васіль ЖУКОВІЧ

*Спачыў пясняр, не скажа больш*
*Слоў пранікнёных, палымяных,*
*За нашу Бацькаўшчыну боль*
*Больш не вярэдзіць сэрца рану.*

*Ён, дум высокіх валадар,*
*Прайшоў сваю дарогу годна,*
*А больш за ўсё жадаў змагар,*
*Каб Беларусь жыла свабодна.*

*За мову і за родны сцяг*
*Змагацца ўсёй істотай мусіў,*
*Праз церні церабіў ён шлях*
*Да незалежнай Беларусі.*

*Герой, над кім не ўладны час,*
*Любові нашай вечнай варты.*
*Быў, ёсць і будзе ён у нас,*
*Паэт купалаўскага гарту.*

### Рэквіем

***Вечнае святло няхай свеціць***
***Нілу Сымонавічу Гілевічу навекі!***

Янусь МАЛЕЦ

*Ідзе, ідзе, ідзе самотны дождж...*
*І дзе, і дзе тут дзень, і дзе тут ноч?*
*Стаміўся ён, прылёг паспаць,*
*І ўжо не змог ніяк устаць.*

*Яго дарога доўгаю была,*
*І шчыраваў паэт, нібы пчала,*
*Ды час прыйшоў, ісці не змог, —*
*Бярэ навечна мудры Бог.*

*Чакаюць там ужо яго сябры,*
*Самотна вельмі родным угары...*
*І шлях на Неба раптам лёг —*
*Не будзе больш зямных дарог!*

*Ідзе, ідзе, ідзе самотны дождж...*
*І дзе, і дзе тут дзень, і дзе тут ноч?*
*Нічога болей не відаць!*
*І болю болей не чуваць...*

### Да галінак вясны Ніла Гілевіча

Сяргей ПАНІЗЬНІК

*Ніл Сымонавіч! Я ўкленчу*
*перад Марай — той зямлёй,*
*дзе жылі б адной сям'ёй.*
*Згадвалі Вы: край наш — з енчу:*
*брацьбы поручню-парэнчу,*
*мы ж махалі аглаблёй.*

*— Раць збіраць! — не ўсе крычалі.*
*— У паход! — не ўсе гулі...*
*І нас бэсцілі, знішчалі.*
*...Даастатку не змялі*
*з нашай роднае зямлі.*

*Так! Мы будзем, будзем. Будзем!*
*Толькі ж цені крывічоў*
*не дадуць сваіх мячоў.*
*На рушэнне ці палюддзе*
*знойдзем новых трубачоў.*

*Ніл Сымонавіч! На голле*
*прывілі Вы вочкі слоў.*
*Давялі Вы да галоў:*
*спее сведамая Воля —*
*весняй нацыі улоў.*

### Светлай памяці Народнага паэта Ніла Гілевіча

Мікола ЗГУБАРЭВІЧ

*Праславіў наш лагойскі край*
*Ён годна, як ніхто ніколі.*
*«Жыві ж у сэрцах і бывай!» —*
*Славянскі свет смуткуе з болем.*

*Ён стаўся ў вечнасці Паэт,*
*Для нас жа будзе вечна родны,*
*Стварыў душы сваёй санет*
*Прыстойнай і высакароднай.*

*І здолеў столькі нам сказаць,*
*Ды так, што сэрца скалынецца,*
*Што можна плакаць і спяваць,*
*Бо дух Радзімы пульсам б'ецца.*

*Як маці, мову бараніў*
*Аддана й непадкупна-шчыра,*
*Зямлю сваю ён так любіў,*
*Нібыта верасnёвы вырай.*

*Ён талент нам спаўна аддаў,*
*Святой лічыў сваю Айчыну,*
*Апошнім ён народным стаў,*
*Сапраўдным Беларусі сынам.*

### Забірае бог паэтаў

Алесь ЛІПАЙ

*Забірае Бог паэтаў год ад году.*
*Забірае і бязродных, і Народных.*
*Ды а як інача? Гэтаму народу*
*мова продкаў сталася няроднай.*

*Ён не разумее болей вершаў.*
*Ён не памятае словы гімнаў.*
*І крывіцкі старадаўні вершнік*
*ў душах люду гэтага загінуў.*

*Гонар, і каханне, і свабода*
*перасталі адгукацца ў сэрцах.*
*Забірае Бог паэтаў у народа,*
*як ратуюць абразы ад іншаверцаў.*

*Ніл. Генадзь. Рыгор. Сяргей. Уладзя.*
*Ян, Якуб, Максім, Аркадзь, Кандраце,*
*Вы служылі людзям, а не ўладзе.*
*Тэрмін службы скончыўся, прабачце.*

*...Ну, пара.*
*Па вечных цёмных водах*
*Сам вяслуючы ў адзенні зрэбным,*
*забірае Бог паэтаў у народа.*
*Бо яны Яму яшчэ патрэбны.*



Фота У.Сіўчыкава

# Развітанне з Нілам Гілевічам

**Тысячы людзей прыйшлі 1 красавіка ў Свята-Петра-Паўлаўскі Сабор у Мінску, каб ушанаваць памяць Народнага паэта Беларусі і правесці яго ў апошні шлях.**

Паэт, празаік, выкладчык, перакладчык, філолаг, этнограф, палітык, грамадскі дзеяч — Ніл Сымонавіч Гілевіч, як і ўласціва чалавеку-эпосе, нацыянальнаму прароку, быў разнабакова адораным творцам.

Пісьменнік прысвяціў, без перабольшання, усё сваё жыццё развіццю беларускай мовы, літаратуры, навукі, і, у пераходны для нашай краіны перыяд пачатку 1990-х гадоў — станаўленню беларускай дзяржаўнасці.

Развітацца са спадаром Нілам, выказаць спачуванні яго родным і блізкім прыйшлі вельмі многія — як прадстаўнікі беларускай інтэлектуальнай эліты, сябры і калегі, прыхільнікі творчасці, так і выпадковыя мінакі, якія прыпыняліся ля Сабора і далучаліся да жалобнай цырымоніі, пачуўшы імя паэта, вершы якога яны чыталі яшчэ ў школе і чые песні слухалі з юнацтва.

Былі ўскладзены кветкі і вянкі ад імя розных інстытуцый і арганізацый: Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-Цэнтра, Таварыства беларускай мовы, ЗБС «Бацькаўшчына», Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і многіх іншых.

Прыехалі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў і Таварыства беларускай мовы з розных беларускіх гарадоў, прыйшлі выкладчыкі і навучэнцы філалагічнага факультэта БДУ, дзе Ніл Сымонавіч працаваў многія гады.

Жалобную службу на беларускай мове правялі тры святары: а. Георгій Латушка, а. Юры Залоска і клірык Свята-Духава сабора а. Сергій Гардун. Пасля заканчэння малітвы настаяцель Свята-Петра-Паўлаўскага сабора протаіерэй Георгій Латушка зачытаў спачувальныя лісты ад Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі і Мітрапаліта Філарэта, ганаровага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

З развітальнымі словамі на грамадзянскай паніхідзе выступілі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, акадэмік Радзім Гарэцкі, палітыкі і грамадскія дзеячы Станіслаў Шушкевіч, Пётр Краўчанка, пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Віктар Казько, старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, дэкан філалагічнага факультэта БДУ, прафесар Іван Роўда, дырэктар Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Іван Саверчанка.

Развітанне і грамадзянская паніхіда працягнуліся на Кальварыйскіх могілках. Каля труны выступілі Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Генрых Далідовіч, Аляксей Каўка, Эдуард Акулін, Вячаслаў Рагойша, старэйшы з пляменнікаў Ніла Гілевіча Валер Маслаў. Першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч зачытаў спачувальныя тэлеграмы ад Часовага Паверанага ў справах Каралеўства Вялікабрытанія ў Рэспубліцы Беларусь, Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі, ад Саюза пісьменнікаў Швецыі, ад Героя Украіны, паэта Дмытра Паўлычкі.

Пад гімн «Магутны Божа» сотні чалавек правялі Ніла Сымонавіча ў апошні шлях...

# «Дакументы душы» Святланы Алексіевіч

**Сустрэча з Нобелеўскай лаўрэаткай адбылася 14 красавіка ў малой зале Палаца Рэспублікі, якая змясціла 500 гледачоў і шмат журналістаў.**

Імпрэза працягвалася больш за дзве гадзіны, і яшчэ стольکі ж часу доўжылася аўтограф-сесія з пісьменніцай.

Беларусы даўно чакалі магчымасці сустрэцца са Святланай Аляксандраўнай: запрашальнікі на гэтую імпрэзу былі разабраныя літаральна праз паўгадзіны пасля адкрыцця рэгістрацыі на іх. З'яўленне на сцэне спадарыні Святланы выклікала працяглыя авацыі — гледачы апладзіравалі стоячы.

Зладзілі мерапрыемства, у межах якога была прэзентаваная кніга «Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе», Радыё «Свабода» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Мадэратарамі вечара сталі дырэктар беларускай службы РС Аляксандр Лукашук і старшыня СБП Барыс Пятровіч.

Напачатку вечара беларусы прыгадалі яскравыя моманты мінулага года, праглядзеўшы фрагменты відэа з уручэння спадарыні Святлане Нобелеўскай прэміі ў Стакгольме, з першай прэс-канферэнцыі ў Мінску, прысвечанай гэтай значнай падзеі, а таксама пра тое, як беларусы сустракалі пісьменніцу ў аэрапорце па яе вяртанні ў Мінск пасля Нобелеўскага тыдня.



Выступілі Сяргей Законнікаў, Юлія Чарняўская, Зінаіда Бандарэнка, Аляксандра Дынько, Уладзімір Арлоў. Быў паказаны відэазварот журналіста і рэдактара кнігі «Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе» Сяргея Навумчыка. Кожны з прамоўцаў дзяліўся ўражаннямі пра сяброўства і супрацу са Святланай Алексіевіч, а таксама зачытваў найбольш запамінальны ўрывак з твораў пісьменніцы і задаваў ёй пытанне.

Якраз пытанням, пісьмовым і вусным, была прысвечаная большая частка сустрэчы. Звярнуцца да набеліянткі мог кожны ахвотны глядач. Гаворка ў Палацы Рэспублікі вялася пра сутнасць «чырвонага чалавека» і пра «чалавека маленькага», пра сітуацыю ва Украіне, у Расіі і дома, у Беларусі, пра 30-гадовае водгулле Чарнобыля, пра «філасофію неразумення сябе» ў простых людзей і «масу, якая можа не шмат, а толькі застаецца той формай, у якую яе залілі», пра «культ пакутаў, які гне, затрымлівае і змяншае чалавека», пра «ўнутраныя слёзы» пасля вандровак па бацькаўшчыне і многае іншае.

**Прэс-служба СБП**

# Новы «Палац» і яго архітэктары

**У выдавецтве «Кнігазбор» пабачыў свет трэці выпуск літаратурнага альманаха «Палац» Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

Адметнасцю нумара з'яўляецца тое, што нямала аўтараў друкуецца тут упершыню. Такім чынам, «Палац» для іх бачыцца аналагам мясцовага літаратурнага часопіса, якога відавочна бракуе рэгіёнам. Ды і сам змест пераконвае: літаратары Гомельшчыны выдатна спраўляюцца з укладаннем, прадстаўляючы ў кніжцы альманаха і маладзейшых, і заслужаных аўтараў, прозу і паэзію, эсэістыку і навуку, публіцыстыку і мемуарыстыку. І ўсё гэта на трох мовах: беларускай, рускай і ўкраінскай (апошняя ўводзіцца як эксперымент і даніна сяброўства з літаратарамі Чарнігаўшчыны Надзеяй Мішко-Куліш, Міхасём Ткачам, Дзмітром Івановым).

Заўважна, што літаратурны альманах «Палац» аб'ядноўвае людзей не толькі гуманітарных прафесій: адкрывае нумар краязнаўчы тэкст Аксаны Торапавай, дырэктара Гомельскага палаца-паркавага ансамбля; з артыкулам пра англійскага пісьменніка Джона Толкіна выступае архімандрыт Сава (Мажука), вядомы праваслаўны публіцыст з Свята-Мікольскага манастыра Гомеля; апавяданне друкуе Алег Літушка, які яшчэ нядаўна быў начальнікам аддзела абласной пракуратуры.

У паэтычным раздзеле, дзе публікуюцца творы Марыны Аляксандравай, Сяргея Балахонава, Лявона Муштэнкі, Генадзя Лапаціна, Ігара Дзягілевіча, Уладзіміра Бабкова, Алега Захарыка, Анатоля Печкурова, літаратараў відавочна не абмяжоўвалі ў аб'ёме. Дзякуючы гэтым нізкам (можна сказаць, мікракнігам) чытач складзе паўнавартае ўяўленне пра кожнага аўтара. Вылучаюцца медытатыўныя верлібры Генадзя Лапаціна на рускай мове і іранічныя вершы Сяргея Балаханава...

Празаічны раздзел адкрывае




фрагмент аповесці Анатоля Бароўскага, старшыні Гомельскага аддзялення СБП і укладальніка (разам з Генадзем Лапаціным) літаратурнага альманаха. «Ульрыка — анёлак вікінгаў (Шведскія матывы)» відавочна натхнёная шведскім востравам Готланд, дзе аўтару пашчасціла пабываць і намроіць старажытных вікінгаў і князёў, і саму Ульрыку. З апавяданнямі выходзяць на чытацкі суд успомнены ўжо Алег Літошка, Язэп Крупа, эсэістыка — у Анатоля Кашэвіча, Міколы Ермакова, Вадзіма Болбаса, Ларысы Раманавай. У празаічнай частцы вылучаецца твор «Пітон» Язэпа Крупы, выкананы з прыёмам «апавяданне ў апавяданні».

Даволі вялікае месца аддадзена ў альманаху мемарыяльнаму раздзелу. Акрамя артыкулаў пра спачылых творцаў, публікуюцца і іх апошнія творы: Змітра Віталіна, Міколы Клімовіча, Рыгора Клімовіча. Несумненную цікавасць выклікаюць згадкі Дзмітрыя Сергіевіча (Змітра Віталіна), члена Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП) пра Калінкавічы канца 1910-х — пачатку 1920-х гадоў.

Экскурсы ў гісторыю краю прапануюць Юры Глушакоў (пра магдэбургскае права на Палессі) і Мікола Анісавец (пра сацыяльныя і этнаканфесійныя дачыненні на Лоеўшчыне). З літаратуразнаўчымі доследамі друкуюцца Марыя Кірушкіна (артыкул пра паэзію Леры Сом) і Святлана Цыбакова (аналізе кнігу-лаўрэатку прэміі Гедройца «Час збіраць косці» Віктара Казько).

**Ціхан Чарнякевіч**

# На душы — журба,

## або Падарожжа да Міхася Стральцова



Анатоль ВЯРЦІНСКІ

*Мне б лепей у журбе,*
*у думках і здалёку,*
*ў табе і пры табе*
*шукаць сабе палёгку.*
***Міхась Стральцоў***

Сваю колішнюю, пяцідзесяцігадовай даўнасці, рэцэнзію на першую кнігу Міхася Стральцова «Блакітны вецер» я пачынаў, памятаю, з разгляду апавядання «Перад дарогай».

Што па-свойму сімвалічна, бо былі абодва прыкладна перад дарогай — літаратурнай. З невялікай розніцай ва ўзросце і творчым досведзе. Рэцэнзія ж (яна называлася «Ці існуе блакітны вецер?») была ўсяго адной з самых першых спробаў выступіць у якасці літаратурнага крытыка.

«Перад дарогай»... «На вакзале чакае аўтобус»... «На аўтобуснай станцыі»... «Падарожжа за горад»... Вершаваныя радкі: «Мне дарожанька, адпачын — табе», «І усё вяла, вяла дарога. То хмель на ёй, то дзераза...» Словам — дарога, падарожжа. Віртуальная, вобразна-паэтычная. Ды я хачу распавесці пра падарожжа сапраўднае, пра рэальную паездку на радзіму аўтара прыведзеных вышэй радкоў.

На гэты раз нас, а менавіта мяне і Міхася Шавыркіна, чакаў не нейкі «безыменны» аўтобус на вакзале, а чакаў са сваім быстраходным «Міцубішы» Міхась Скобла. Ініцыятыва, кажуць, рэч адказная, нават каральная. Ён стаў галоўным ініцыятарам выдання выбраных твораў Стральцова ў знаным кніжным праекце «Беларускі кнігазбор», укладальнікам кнігі і аўтарам каментароў да яе. І вось цяпер лічыць сваім доўгам папулярызаваць выданне, ладзіць гэтак званыя прэзентацыі і ў выпадку, падобным на наш, самому сядаць за стырно ўжо ў літаральным сэнсе гэтых слоў.

Выпраўляліся ў даволі далёкую дарогу: ад мінскай станцыі метро «Магілёўская» да поўдня магілёўскага краю — раным-рана, а сёмай гадзіне. Міхась — кіроўца — з асобнікамі «Выбраных твораў», другі Міхась, былы шматгадовы рэдактар часопіса «Роднае слова» — з публікацыяй, прысвечанай творчасці М. Стральцова, а я — з дарагім для мяне томікам «Мой свеце ясны» (маўляў, пагартаем, асвяжым у памяці па дарозе). У Бялынічах робім невялікі прыпынак — і ў выніку да нас далучаецца нядаўна прыняты ў наш пісьменніцкі Саюз празаік, рок-музыка, бард ну і, зразумела, аўтар песняў на словы Міхася Стральцова Юрый Несцярэнка. Вось такая складвалася літаргтгрупа, настроеная на адну агульную, стральцоўскую хвалю.

А ў самім Слаўгарадзе нас сустракаў блізкі зямляк Міхася Стральцова, заслужаны, вядомы на Магілёўшчыне грамадскі актывіст, аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў Фелікс Шкірманкоў. Як колішні мясцовы кіраўнік, Фелікс Уладзіміравіч парупіўся наконт правядзення прэзентацыі.

Адбывалася яна ва ўтульнай залі раённага Дома культуры. Прайшла, як і трэба было чакаць, хораша, жыва. Мы гаварылі пра адметныя вартасці кнігі М. Стральцова, пра яго творчасць і жыццёвы шлях, які пачынаўся ў некалькіх вёрстах ад гарадка, чыталіся яго вершы і ці не ўпершыню тут гучалі песні на яго словы, гучаў выразна

*Матыў лірычны, адмысловы*
*У важкай думе ці журбе —*
*Ён неабходны, каб на слове,*
*Паэце, верылі табе.*



**Міхась Стральцоў — на бабровых тонях на радзіме.** Фота Алеся Масарэнкі

Прэзентацыя мела своеасаблівы працяг. Вырашылі наведаць заадно родную вёску аўтара «Выбраных твораў», той самы Сычын, дзе ён нарадзіўся, рос-гадаваўся і які не забываў, па якім нязменна тужыў і ў душы, і разам з героямі сваіх твораў. Ехалі апетай ім у вершах дарогай. Палі, пералескі, лугавіны... «Святло той рэчанькі Галубы, якую прыгалубіў Сож»... Малая Каменка... Вялікая Каменка... Не адразу знайшлі Сычын, давялося спыняцца і распытваць. Калі даехалі — не надта ўзрадаваліся. Бязлюдная вуліца, ніводнай жывой душы. Некаторыя хаты мала з выбітымі вокнамі і абваленымі стрэхамі і столямі. З цяжкасцю адшукалі на ўскрайку вёскі... не, не хату, не сядзібу, хата настаўніка Лявона Клімавіча Стральцова згарэла, — а ўсяго толькі зарослае хмызам і густой травой падвор'е з абгарэлымі шуламі. Малюнак, так бы мовіць, не для слабанервовых. Трымаліся, дзякуючы ўпартай неадступнасці М. Скоблы. І суцешыла крыху тое, што сустрэлі ўсё ж карэннага вяскоўца — сычынца і да таго ж стрыечнага брата Стральцова. Так, таго самага, Уладзіміра Громава, якому пісьменнік прысвяціў сваё апавяданне «Двое ў лесе». Пасядзелі з ім, адзінокім і хворым, на лаўцы каля яго хаты, пагутарылі, падаравалі брату кнігу. «Ага, пачытаю» — сказаў на развітанне...

Не цяжка ўявіць, з якім пачуццём пакідалі мы «малую» радзіму М. Стральцова. З якім пачуццём, з якім настроем, з якімі думкамі. Выходзіць, — думалася, — нездарма ён аддаваў у сваіх творах столькі ўвагі тэме пакінутай вёскі, пакінутай бацькоўскай хаты, нездарма яго герой з нясцерпным болем вырашае, якім чынам памірыць у душы горад і вёску. Нібы прадбачыў аўтар, якім яно будзе, што атрымаецца з гэтага прымірэння наяве. Згадаўся амаль даслоўна ягоны ліст, адрасаваны гомельскай паэтцы Ніне Шкляравай, — яна пазнаёміла мяне потым з лістом, — дзе ён пісаў, што вельмі хочацца дамоў, што «дом у нас адзін, той, што з калыскі». Яшчэ дадаваў гаркотныя словы, што наканаваную апошнюю часіну трэба сустракаць на тым парозе, «на які Бог усадзіў: няхай ужо адтуль і прымае». Дык вось яны, вынікі злавеснай змовы быцця з нябытам, — дзяліўся я ўжо ўслых роздумам са сваімі спадарожнікамі, — няма ні таго бацькоўскага дома, таго парога, ні той ранейшай вёскі, няма з намі і самога аўтара ліста, і аўтара кнігі, што пабачыла свет («мой свеце ясны») ужо без яго і выданню якой прысвячалася наша паездка.

Рэальная паездка, вядома ж, цесна спалучалася з падарожжам віртуальным, з духоўным падарожжам у прасторы і часе, у душы і памяці. Што і зразумела. Бо ён, Міхась Стральцоў, займаў сваё адметнае месца ў маёй біяграфіі.

Мы бачыліся, сустракаліся і супрацоўнічалі па трох наступных мінскіх адрасах: вуліца Захарава, 19, рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва», вуліца Энгельса, 9, Саюз пісьменнікаў (таго будынка ўжо не існуе) і вуліца Веры Харужай, 48, пяціпавярховік, у якім разам атрымоўвалі кватэры і суседнічалі.

Вярнуўшыся (пасля вандраванняў з адной раённай газеты ў другую) у стольны Мінск, я стаў працаваць у рэдакцыі пісьменніцкага штотыднёвіка «Літаратура і Мастацтва». Тут у адзін цудоўны дзень і адбылося маё знаёмства з пачынаючым празаікам Міхасём Стральцовым. Павітаўся з характэрнай для яго ўсмешкай, павіншаваў мяне з новай працай і паклаў на стол... не, не апавяданне, а рэцэнзію. Не памятаю — на якую кнігу. Ды ўзяўся тут жа з цікавасцю чытаць і спыніўся на вызначэнні: «талент — у чалавечнасці, без чалавечнасці нічога таленавітага не створыш». Сцверджанне здалося мне занадта катэгарычным. Пра што я сказаў. Міхась памяркоўна выслухаў, ледзь было не пагадзіўся са мной. Ды ўсё ж стаў прыводзіць аргументы ў карысць свайго меркавання. Спакойна, ціхім голасам, але з глыбокай перакананасцю. Размова скончылася тым, што я ўхваліў рэцэнзію без якіх-небудзь значных правак, сэнсавых ці стылёвых. Такім быў пачатак нашых узаемаадносін, нашай таварыскай супрацы. Затым, не без маёй ініцыятывы, Стральцоў прымае ўдзел у распачатай «ЛіМам» дыскусіі пра стан беларускага рамана: выступае са смелым, крытычным артыкулам. (Не ўсім ён спадабаўся, мелі непрыемнасці і аўтар, і супрацоўнікі газеты.) Далей — болей. Пазнаёміўшыся з яго першай кнігай «Блакітны вецер», я рашыўся ўзяцца за пяро ў якасці літаратурнага крытыка і змясціў на старонках тыднёвіка разгорнуты артыкул пад назвай «Ці існуе блакітны вецер?» Даваў высокую ацэнку: «Існуе». Гэта была, здаецца, ці ні першая такога рода публікацыя ў дачыненні да творчасці маладога празаіка. І размова ў ёй, заўважу, ішла пра тую самую чалавечнасць. Я зазначаў, што ў апавяданнях М. Стральцова ўражвае найперш надзвычайныя любоў і спагада да чалавека, засяроджаная ўвага да руxаў яго душы, да яго духоўнага, інтэлектуальнага і эмацыйнага свету. І заканчваў рэцэнзію высновай: «Харошую кнігу напісаў Міхась Стральцоў. Светлую, чалавечную, таленавітую».

Ён у дзень выхаду газеты спачатку патэлефанаваў, потым зайшоў у рэдакцыю, дзякаваў. Крыху сумеўшыся, казаў, што ці не перахвалілі ягоны зборнік, што ў яго ёсць больш цікавыя задумы...

Пазней я не змог па нейкай прычыне выказацца ў друку пра яго аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь». А выказацца было проста неабходна. Справа ў тым, што калі ўчытваўся ў твор, то не толькі з цікавасцю, але нават са здзіўленнем зазначаў: Міхалка і Трафім — амаль вылітыя мае рэальныя дзяды, дзед Грышка (па маці) і дзед Арцём. Яны адыгрывалі прыкладна такую ж ролю ў тым, каб неяк дапамагаць маці (бацька быў на вайне) адзяваць і абуваць нас, малалеткаў. Кожны па-свойму, як і персанажы аповесці. Асабліва ўразіла сваім падабенствам гісторыя з наганам і патронам да яго. З той, праўда, розніцай, што калі дзед Міхалка прадбачліва адабраў і «перахаваў» унукаву зброю, то дзед Грышка дазволіў майму стрыечнаму брату Барысу пазабаўляцца з вінтоўкай, якую з адным ці двумя патронамі яму далі як калгаснаму вартаўніку. Унук усё ляскаў і ляскаў затворам на печы і стрэліў напраўду. Проста ў спіну дзеду, які, схіліўшыся над дзяжой, вырабляў аўчыну. Той толькі і войкнуў: «Што ты, Барыс, нарабіў...» І праз некалькі хвілін памёр...

Запомнілася тое ўражанне, з якім дачытваў аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь». Асабліва — апошнія старонкі, у прыватнасці праніклівыя радкі пра начны адыход у «празрыста-халодную вечнасць», пра натуральную, негвалтоўную — у адрозненне ад гібелі майго дзеда, — смерць дзеда Міхалкі. Дачытаў і тут жа пазваніў па тэлефоне аўтару: «Міхась, зайдзі пасля працы да мяне. Пагаворым пра твае лапаць і чунь, пра твайго Іванку і тваіх дзядоў, у тым ліку і пра маіх. Як, адкуль ты дазнаўся пра іх?». Міхась падвечар прыйшоў. (Балазе, жылі, як я ўжо казаў, па суседству, у сумежных кватэрах.) Пагаварылі і па справе, і па шчырасці, пра аповесць і пра сваё ваеннае дзяцінства, пра дабро і зло, праўду жыццёвую і праўду мастацкую. Прагаварылі, памятаю, да поўначы.

Увогуле, ён згадваецца ў сукупнасці з нейкімі важнымі для мяне жыццёвымі момантамі. Ён адзін з першых выказаў мне спачуванне з нагоды смерці маці. Мы былі побач на нашумелым пятым з'ездзе пісьменнікаў, і ён з захапленнем (не перабольшваю) гаварыў мне пра мой верш «Поезд справядлівасці», які мне ўдалося надрукаваць напярэдадні з'езда — у падтрымку Васіля Быкава. Ён з адабрэннем гаварыў мне пра мой другі прыход — ужо ў якасці галоўнага рэдактара — у тыднёвік «Літаратура і мастацтва»...

Я не выпадкова вынес у якасці эпіграфа радкі М. Стральцова з яго ўлюбёным, з яго незаменным, абавязковым, шматзначным словам «журба». Думаю, рэч тут у характэрнай адметнасці паэтыкі аўтара, у арганічна ўласцівых яму, як асобе і творцу, светаадчуванні і светапоглядзе. Паняцце журбы мае ў яго творах мноства адценняў і асацыяцый і — па ўласным прызнанні пісьменніка, — пакуты, смутак, гэтая самая журба «сталі ягонай другой натурай».

Так, мы пераважна ведалі і ўспрымалі ягоную, так бы мовіць, натуру першую, яўную. Яе цяпер згадваем, пра яе гаворым і пішам. А вось што тычыцца ягонай «другой натуры» (ён яшчэ гаварыў пра «сваю душэўную гаспадарку»), то гэта — асобная тэма...

# «Талент — гэта і праца»

Сёлета б споўнілася 80 гадоў таленавітаму беларускаму пісьменніку, мужнаму рэдактару і светламу чалавеку Анатолю Паўлавічу Кудраўцу. Споўнілася б, бо ад 8 траўня 2014 года яго няма сярод нас.

Не раз яго творы друкаваліся на старонках «Літаратурнай Беларусі». У розных выдавецтвах выходзілі і будуць выходзіць яго незабыўныя «Раданіца», «Сачыненне на вольную тэму», яго непаўторныя апавяданні... Сёння ж перачытаем нататкі маладога Анатоля Кудраўца — часоў ягонай вучобы на аддзяленні журналістыкі БДУ, якую ён сумяшчаў з працай у рэдакцыі «Калгаснай праўды», а таксама перыяду рэдактарства (1968–1969 гг.) у выдавецтве «Беларусь» і маладога бацькоўства.

У гэтых запісах — пачаткі і творчага таленту, і грамадзянскай мужнасці, і чалавечага святла незабыўнага пісьменніка.



Анатоль КУДРАВЕЦ

**12 чэрвеня 1959.**

Люблю глядзець, як людзі ідуць насустрач ветру. Хоць тут ім прыходзіцца напружваць свае сілы, каб дасягнуць свайго наседжанага гнязда. Я не супраць таго,каб ствараць штучныя перашкоды дзеля таго, каб яны абудзілі імкненне пераадолець іх. Калі чалавек сам не можа ставіць перад сабой мэты, трэба, каб яе ставіў хтосьці другі.

Ён падносіць сціплы падарунак студэнтаў — фотаапарат.

— Няхай гэты падарунак будзе сімвалам нашай дружбы, здымае так добра, як *****.

Студэнт Р. Барадулін перадае ў падарунак дубовую шкатулку.

— Няхай гэтая шкатулка, зробленая з векавых дубоў, якія ўзраслі на зямлі, дзе нарадзіліся, выраслі і не змаглі знайсці шчасця вашы бацькі, будзе светлым напамінам аб ёй, аб тваіх таварышах.

Усе ўзбуджаны, ва ўсіх прыўзняты настрой.

Ад імя ад'язджаючых віноўнікаў урачыстасці выступае Стэн.

Ён хвалюецца, сінія разумныя вочы яго пацяплелі, на твары выступілі чырвоныя плямы. Ён гаворыць адрывіста, з крыху не рускім выгаворам:

— Таварышы, дазвольце мне ад сябе і ад імя маіх сяброў — ён кіўнуў у бок іх — падзякаваць вам за тое, што мы жылі з вамі, як у адной сям'і, што я пазнаў вас — савецкіх людзей і ганаруся вамі. Жывучы разам з вамі мы сталі намнога лепшымі. Мне вельмі падабаецца той патрыятызм, тая любоў, з якой адносяцца студэнты да Радзімы.

Мы паедзем, і, можа, праз некалькі гадоў... нашы краіны сустрэнуцца ў барацьбе, але я хачу запэўніць вас, дарагія таварышы, мы з вамі ваяваць ніколі не будзем, і ўсё, што ў чалавечых сілах, мы зробім, каб ніколі не ваяваць. Мы запрашаем усіх вас прыехаць да нас у госці. Праўда...

Вялікае дзякуй вам не за фотаапарат, а за большае, што вы далі нам.

Усе дзяўчаты гавораць, што паступілі ва ўніверсітэт, каб упарадкаваць асабістае жыццё. Я супраць. Хіба ж можна так? Чаму яны навучаць дзяцей?

Чорт ведае што такое. Здаецца, і чалавек ужо дарослы, і армія засталася дзесьці далёка з-заду, а пра яе не магу без хвалявання думаць. І нічога асаблівага няма ў ёй, а пры сустрэчы хвалююся, губляюся. Нават ніяк не адважуся адазвацца у бок і прапанаваць сходзіць у кіно, ці прайсціся па горадзе. А трэба. Або я гэта зраблю, або я нічога не падрыхтую. Здаецца, і яна ідзе насустрач, а вось дарога ніяк не сальецца.

Намазаным блінам бліснула вялікая лысіна.

Рэвізор распісаўся. Яго прозвішча пачыналася з «Р», і ён паставіў доўгую палачку, так накруціў над ёй, што мне здалося, быццам яна вельмі падобна да яго галавы — кучаравай вялікай і ўздзетай на тонкай шыі, як вялікая шляпа на цвіку.

**9 студзеня 1960.**

Буфет в одежде не отпускает.

Нават калі б на зямлі застаўся адзін чалавек, і тады сонца павінна было б узыходзіць, грэць і заходзіць.

У дзень палёту ў космас Ю. Гагарына.

Здаецца Зямля абарвала ланцугі і ляціць насустрач Сонцу. Мы працягваем рукі наперад, і я баюся, што яно хутка апячэ іх нам.

**15 лістапада 1961**

А. Лойка канчае чытаць М. Багдановіча. Ніхто не слухае. Нікому не цікава. Гэта страшна. Багдановіч — адзін з лепшых нашых паэтаў. Да чаго ўсе абыякавыя да гэтага свайго нацыянальнага.

**20 лістапада 1961.**

Учара нават не лажыліся спаць: да двух гулялі ў шахматы, а пасля гаварылі аб кульце асобы Сталіна.

**28 чэрвеня 1962.**

Здалі два залікі: гісторыю савецкага партыйнага друку і спецкурс па Марксу. Рыхтаваўся не вельмі, а — выматаўся. На сэрцы не лёгкасць, а пустата. Зайшоў у раскопаны, разварочаны парк М. Горкага, лёг на зямлю і праляжаў хвілін дзесяць. Адплюшчыў вочы — і здзівіўся, такой вялікай здалася распрасцёртая нада мной бяроза. На фоне блеклага неба і спакойных, быццам застылых воблакаў, яна нагадвала вялікі крыж — дзве галіны, як рукі, ішлі ў бакі, і з іх звісалі, як ашмоткі, доўгія сухія пласты.

Зайшоў у цір. Знайшлося толькі дзве капейкі, узяў адну кулю і замест таго, каб закласці яе ў ствол у месцы пераломy, заклаў з канца ствала.

— Ты што, брат, п'яны? — Здзівіўся.

— Не, два экзамены здаў.

У зайца, вядома, я прамазаў. Пайшоў на дзяжурства.

**30 чэрвеня 1962.**

Прыязджаў у Мінск, заходзіў у рэдакцыю С. Рудэнка, спец. кар. «Известий». Гаварылі пра аператыўнасць. Параўноўвалі Сафронава і Катэнку. [Першы] нашмат таленавіцей, а ў другога праца.

У выніку — у другога кожны год то п'еса, то зборнік вершаў і г. д., а ў першага...

Талент — гэта і праца.

А на двары халадзіна, восеньская халадзіна, і цудоўна пахнуць ружы.

**17 жніўня 1962.**

Ноччу прайшоў лагодны ціхі дождж. Усю ноч ён дробна сыпаў па даху, пад яго спакойную манатонную песню моцна спалася ў сене. Восьгэта грыбны дождж. Раніцой на траве, лістках дрэў — раса. Востра пахне цвітучая крапіва. У бярэзніку — як у лазні — пахне дубовымі і бярозавымі венікамі.

**28 верасня 1968 г.**

Шышчыцы.

«Быў стары, а пайшоў у отмалодзь.

Сам старэе, а язык у отмалодзь ідзе.

На самым пахватным месцы.

Ножкі стуліліся (у табурэце)».

**6 кастрычніка 1968.**

Бярэзіно. Аўтавакзал. Невялічкі чалавечак з крывёй пад носам ля піўнога ларка кідаецца да другога мужыка — высокага, мажнага.

— Ты не будзеш мець сем баб!!!

Умешваецца баба — невысокая, крэпкая ў стане, вострая на язык:

— Я ўсяго сто дзясятая! А якая табе розніца, колькі ў яго можа быць?

Мужычок маўчыць.

У кожнай ракі ёсць свой асенні колер. У Беразіны ён сіне-цёмны з жухлай падзалоццю, з неспакойным халодным свячэннем лазовых кустоў і аксамітнай зеленню блізкіх хвойнікаў.

**15 кастрычніка 1968.**

Вера: — Мама, дай я цябе пацалую ў нюхалкі... (ноздры). А цяпер у запраўку (папярочку між ноздраў).

**21 кастрычніка 1968.**

Вера: — Папа, пасадзі ложку ў міску.

**6 лістапада 1968.**

Скура на шыі была як пажаваная.

Барадулін: — Іван Гарылавіч — на Чыгрынава, Івана Гаўрылавіча.

**7 лістапала 1968.**

Успомніўся Пленум СП... Успомнілася ўверцюра Пленума — адкрыты партыйны сход у СП.

Прысутнічаў Ваніцкі А. М. Пытанне — «Выхаванне моладзі». Пытанне было не акрэслена ясна, і сход праваліўся. Тады ўзяў слова Ваніцкі. Успомніў чамусьці Свіцязь, прыпісаўшы плёткі, якія ў нейкім сэнсе павінны кампраментаваць пісьменнікаў. Ідэя выступлення — даказаць, што «нацыяналізм» — навязанае зверху. «Няма жалезнай рукі сярод пісьменнікаў, якая паставіла б маладога на сваё месца». Залатыя, гістарычныя словы Брыля ў адказ: «Дзякваць Богу, што ні ў Яўгена Іванавіча [Танка], ні ў мяне няма і не будзе жалезнай рукі».

Паважаў Брыля як пісьменніка. Цяпер паважаю як чалавека, як грамадзяніна.

На пленуме ён пахваліў мяне. Шукаю прычыну — чаму. Што, я дастойны гэтай пахвалы? Ці гэта аванс? Калі аванс, то вельмі вялікі. Чым і калі аддаць? Калі не — то што?

Празрыстая стальная вада рэчкі, па берагах якой срабрыстыя залізы — паўакружнасці маладога крохкага лёду. Вада такая — хочацца напіцца, журчыць — смяецца.

**23 лістапада 1968.**

— Цікава было б напісаць раман пра выдавецтва, пра розных людзей, што прыходзяць туды. Форма — лірычная споведзь галоўнага героя. Прыйшоў на працу — знаёмства. Пісьменнікі для яго — святыя людзі. Потым — празрэнне, раздзяленне людзей па іх характарах і поглядах і г. д.

Тыпы: — А. Бажко

А. Ставер

Н. Чарнышэвіч

Я. Брыль

Б. Сачанка

**3 снежня 1968.**

Ішлі дамоў з Галяй. Гаварылі пра работу. Зайшла гаворка пра Віталя. Дзіўна, як ён мог трапіць ва ўніверсітэт, а пасля яго — у выдавецтва.

Хто гэты чалавек? Паяц? Ці шпік?

Гэта не рэдактар — ён не ведае ні рускай, ні беларускай мовы, не разумее літаратуры. Чаму ён стаў рэдактарам? Хто паставіў яго?

І хто ён сам па нацыянальнасці? Яўрэй? Гаворыць — не.

Адкуль — Галавач? Дзіўнае становішча. Як гэта працаваць, калі не ведаеш магчымасці сказаць ні слова адкрыта, ні падумаць, калі ведаць, што за табой сочыць нядрэмнае вока — вока шпіка.

А можа і не шпіка?

**4 снежня 1968.**

Цікавейшае знаёмства: Рулліс Талрыд. Латыш. Служыў у Гродна, вывучыў беларускую мову, палюбіў літаратуру, пачаў перакладаць. Востры твар, карыя цікуючыя вочкі, два плоскія даўгія зубы, як у мышы (пацука), не страшныя.

Сядзелі ўтраіх — Капыловіч, ён, я, у «Малочным», пілі добры і мяккі «Рыслінг» (1 р. 55 к.) і «Рыжскі чорны бальзам» — цудоўны напітак...

**7 снежня 1968.**

«Раданіца»

Ішоў з дому — выбраўся назад у горад. За плячыма — на палцы торба. Ля канюшні стаяў дзядзька Рыгор. Стаяў і пазіраў на яго. Ён прывітаўся. Той кіўнуў галавой, але не ўзрадаваўся, а сур'ёзна-сумна пазіраў на яго, працінаў наскрозь.

Быццам ён быў яго даўжнік, стары задаўнелы даўжнік. Яму стала няёмка і нібы крыўдна. Адкуль гэта ў селавых людзей такія позіркі. Сустрэнуць цябе і правядуць, быццам праз строй прапусцяць.

А можа, яны маюць права на гэтыя бесцырымоннаасуджальныя позіркі-пытанні. Колькі людзей ішло адсюль і не вярнулася. Не вярнуліся і не вярнулі тое, што знеслі. Не, я не кажу пра сала і масла. Не. Гэта дробязь. Сагрэтыя людской ласкаю, збіраючы яе, ішлі, каб вяртацца Паўлавічамі і Гаўрылавічамі, патрабуючы для сябе новай увагі і павагі.

Ішлі людзі, і маральна бяднела зямля. Прападала любоў да зямлі.

Ехалі гаспадары — вярталіся экскурсанты.

«Не цяперашняга пакрою чалавек». — Дзякуй табе. Гэта за тое, што 30-гадовы мужчына ўступіў месца 70-гадоваму дзеду.

«Не цяперашняга.» А які цяперашні? Заграбасты, зубасты. Можа таму такі сумны конюх Рыгор?

**25 студзеня 1969.**

«Родина не есть условность территории, а непреложность памяти и крови...»

(М. Цветаева)

**6 лютага 1969.**

Людзі дзеляць кватэры, а думаюць, што дзеляць літаратуру.

Настаў час, калі мёртвыя сталі даражэй жывых.

**10 сакавіка 1969.**

Чаму «Раданіца»?

Таму што ў гэты дзень людзі прыходзілі на могілкі да памёрлых. Памёрлыя лічыліся святымі (чэснымі). Людзі ішлі як на споведзь. Пра ўсё харошае і дрэннае. Людзі ішлі на раду. Радзіца. Радзіцца пра харошае. Пра жыццё. Зямлю.

**Публікацыя і падрыхтоўка да друку Ганны Кудравец**

# Час узыходу поўні



Алена ІГНАЦЮК

### Завейны верш

*Ступлю на снег з Паэзіяй... Мяце!*
*Сляды — як паразвейваныя словы,*
*нябачныя... Паэзія вядзе*
*няўжо туды, дзе пачынае ловы*

*за думкамі маімі дзікі свіст?*
*То з'явіцца — і ў бездані знікаюць...*
*Я думаю: пратанцавала «Твіст»*
*з бязмежжам мая здзіўленая памяць.*

*На белым снезе пішуцца радкі.*
*Адчулі прадкалядную аснову.*
*Мяце, мяце, мяце — ва ўсе бакі...*
*Майму ці падуладна слову?*

*Снягам аўтограф падару, найперш, —*
*і панясуць у белую далечу...*
*Марозна пальцам, што пісалі верш.*
*Паэзія запаліць воддаль Свечы.*

*І вырасце анёлаў зорны хор*
*з прасторы неаформленых сумётаў.*
*Пачнуць спяваць мой вершаваны твор...*
*Прачнулася: расце трава пад плотам.*

### Зіма загасцілася...

*Зіма рвецца ў сон мой —*
*на самае дно...*
*Мяцеліць над вухам —*
*прыснежыць радно...*
*На ім я ў нядзельку святочную сплю*
*і подыхам снежную замець лаўлю.*
*А вокны*
*і дзверы,*
*на прыпечку кот —*
*адчулі: Зіма загасцілася... год...*
*у хаце. Даўно адшумеў лістапад,*
*вясны не было,*
*не пладзіў лета сад...*
*І толькі радно з пахам яблыкаў...*
*Мне... Так спіцца на ім,*
*што зайздросна Зіме...*
*А ў сне маім мама*
*варыць кампот,*
*бо ў хаце Зіма загасцілася — год.*

### У іншыя тэксты

*Экслібрыс,*
*«ірыска»*
*і рыска дажджу...*
*Але пагуляць я цябе не пушчу*
*у тэксты чужыя...*
*Будзь ў тэксце маім:*
*у самым пачатку — як той пілігрым.*
*Дождж мочыць старонку*
*з экслібрысам... Ой?*
*Давай пагуляем у кнізе маёй!*
*З радка — у радок за сабой цягнем міг,*
*дзе ты апранаеш мяне ў дажджавік.*
*Дождж мочыць экслібрыса літару — «Ю»...*
*Яе я «ірыскай» няўжо засланю*
*ад гэткай цягучай,*
*салодкай вады?*

*У іншыя тэксты збіраешся ты...*

* * *

*Пырскі, хвалі акіяна...*
*Пакрываюць ўсё сабой.*
*Але ж я уратавана,*
*нібы той біблейскі Ной.*
*Акіян мне човен кінуў,*
*плыць прымусіў да Парыжа...*
*Вада сціхла на хвіліну:*
*а ні ветру — толькі ціша.*
*Роўнадзь звернута да рухаў...*
*Човен лёгка паплыве...*
*Мо ў Парыж? А можа ў Глухаў?*

*Гадоў тысяча міне...*

### Час узыходу поўні

*Сёння час узыходу поўні!*
*Нібы з срэбра вырас помнік*
*маёй лірыкі...*
*Расце —*
*поўня ў контур акіяна...*
*Ці чмурэе ад Дурману?*
*А то рана, рана-рана,*
*жоўтай брошкай...*
*упадзе*
*на шоўк ночы тэатральнай —*
*слухаць п'есу хітрых зор...*
*Калі хтосьці чужы, брутальны*
*йдзе па снезе праз мой двор...*

*Ў час гэты узыходу поўні*
*снег за шклом — на падваконні —*
*сінім вэлюмам трапеча...*

*Грэю бок , як сон, на печы...*

### Людзі ў крэсле

***(фантазія)***

*Людзі ў крэсле...*
*Перакрэсліў*
*твары*
*думкай*
*Эсэіст:*
*І закружацца галовы...*
*І так будзе да Пакровы...*
*А там дзень — як чысты ліст.*
*...*

*Крэслы шчыльнымі радамі...*
*Сядзяць суддзі ў парыках?*
*Не яны?! Гадайце самі...*
*Новых твараў ВЕЯЎЗМАХ.*

*Яны правяць маім сэрцам,*
*маім словам, дзеяй дня...*
*Толькі мне штосьць не пяецца,*
*нібы час паела тля...*

*Панацягнутая ўсмешка...*
*Ўсе адводзяць позірк ўбок...*
*Мне гадаць: арол ці рэшка?*
*Хто з іх шчыры? Раблю крок...*

*Эсэіст штосьць пераблытаў:*
*новых твараў — як няма?*
*Замест рыбкі ёсць карыта.*
*Замест лецейка — зіма.*

*Закружыліся галовы*
*ад Пакровы да Каляд...*
*Няма твараў. Зніклі словы.*
*Апусцелых крэслаў рад.*

### Матыў для верша

*Цудзіць, будзіць — не застудзіць...*
*Твае словы і мой тэкст...*
*Ў нашай хаце цені блудзяць —*
*нібы гэта Стары Брэст...*

*Ты прыехаў сёння з Брэста!*
*Мой сагрэе цябе верш,*
*дзе замешваецца цеста*
*і расце, ўцякае з дзеж...*

*Плошча, ратуша і вежы —*
*як матыў для пірага...*
*Замест снегу ў маім вершы*
*з неба сыпецца мука!*

*І Старога Брэста цені*
*(так задумала Зіма!)*
*ў нашай хаце захацелі*
*выпіць белага віна.*
*...*
*Плошча, ратуша і вежы —*
*у тваёй гуляюць думцы,*
*як сабе і не належаць...*
*Цені іх прайшлі па вуліцы...*
*Мо, Варшаўскай? Можа, Луцкай?*
*Хочуць жыць па праўдзе людскай.*

### Я сатру той дождж...

*...Пазыходзім з фотаздымка*
*на бліскуча-жоўты пляж...*
*Паляціць мая хусцінка*
*разам з ветрам, пэўна, аж —*

*да сярэдзіны канала...*
*Плыве баржа па вадзе.*
*Я і мама ў сарафанах —*
*нібы з водарасляў, дзе...*

*з намі год сямідзясяты.*
*А на баржы — збеглы век.*
*З таго берага нанятыя*
*хтось лавіць русалак смех.*

*Фотаздымкавыя людзі:*
*Тата, мама, нянька, я —*
*ўсе мы думаем аб цудзе —*
*назіраем караля*

*Днепра-бугскіх уладанняў...*
*Ў човен сеў такі Дзядок:*
*у яго мо стоназванняў,*
*залаціцца рызы бок.*

*Ад дажджу — назад — у здымак*
*пабяжым мы неўзабаве...*
*І спыніўся час!.. Як вымак...*
*Як у сне... А мо на яве?*

*Я сатру той дождж сваёй памяццю.*

# Ручнікі плылі...

**Запомніліся ўрокі спеваў у чацвёртым класе пачатковай школы ў вёсцы Латышы Мёрскага раёна.**

Рэпертуар быў такі: «Броня крепка и танки наши быстры», «Дуня-тонкопряха»... У калгасе імя Чапаева павінны былі спяваць пра Чапая: «Гулял по Уралу Чапаев-герой». Першы радок я вывеў нармальна. А вось наступны захрас у горле: «Онсоколомрвалсясполкаминабой...». Папрасіць настаўніцу патлумачыць такую скорагаворку пабаяўся, бо яна паспела паздзекавацца з майго вымаўлення слова «пряха».

Выручыла бабуля Альжбета. Калі яна пачала: «Ды не кукуй жа, зязюленька, рана, я й, маладзенька, усю ночку не спала...», я зразумеў, што песня жыве толькі галоснымі гукамі.

А як іх трэба вымаць са сваіх грудзей і ўкладаць у вершы, падказаў мне, пачаткоўцу, Аляксей Пысін. Калі я вучыўся ў Магілёве на фельчара, хадзіў да Аляксея Васільевіча на заняткі ў літаб'яднанне пры газеце «Магілёўская праўда». У 60-я гады некаторыя паэты любілі пад назвы сваіх твораў ставіць пазначку: «З народнага». А я на чарговых канікулах у суседняй з маімі роднымі Бабышкамі вёсцы Латышы запісаў ад цёці Ядзі (Ядзвігі Антонаўны Сялюн, 1922 года нараджэння) шэсць народных песняў. Адна з іх пачыналася так: «У суботу Янка ехаў ля ракі». Вядома ж, я гэты фальклорны твор «апрацаваў»...

На чарговым паседжанні літаб'яднання Аляксей Васільевіч агледзеў маё чыстапісанне і далікатна папрасіў: «Пакажы сваё...»

Мільгалі месяцы вучобы. Аднаго разу пасля канікулаў настаўнік, убачыўшы мяне, уголас пажартаваў: «Ну, Сяргей! Праз твае ручнікі радыё спявала!»

Пазней я даведаўся, што песня «Ручнікі», якую стварылі Вера Вярба і Мікола Пятрэнка, упершыню прагучала ў 1962 годзе ў Лёзна, калі там праходзіла раённая дэкада беларускага мастацтва. Потым песня займела поспех у вобласці і адразу ж загучала на рэспубліканскім радыё.

Заціх я са сваім «прынародным»...

У некаторых публікацыях аўтарам тэксту песні называецца Г. Сакалова, гэта значыць — Гертруда Пятроўна Сакалова (у дзявоцтве Маркава). Вера Вярба з'явілася ў 1962 годзе, калі ў 20-гадовай паэтэсы пад тым псеўданімам выйшаў зборнік «Вочы вясны».

З летуценніцай з Талачынскага раёна, слаўнавядомай Верай Вярбой я ніколі не гаварыў пра мае фальклорныя запісы. А вось з кампазітарам, педагогам, заслужаным настаўнікам Беларусі, ганаровым грамадзянінам Полацка Міколам Пятрэнкам у мяне склаліся ўдалыя творчыя стасункі. Аднаго разу я, наіўны чалавек, асцярожна запытаў у Міколы Макаравіча, ці даводзілася яму чуць раней мелодыю, агучаную ў «Ручніках»?

«Не! — катэгарычна выгукнуў кампазітар. — З мяне яна выйшла».

А песню «Ручнікі» Веры Вярбы і Міколы Пятрэнкі справядліва называлі і называюць народнай. Маўленне народа — у аўры нашай існасці. Таму мы ўсе — духоўнае перастварэнне



продкаў. Хто з нас вычуквае іх дыханне, той і надалей будзе спадкаемцам нацыянальнай ідэнтычнасці.

...Міколы Пятрэнкі не стала ў 1997 годзе, а Веры Вярбы — у 2012-м. Помніцца вясёлая сустрэча з ёй у сакавіку 2004 года на юбілейным святкаванні дня нараджэння кнігазбіральніка тытана Кастуся Цвіркі. Уявіце бераг Скачальскага возера недалёка ад Зялёнай Дубровы Старадарожскага раёна, дзе супыніўся мой «гнеды» пад вярбой густой. Каля вогнішча бачу Эдуарда Зарыцкага, Анатоля Клышку, Уладзіміра Карызну, Алеся Ставера... Нехта з гасцей да рэчкі Пціч яшчэ не дакрыліў. І раптам чуецца лірычны ўсплёск. Гэта над прысеўшай на падсцілачку Верай Вярбой нахіліўся ні то Вадзянік, ні то Лясун. Аказваецца, упільнаваў у паэтычным настроі творцу яшчэ адзін Народны творца — Яраслаў Еўдакімаў. Назіраем, як далікатна, па-шляхецку вітаецца новы Каруза і цалуе пантопалік Веры Вярбы (на фота). Лірычны барытон Яраслава зліўся з узнёслым выгукам паэтэсы і з радаснымі воплескамі прыазёрнай сябрыны...

**Сяргей Панізьнік**

# Я пешкі, мама!



Франц СІЎКО

Сон быў кароткі і абрывісты, як брэх баязлівага сабакі, збянтэжанага нечаканым з'яўленнем у двары больш дужага суродзіча. І разам з тым ён быў так пранізліва рэальны, што, калі я прачнуўся, не ён, той сон, а, наадварот, сама ява падалася мне недарэчнаю відзежай. Ці дзіва, што не адна хвіліна прамінула, перш чым шпалера на сцяне збоч канапы зноў набыла ў маіх вачах колеры звыклай будзённасці, а маляванка пры дзвярах з пакоя ў калідор і гадзіннік над ёй перайначыліся з суцэльнае расплывістае плямы ў знаёмыя рэчы, кожную з якіх можна без лішніх высілкаў успрымаць паасобку.

«Ты прыехаў?» — гэта былі адзіныя словы з нашай віртуальнай размовы ў сне, што я даў рады ўзгадаць пасля, лежачы на канапе ў атачэнні слоўнікаў мовы, за якую міжволі давялося ўзяцца з мэтаю хоць збольшага кампенсаваць аніякае валоданне ўсюдыіснаю ангельскай. І гэта быў першы мой сон пра маці, хоць з дня яе адыходу ў лепшы свет прамінула без малога чвэрць стагоддзя. Два словы — амаль нічога, калі не лічыць у дадатак бязгучнага дыялогу вачэй напрыканцы, пры расстанні ля брамы з кручёлкай кшталту тых, што аддзяляюць бальнічны калідор ад пакоя для наведнікаў ці пляц перад ка́самі ад гандлёвай залы ў краме.

Але сам сон быў такі лагодны, такі поўны абяцання на працяг стасункаў у месцы з прывабным, хоць і не дарэшты вольным ад сумневу ў імавернасці існавання таго месца назовам «вечнасць», што наракаць на хуткаплыннасць яго ці на невыразнасць адбітку ў памяці нават не прыйшло мне ў галаў.

«Ты прыехаў!» — так яна сустракала мяне ў юнацтве, падчас маёй вучобы ва ўніверсітэце, і пазней, калі ўжо працаваў, кожнага разу вылучаючы націскам першае слова без увагі на тое, быў то прыезд загадзя вядомы ёй ці, наадварот, неспадзеўны. І двух гэтых прамоўленых у звыклым, хоць крыху, папраўдзе, і счужэлым інтэр'еры сялянскае хаты словаў было мне заўсёды дастаткова, каб адчуць: я — дома, мяне тут чакалі.

«Ты прыехаў?» — сказала год трыццаць з гакам таму ў дзень майго прыезду пасля развітання з універсітэтам і, памаўчаўшы хвіліну, дадала: «Нешта ж надта сумны, штосьці не так?» — «Пешкі ад цягніка з Друі ішоў, стаміўся», — не схільны да звычкі дзяліцца кепскім з асабістага жыцця, салгаў тады і ўбачыў, як нязгодна павяла вачыма: не дала веры.

«Ты прыехаў?» — з удаванай бясстраснасцю казала кожны раз пасля таго майго нявіннага падману, абражаная інтанацыяй адстароненасці, справакаванай сынавай далучанасцю да недасяжных тут, у глухім куце, дзе ўсё жыццё пражыла, дабротаў цывілізацыі. І заўжды потым, нават тады, калі было відавочна, што не прыехаў, а прыйшоў, і не так ужо здалёку, быццам наўмысна ўзводзіла нябачную сцяну між сабою і сваім дарослым дзіцем, націскала знарок на «прыехаў». Маўляў, ты прыехаў, а мы вось тут усё пехатой, пехатой...

«Прыйшоў, мама, — папраўляў яе і лавіў сябе ўпотай на думцы, ці так ужо яна не мае рацыі ў сваёй прыхаванай за ўсмешкаю паняверцы: — Ты ж ведаеш, як падабаецца мне хадзіць». Думаю, менавіта тады ўпершыню пачаў адкрывацца мне глыбінны сэнс гэтага слова — пехатой. Пехатой (пешкі) — гэта калі ўсё, што ў жыцці ні займеў, дарэшты аплачана і нічога ніколі не дасталося авансам.

Звычку і любоў да хаджэння пехатой прышчапілі мне абставіны: школа знаходзілася за шэсць, і то калі ісці напрасткі, а не кругам, дзе лепшыя сцежкі, вёрстаў ад хаты. Да таго ж у мяне заўсёды здараліся непярэліўкі з падручнымі транспартнымі сродкамі. У восьмым класе бацькі купілі мне ровар, які я паламаў праз тыдзень, узбіўшыся на патарчаку пры пераездзе праз ручай. У дзявятым яны справілі мне ўзімку новенькія, нятанныя па тых часах лыжы, але іх напаткаў лёс ровара, толькі не праз тыдзень, а значна хутчэй — у той дзень, як іх купілі.

Сам лёс быццам скіроўваў мяне да хаджэння пешкі. У выніку я налаўчыўся хадзіць так хутка, што перад апошнім класам дзесяцігодкі пераадольваў свае шэсць вёрстаў да школы менш як за сорак хвілін. І палюбіў хадзьбу на ўвесь астатні век. Сёння мне, на шэсцьдзясят трэцім годзе жыцця, не зразумець чалавека, які наракае на тое, што сонца гэткае пякучае, а яму яшчэ ісці кудысьці, скажам, ажно пяць вёрстаў. Калі той чалавек, вядома, не невылечна хворы. Або калі 17–18-гадовыя студэнты, бегучы за мною па сходах, натужліва, быццам на іх узгрузілі няведама які цяжар, сапучы, кажуць: «Ну, ведаеце, вас не дагнаць».

Пехата — добры настаўнік. Асабліва ў сэнсе гартавання адказнасці за сябе і за стан сваіх спраў. Не пакрутаеш — спознішся; калі прыйдзеш — тады і пад'ясі; не прыйдзеш увогуле — застанешся там, дзе быў дагэтуль, — спіс можна доўжыць бясконца, бо ўсё ў нашым жыцці так ці іначай завязана на ўменні паспяваць, то бок з'ўляцца своечасова ў належным месцы.

Гэта была добрая школа, хоць, папраўдзе, на той час — не без каліва патаемнае надзеі, што гэтак вось — з дня ў дзень праз пераадоленне фізічнае стомы, у вечным клопаце не спазніцца — будзе не заўсёды. І мая тонкая, далікатная маці і тое, і другое выдатна бачыла і разумела. І, так цяпер мяркую,




можа, крыху сябе за сёе-тое, напрыклад, за неабачлівы выбар месца на сталае жыццё, бо меліся ж, напэўна, па шлюбе з бацькам і нейкія іншыя, больш зручныя з пункту гледжання будучыні дзяцей, варыянты, і дакарала.

Яна памерла ў пяцьдзясят шэсць, ва ўзросце маладзейшым за мяне сённяшняга. Гэта быў удар, моц якога напоўніцу можна асэнсаваць толькі з часам. Але гэта быў не толькі ўдар, а і навука, якую падаюць дзецям фактам свайго адыходу заўчасна памерлыя бацькі. Дачасная смерць бацькі або маці, хоць і з'яўляецца жорсткім урокам, як нішто іншае нас загартоўвае, робіць больш трывалымі ў дачыненні да стратаў, што чакаюць у прышласці. Прымушае па-новаму зірнуць на сябе, а ў пэўным сэнсе — і скарэктаваць, наколькі гэта магчыма, свае жыццёвыя прыярытэты. Гэта, так бы мовіць, — удар лёсу прэвентыўны. Падчас якога канцэнтрацыя болю такая вялікая, што ўсе наступныя ўдары ў параўнанні з ім выдаюць бяскрыўдным дзіцячым тумаком.

Хваробу яе мы прагледзелі. Як дактары, што аказаліся не ў стане дыягнаставаць рак на ранняй стадыі, хоць сімптомы і былі, здаецца, навідавоку, так і мы, яе дарослыя дзеці. А калі спахапіліся, было позна. І мы з сястрою ды братам не знайшлі лепшага выйсця, як рабіць выгляд, што нічога асаблівага не здарылася: усё, маўляў, добра, мама, усё абыдзецца. Такі падман дорага каштуе. Але яго сапраўдную вартасць пачынаеш асэнсоўваць толькі тады, калі непазбежнае становіцца відавочным, а павуцінне хлусні, якім аплятаў, хай сабе і з лепшых меркаванняў, свядомасць блізкага чалавека, міжвольна пачынае аблытваць цябе самога. Мы хавалі ад маці праўду на працягу года. Не ўпэўнены, што, калі стан яе рэзка пагоршыўся, яна не ўспрыняла гэткія нашы паводзіны як здраду.

Нават пры ўсёй любові да блізкага чалавека напачатку вельмі цяжка пазбавіцца ў асабістых стасунках з ім грэблівасці да яго хваробы. Тым больш калі хвароба тая слаба вывучаная і чаго толькі пра яе ні наслухаешся. Жахліва: хворая маці рыхтуе абед, а цябе не пакідае сумнеў, ці здолееш ты яго есці. Унікаеш тых прысмакаў, да якіх дакраналіся яе рукі, і цябе ні на хвіліну не пакідае думка, як спрытней ды праўдзівей патлумачыць такое неспадзеўнае — ты ж дагэтуль ніколі кепскім апетытам не вылучаўся — стэнафагства*. Унікаеш ды вучышся быць «гаспадарлівым»: наступным разам «ні з таго ні з сяго» возьмеш, руплівец, які і бульбіны ніколі дагэтуль у роднай хаце не абабраў, клопаты па прыгатаванні харчу на сябе.

Адзін з урокаў, які яна паднесла нам падчас сваёй хваробы, — урок стаўлення да жыцця як да вялікага дару. Ні разу яна, нават у хвіліны самага нясцерпнага болю, не сказала, што не хоча жыць ці што хацела б як мага хутчэй усё скончыць, пазбавіцца пакутаў праз смерць. Наадварот, вера ў добры зыход да апошняе хвіліны не пакідала яе, і хаваць яе яна не лічыла патрэбным. З утрапеннем дзіцяці верыла ў моц малітвы і... грошай. Напярэдадні аперацыі дала мне сотню рублёў і загадала прэзентаваць доктару. Гэта быў мой першы досвед давання хабару, які, дарэчы, так і скончыўся нічым. Доктар не быў упэўнены ў станоўчым выніку аперацыі і грошай не ўзяў. І мне, каб не выклікаць лішніх падазрэнняў ды сумневу з яе боку, нічога не заставалася, як пакінуць тую сотню сабе.

На тле нашэптванняў прыхільнай да Бахуса суседкі, як нішто ёй не цікава на гэтым свеце (жанчына шчыра жадала гэткім чынам падтрымаць хворую), такое жыццялюбства здавалася мне на той час ледзь не подзвігам. І толькі цяпер, прайшоўшы праз сякія-такія кругі фізічных непамыснотаў ва ўласным лёсе, я разумею, як важна ў пераадоленні іх не скаціцца да банальнага, хлуслівага адпрэчвання жыццесцвярджальнага дзеля сумнеўнай патэтыкі ўдаванага нігілізму. І, можа быць, гэты ўрок для мяне, атручанага ў маладосці пастулатамі модных на той час філасофскіх плыняў, — самы галоўны з усіх, якія давялося атрымаць з ласкі іншых, блізкіх і не вельмі, людзей, але найперш — маці.

Толькі аднойчы яна паказала, што ведае, мабыць, пра сваю хваробу болей, чым мы ўяўляем. Калі, збіраючыся напярэдадні нейкага свята ў касцёл, раптам сказала, што хацела б абрэзаць касу, бо валасы занадта даўгія і ў выпадку чаго паспрабуй даць ім рады... І я нажніцамі абрэзаў іх ёй па патыліцу. Атрымалася штосьці кшталту карэ — крыху нязвыкла, як для немаладой жанчыны, крыху экстравагантна. Яна з удзячнасцю паглядзела на мяне, а мне тады чамусьці згадалася, як колісь у маленстве я падхапіў педыкулёз і яна з дапамогаю сцізорыка пазбаўляла маю галаву, усклаўшы яе сабе на калені, ад трасцы. Я хацеў нагадаць ёй пра той выпадак, але не стаў: гэткіх сведчанняў духоўнае лучнасці з уласным дзіцем, узрослае на глебе штодзённага фізічнага судакранання, кожная маці і без нашага напаміну можа згадаць тысячу. Якімі б перавагамі ў сэнсе адукаванасці ды ўмення арыентавацца ў рэаліях сённяшняга дня мы не валодалі, бацькі куды лепш ведаюць нас, чым мы іх. І любяць больш — вось чаму, мабыць, мне нават у найцяжэйшыя хвіліны яе пакутаў ні разу не захацелася памерці раней за яе.

Яна памерла ўвосень, праз чатыры дні пасля маіх апошніх адведзінаў. Адведзіны былі кароткія, і адзіным суцяшэннем, што крыху супакойвала мой адчай падчас развітання ў хаце, дзе заставаліся пры ёй нязвыкла цвярозы бацька і дзядзька з цёткаю, якія прыехалі адведаць хворую з далёкага Данбаса, было тое, што дзякуючы аперацыі яе адыход выдаваў не такім пакутлівым, як зазвычай у людзей з гэткаю хваробай. Затым адчай саступіў месца трывозе. Такой неадступнай, што калі ў дзверы віцебскай кватэры, дзе я здымаў пакой, уначы пазванілі, я ўжо і спрасоння дакладна ведаў: гэта тэлеграма.

Адмалку прызвычаены да не так ужо характэрнай у сялянскім асяроддзі стрыманасці ў праяве пачуццяў пры старонніх людзях, я і думкі не мог дапусціць, што буду развітвацца з маці пры кімсьці чужым. Таму першае, што зрабіў, пераступіўшы праз парог хаты, — папрасіў усіх выйсці з пакоя, дзе яна ляжала. Канечне, гэта не было этычна ў дачыненні да суседзяў і сваякоў. Але, мабыць, на тую хвіліну такі крок уяўляўся мне найлепшым спосабам захавання ўнутранай блізкасці з нябожчыцай. Той глыбіннай, што мацуецца гадамі і для захавання якой адзіны надзейны сродак — самотнае маўчанне.

Як бы хутка ні мяняла смерць аблічча чалавека, на вочы нябожчыка яна прэтэндуе ў апошнюю чаргу. Вочы маці (як, мабыць, і вочы кожнага чалавека) па сканянні, калі яны з нейкіх прычын засталіся незачыненымі (у нашай не зачыніліся з-за скрайняй усохласці цягліцаў твару), — невымерны калодзеж. Яшчэ не зацягнутыя жаўцізною нябыту, яны ўражваюць не гэтак адлюстраванымі ў іх апошнімі прыжыццёвымі пачуццямі, як неадпаведнасцю колеру зрэнак стану цела наогул. Жывое ў (на) нежывым, сведчанне гатоўнасці да апошняга дыялогу з тымі, каму ён, такі дыялог, абыхо-

дзіць. Не памятаю, колькі разоў я набліжаўся да труны, каб у іх зазірнуць, — напэўна, не меней дзясятка. Але памятаю дакладна, што кожны раз адыходзіў з адчуваннем, што зноў неўзабаве да яе вярнуся. Што было ў тых вачах? Думаю, наўрад мне калі-небудзь удасца гэта хоць збольшага дакладна апісаць.

Каб распавесці пра лёс чалавека, не абавязкова апавядаць шмат. Часам для гэтага дастаткова нейкага кароткага, але выразнага эпізоду, які прамовіць больш за самы падрабязны аповед. Мой самы яскравы (і самы, здаецца, жорсткі) прыпамін пра маці — з летняга спякотлівага дня падчас маіх школьных канікулаў, з канца сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Не ведаю, чаму, але ўсім маім згадкам пра яе менавіта ён спадарожнічае ў першую чаргу.

Як апісаць дзень, што адначасна — і Эдэм, і пекла? Эдэм — для чалавека, не абцяжаранага клопатам, які толькі і ведае, што бегаць раз-пораз да рэчкі ды плёскацца да пасінення ў яе не спаганеных выдаткамі цывілізацыі вірах. Пекла — для вырачанага на працу калгасніка незалежна ад паказанняў іртутнага слупка тэрмометра і самаадчування. Эдэм і пекла адначасна — такім застаўся той дзень у маёй памяці, такім праследуе вось ужо больш як два дзясяткі гадоў. Але гэткае бачанне не тады з'явілася, а прыйшло пазней — магчыма, у той дзень, калі маці не стала.

Яна ідзе павольна, злёгку хістаючыся, і сонечныя блікі то слізгаюць па яе твары, то патанаюць, збітыя з тропу гульнёю святла і ценю, у кволай засені чэзлага, акупаванага з усіх бакоў нахабнымі дубцамі ляшчынніку. Яна, як заўсёды, спяшаецца, бо, каб паспець падаіць карову ды зноў у пару вярнуцца на працу да калгаснае шахі**, мае ад сілы гадзіну часу. Гэта дзіўна бачыць: чалавек спяшаецца, але ідзе памалу, амаль брыдзе, быццам стрыножаны, быццам штосьці яго не пускае. Пяць дзён таму яна звалілася падчас пагрузкі сенажу з прычэпа і выцялася грудзьмі аб дол так моцна, што ледзьве ачуняла. То, можа, ёй усё яшчэ баліць? А можа, яна ніяк не дасць рады адысці ад учарашняга спалоху, калі прывезлі ў шаху разам з сенам вужаку і тая абвілася целам вакол яе нагі? Ці, можа, нагадвае пра сябе зубны боль, што трэцюю ноч запар вярэдзіць, а не палечыш ніяк, бо да Друі, дзе маецца адзіная на ўсё наваколле амбулаторыя, без малога паўтара дзясятка вёрстаў, ды і квіток да лекаркі толькі на паслязаўтра? Яна ідзе, і блікі слізгаюць па яе твары і постаці, то з'яўляюцца, то знікаюць, збітыя з тропу — не, не гульнёю святла і ценю — яе хадой. Такой натужліва ціхай ды змушана павольнай, што нават няўзброеным вокам бачна, як яна спяшаецца.

Кажуць, калі нябожчык не сніцца, — ён не мае на цябе крыўды. Можа, гэта і насамрэч так, ды нават людзей, выхаваных у бясспрэчнай пашане да бацькоў, не абмінае небяспека аднойчы неадэкватна адрэагаваць на празмерную апеку апошніх ды зарабіць на той рэакцыі ў куфар уласнай памяці чорны шарык няўдзячнага сына (дачкі). Бо як дзецям уяўляецца натуральнай змена прыярытэтаў у выбары ўчынкаў, або ладу жыцця, або атачэння, так бацькам, наадварот, іх усведамленне даецца часам куды як нялёгка. Дзеці прагнуць новых дэкарацый і новых дзейных асобаў на авансцэне свайго існавання, бацькі зацята не жадаюць бачыць у іх якасці кагосьці ці штосьці апроч сябе — старая, як свет, гісторыя. У выніку — сітуацыя небяспекі займець згаданы шарык. Адна з маіх найбольш саромных у дачыненні да маці — з часоў жыцця ў Дрысе, падчас пераправы на лодцы праз Дзвіну на латвійскі бок, паўз які вымушаны быў цягам чатырох з паловаю гадоў дабірацца ад бацькоў да месца працы.

«Не плыві, патонеш!» — тузанула да сябе лодку з роспачу ў вачах.

Адпіхнуў яе ды і паплыў, не зважаючы на высачэзныя — вецер літаральна шалеў у той дзень — хвалі.

Нумар маёй банкаўскай карткі — 1928. Амаль дата нараджэння маці, з розніцай у адзін год. Адна з нямногіх лічбаў, якія я заўсёды памятаю — дзякуючы блізкаму суседству з другой. Валодаючы неблагой памяццю на імёны і твары, тым часам дарэшты пазбаўлены здольнасці да запамінання датаў і лічбаў. Але гэтыя дзве — 1929 і 1928 — памятаю заўсёды.

Датклівыя, паэтычныя натуры губяць не праца і не цяжкія, у сэнсе фізічным, варункі жыцця. Іх губіць неадпаведнасць заўсёднае ўнутранае арыентаванасці на пазітыўнае ўспрыманне свету акалічнасцям, якія нішчаць тую арыентаванасць недахопам пазітыўнага ў рэальнай паўсядзённасці. І калі гэткая натура заўчасна адыходзіць, застаецца ўражанне незавершанасці лёсу, недарэчнага абрыву, з якім і праз гады цяжка прымірыцца. І тады міжволі вяртаешся ва ўспамінах да праяваў уласнага эгаізму ў дачыненні да памерлага. Не ў апошнюю чаргу, канечне, і з падсвядомага жадання хоць збольшага той эгаізм апраўдаць.

Я не заўважыў, як зноў заснуў. Зрэшты, магчыма, гэта быў і не сон, а так, трызненне, эмацыйны калапс памяці, залюлянай успамінамі. Заспеты Марфеем на чарговай старонцы слоўніка, я праваліўся ў сон так неўпрыцям, што нават не паспеў адкласці той слоўнік убок.

І адразу ж амаль убачыў ЯЕ.

«Гэта ты зноў? — спытала яна і коратка дадала з драбінкаю іроніі ў голасе: — Прыехаў?».

«Nej, jag gick till fots, mamma»***, — сказаў я, з жахам адчуваючы, як ліюцца насуперак волі з роту, справакаваныя слоўнікам пад скроняй, словы чужой і, канечне ж, няведамай ёй мовы.

Я баяўся, што яна абразіцца і пойдзе прэч, але гэтага не здарылася. Яна прыязна, як колісь, — ні каліва дакору, ні намёку на асуджэнне — хітнула мне галавою ў знак згоды. Павольна абвяла вачамі несамавітае маё, здабытае на трыццаць восьмым годзе жыцця жытло, лагодна ўсміхнулася.

«Я зразумела, ты — пехатой», — сказала і знікла ў бязважкай прасторы па той бок круцёлкі.

Наступны сон заспеў мяне прыкладна праз месяц і зусім неўспадзеў — падчас прабывання ў шведскім Вісбю****, у салоне аўто па дарозе на суседнюю выспу Форё, да магілы Інгмара Бергмана. Але і ён быў такі сумбурны і бязладны, што, ачнуўшыся на нейкім чарговым павароце, я нават не здолеў узгадаць з яго ані дэталі, ані рыскі. Быццам і не сон то быў, а проста нейкі напамін пра штосьці — няпэўны і зыбкі, як шэрая балтыйская хваля на сутыку дня і ночы.

Мы агледзелі пад самавітае бляянне авечак за мураванаю агароджаю кладоў магілу знакамітасці, скіравалі ў шырку*****. У шырцы было ціха і пуста, і, каб не свечкі за памерлых, што гарэлі збоч алтара, можна было б падумаць, што сюды і нага чалавека ніколі не ступае. Затым усе пайшлі на двор, а я затрымаўся ў памяшканні з намерам зрабіць пару фотаздымкаў.

Мой пагляд упаў на падстаўку са свечкамі, і мне здалося, быццам я зразумеў сэнс саснёнага ў аўто. Я памкнуўся да скрынкі са свечкамі, каб узяць адну і запаліць, але думка, што храм не каталіцкі, а лютэранскі, а маці ж праз усё жыццё была каталічкаю, стрымала маё памкненне. І, мабыць, дарэмна, бо ўвесь зваротны шлях і затым усю рэшту дня мяне не пакідала адчуванне чагосьці зробленага не так, як было б след.

Праз тыдзень я выпадкова набрыў у Вісбю на будынак касцёла. І першае, што там зрабіў, — запаліў і паставіў ля ўзножжа Божае Маці сціплую свечку за Маці сваю. І хоць гэта было і запозна, праз колькі дзён пасля таго, як яна нагадала пра сябе ў сне, не сумняваюся: яна мяне не асудзіла.

Яна ж, як і я, — заўсёды пешкі, і мы абодва гэта выдатна ведаем.

---

* Антыпод усяеднасці.
** Вялікая пуня.
*** Не, я ішоў пешкі, мама (шведск.).
**** Галоўны і адзіны горад выспы Готланд у Балтыйскім моры.
***** Кірха (па-шведску вымаўляецца — шырка).

# Дарунак



Мікола БУСЕЛ

**На абшарах Вялікае Літвы лета набліжалася да свайго канца... Яшчэ ззяла сонца, буяла зеляніна траў і дрэў, але золкае ранішняе паветра і халодныя росы сведчылі пра немінучую змену ў прыродзе.**



Апаўдня, калі сонца добра прагравала лугі, лясы ды рэдкія палі, чародкі буслоў (моладзь і старыя) пасля жыравання на багатых балотах узнімаліся ў неба і, следам за старым важаком, шукалі вышынныя плыні паветра. Чалавеку з зямлі птушкі рабіліся ўсё меншымі, маленькімі, маленечкімі, малюпасенькімі, ажно пакуль зусім не знікалі ў блакіце неба. У ахвоту налётаўшыся, птушкі вярталіся да ранейшага месца, каб назаўтра зноў паўтарыць невялікую вандроўку. Мінаў дзень за днём, чародкі збіраліся ў чароды, чароды раслі і буйнелі, і калі буслоў збіралася дастаткова багата, яны ўзнімаліся ў неба і з развітальнага круга з недасяжнай воку вышыні кіраваліся да сонца.

Час — не праблема для птушак. Для іх ён непадзельны, як плынь ракі ці стыхія паветра. Інстынкт выраю няўмольна цягнуў іх на поўдзень, на сваіх шырокіх крылах яны неслі з сабою лета і пяшчоту цяпла.

На тым шляху здаралася рознае. Часам якая-небудзь птушка стамлялася, заставалася на зямлі. Але ніхто асабліва не турбаваўся: за імі імкнуць іншыя, з імі прыляцяць і той, хто прыстаў...

Таму ніхто з буслоў не здзівіўся, калі недзе ці то на Нёмане, ці то на Трэмлі, ці то на Бярэзіне, а мо і на Прыпяці ў іхнім цузе з'явіўся новы падарожнік. У дзюбе ён трымаў невялікі клунак.

З раніцы птушкі, выгледзеўшы з вышыні кормнае месца, спускаліся на зямлю, каб падсілкавацца ды даць спачын крылам. На дзённых папасах новы бусел ніколі не адыходзіў ад клуначка. Каб даць і яму магчымасць падсілкавацца, старэйшы ў стаі пасылаў якую-небудзь птушку павартаваць таямнічы скрутак. На ўсе распыты, дзе ён узяў яго і куды нясе, бусел лаканічным клёкатам расказаў, што знайшоў яго ля моцна параненага суайчынніка-бусла, і той перад сконам папрасіў занесці клуначак на поўдзень. Там ён убачыць зіхоткую вячэрнюю зорку. Вось проста пад гэтаю зоркаю і трэба будзе пакласці пасылку. Усе згодна падмеліся па чарзе несці таямнічую «эстафету». І кожны, хто нёс той скрутак, не адчуваў аніякай стомы.

Над Паўднёвай Сірыяй з гор неспадзявана ўзнялася чарада сокалаў і рынулася на буслоў. Птушкі яшчэ не паспелі прыдумаць, што ім рабіць, як з-за невялічкай бязважнай хмурынкі вылецелі залатагаловыя царскія арлы і ўмомант пашкуматалі сокалаў.

Ад гэтага моманту велічныя царскія арлы не пакідалі буслінай чарады.

Чым бліжэй яны набліжаліся да Палесціны, тым болей сустракалася арлоў, і нельга было зразумець, скуль яны бяруцца і чаму іх так шмат.

На самым поўдні гор Фінікіі сокалы шчэ раз паспрабавалі напасці на чараду буслоў. Гэтым разам іх было так шмат, што аж зарабацела паветра. Але арлы былі пільнымі. Яны склалі крылы і рынуліся ўніз. З разбітымі галовамі падалі сокалы, пакідаючы ветру пёры былых крылаў...

...Скончыўшы будзённыя справы, Марыя сядзела на ганку сваёй хаціны. Надвячорак быў ціхі і цёплы, напоўнены чаканнем нечага незвычайнага і таямнічага, такі, якім ён бывае ў Палесціне ў час Каляд. Марыя думала пра падарожжа ў Назарэт і Віфлеем, пра таямнічае звеставанне і пра мужа Язэпа. Пра тое, што ёй расказала стрыечная сястра Лісавета. Ці мала якія думкі прыходзяць у голаў маладой жанчыне, якая толькі нядаўна стала жонкаю?

Вялікая чарада буслоў паволі кружылася над ёй і апускалася ўсё ніжэй і ніжэй. На момант, толькі на адно імгненне, Марыі здалося, што яна ўбачыла анёла. Але, магчыма, ёй гэта толькі здалося. Проста бусел быў белы... На зямлі нерухома ляжаў клуначак, з яго чуўся плач немаўляці. Жанчына зразумела гэта як знак.

У двары пачуліся крокі. Як заўсёды, яе Язэп вярнуўся дамоў да надвячорка. Марыя ўстала, каб папярэдзіць мужа. Той зірнуў і ўсё зразумеў.

«Бог паслаў нам сына», — ціха прамовіла Марыя.

«Я ведаю».

Марыя ўзяла збан, паліла мужу на рукі і падала ручнік. Язэп пераступіў парог і падышоў да калыскі. Ён глядзеў на немаўля, потым стаў на калені, нахіліўся і дакрануўся вуснамі да дзіцячай шчочкі. Марыя ўбачала, як асвяціўся твар мужа.

«Не пабудзі, хай спіць».

Абое выйшлі на двор.

Звечарэла.

На небе над імі ярка ззяла першая зорка.

# Прычасце



Васіль ЗУЁНАК

***

*Жыццё кароткае, як сон*
*Кароткай чэрвеньскаю ноччу, —*
*Здаецца, што даецца ён,*
*Каб зазірнулі ў вечнасць вочы.*

*Ды родняцца яны смяротна:*
*Сон — з захаду на ўсход імчыць,*
*Жыццё — трактуе шлях зваротны:*
*Усход на захад залучыць...*

***

*Прыходжу да свяцілішча ляснога,*
*Нібы пад усявышнія пакровы, —*
*Шукаць паразуменне і падмогу,*
*Апірышча, спагаду і ахову.*

*Як час раўнуе ўзлёты і падзенні,*
*Так лес руйнуе першабытным гудам*
*З сусветам і жыццём несупадзенні, —*
*Сябры сышлі, а ворагаў — забуду...*

### Сустрэч не будзе?..

1.

*А ТАМ ніхто й нідзе не заблукае,*
*Ніхто й нікога не сустрэне там, —*
*Як рай турэмных адзіночных камер,*
*Сусвет прарокі абяцаюць нам.*

*Сустрэч не будзе, — у святым пісанні*
*Абвешчаны смяротнаму прысуд.*
*Прастора й час не ведаюць згасання —*
*Яно для нас: як шлях зямных пакут.*

*Усіх чакае зорная магіла*
*І нерухомай вечнасці палёт,*
*І ў душы будуць угрызацца крылы*
*Не для сустрэч — для зорных адзінот...*

2.

*А які самы страшны прысуд*
*Можа быць мне наканаваны?*
*А такі: не застаўшыся ТУТ,*
*Быць і ТАМ пакутна нязваным.*

*Гэта кара: на ўвесь Сусвет*
*Ты адзін — і пясчынка, і космас,*
*І ніхто, ні насустрач, ні ўслед,*
*Не гукне — толькі шлях безгалосы...*

*Толькі ўсцяж — ланцугі нематы*
*І хаос — як да першастварэння.*
*Толькі ты, толькі ты, толькі ты, —*
*Сам сабе і грэх, і збавенне.*

*Будзеш міма сябе пралятаць,*
*Праз усё — як бязісную небыль,*
*І не будзе ў каго запытаць:*
*— Што ў вас там... пад зямлёй...*
*ці на небе?..*

***

*І якая рахуба мне жыць*
*Так, як верш наравісты дыктуе,*
*І дакуль яшчэ рыфмы кружыць*
*Галаву маю будуць сівую?*

*І які бесклапотнік сядзіць*
*За сталом маім чатырохстопным,*
*І які самотнік глядзіць*
*Рыфмай парнай на сэнсаў шматкроп'е?*

*І які бесшабашнік ляжыць*
*На радках, як на рэйках сп'янелы,*
*І які бессабачнік бяжыць —*
*Сам выжляк! — па слядах вершаў белых?*

*Дзень і ноч малаток які*
*Рытмы лёсу майго здабывае:*
*Хто такі, хто такі, хто такі —*
*Нібы ў сэрца цвікі забівае?..*

### О час...

*А час — пажартаваць мастак*
*І жартаў сэнс не тоіць.*
*О час! — з чаго ж бы ўсё не так,*
*І ўсё — зусім не тое?..*

*Ці то з крывым люстэркам ты*
*Ідзеш? Ці я старэю? —*
*О час! — чаму ў смузе слаты*
*Світанкі вечарэюць?*

*І шпак — вясну не маладзіць,*
*І — стрэмкі жаўрукова...*
*І думка сонцу ўслед глядзіць,*
*Як змрочны лес яловы...*



Фота www.funzoo.ru

***

*Беднасцю прыстойнай блаславёная,*
*Дзе нішчымнасць завіхалася кухаркай,*
*Страва называлася бялёная:*
*Тры вады — і малако ў прыварку.*

*Забялёная? — малочная з пытальнікам:*
*Толькі колерам пад малако фарбуецца, —*
*На стале малочная праталінка*
*Як у пост сама сабой любуецца.*

*Ці зацірка, ці булён які з картопелькі —*
*Хоць сівенькія, ды выгляд чапурны!*
*А гарачыя ж! — у місу поту кропелькі*
*Аж бруяцца ў тры вераценi...*

*З той падманнай радасцю застольнаю —*
*Ад калыскі да грудка апошняга —*
*Вы са мной: і памяццю супольнаю,*
*І наяўнай яваю няпрошанай.*

*Цот у цот... І я не надта збочваю:*
*Цуд кулінарыі нагадаў*
*Міф, што рэкі ў нас цякуць малочныя,*
*А прыглядзішся — сівенькая вада...*

### Два бядулі

*Было два Бядулі на Беларусі:*
*Адзін аб лёсе яе бедаваў,*
*Другі з аптымізмам жыў у хаўрусе:*
*На працадні біду раздаваў.*

*Адзін у падручных пісьменніцкай музы*
*«Пяць лыжак зацiркi» калісьці дзяліў,*
*Другі старшынёўскія лейцы тузаў:*
*Калгасам-гігантам натхнёна руліў.*

*Адзін пяром выручаў эпоху,*
*Лічыў: біду нясе на гарбе,*
*Другі нагружаў: каб усім патроху,*
*І каб найменей — самому сабе.*

*Адзін штодзённа пяць*
*лыжак зацiркі*
*На бальшавіцкай харчэўні меў,*
*Другі на ўсе грудзі калгасныя ўшыркі*
*Геройскімі зоркамі ўладна грымеў.*

*Адзін хаваўся за псеўданімам,*
*Другі сапраўднае прозвішча нёс, —*
*Бядулі... А беды — не міма, не міма,*
*А ўсё навылёт праз народны лёс...*

### Варыянты

*Хтосьці прагне зблізіць варыянты:*
*На ілбе ў гісторыі, як гуз, —*
*Мова без народа — эсперанта,*
*І народ без мовы... — беларус?..*

***

*Разляцеліся думы чужымі галактыкамі —*
*Хоць бы зорка мне, хоць бы прамень.*
*Не сышліся з сусветам зямным*
*характарамі, —*
*Мне вяртаюць не памяць, а памяці цень.*

*То не рэха вясны, а няздзейсненасць*
*водгульная...*
*Пэўна, выпіта ўсё з крыніц...*
*Наступаюць грымоты вогненныя*
*Змрочных жнівеньскіх навальніц...*

### Прафесар мовы Леў Шакун...

***Студэнцкая згадка***

*Прафесар мовы Леў Шакун*
*З хітрынкай партызана*
*Заўжды нам паціскаў руку:*
*Пакажа ўсё экзамен.*

*Дык і прызнацца: не цярпеў*
*Прафесар марнатраўства*
*І паэтычны хваласпеў*
*Суцішваў мовазнаўствам...*

*Так, падагуліўшы семестр,*
*Цягнулі мы білеты:*
*З аўтарытэтамі і без —*
*Здавалі тэст паэты.*

*«Зваліўшы мову» Шакуну,*
*З Бураўкіным Генадзем*
*Мы зазірнулі ў чайхану —*
*Па кроплю чаю «ради».*

*І трэба ж: толькі налілі*
*(Студэнцкі сціплы шкалік!..) —*
*Узнік, як быццам з-пад зямлі,*
*Каго мы не чакалі.*

*Прафесар мовы Леў Шакун*
*(Мо ў знак, што мы не «ўтоплі»?)*
*Па-партызанску «першаку»*
*Забег «прычаіць» кроплю.*

*Ну што ж, ну што ж, бывае й так:*
*Галодныя паэты*
*З прафесарам глынулі ўсмак,*
*А ён яшчэ й катлеты*

*Замовіў: «Хлопчыкі, з'ядзім,*
*З'ядзім — а не закусім», —*
*Стылёва нас адгарадзіў —*
*І чарку ўзяць прымусіў.*

*З экзамена навесяле*
*У інтэрнат прыйшлі мы.*
*Ну, хай сабе, ну, хай... — але*
*Па мове пабрацімы:*

*Не проста пачастунак быў*
*У нас прафесаровы, —*
*Не так, не лыкнуць, не абы...–*
*А за здароўе мовы!*

### Колькі?..

*Здароўем быў травалісты,*
*Ды жылы надарваліся.*
*І выспела задача:*
*Даць Богу справаздачу.*

*Пытаўся ва ўсіх крамах,*
*Ва ўсіх бюро рэкламных,*
*Ва ўсіх шынках, патраўках*
*І ў сельскіх аўталаўках,*

*Ля кожнай шоў-забавы —*
*Ва ўсіх кустах, канавах... —*

*Так і памёр — не вы́пытаў:*
*А колькі ж было выпіта?..*

### Зіма: крокі...

*Не ў небе — на ляснай арбіце*
*Марозна крокі зор рыпяць.*
*Цішэй, цішэй — не разбудзіце:*
*Дрэвы спяць...*

### Прычасце

*Яшчэ завейна гудзіць па начах*
*Ды й днём не лянуецца ўчэпісты люты,*
*Яшчэ мароз, як шабляй — з пляча —*
*Красае ільды на плёсах закутых,*

*Яшчэ мядзведзю ў дрымотным лаўжы*
*Малінавы водар спакусліва сніцца,*
*Яшчэ да вакна: я ж не дзядзька чужы —*
*А голад не цётка, — ляцяць сініцы, —*

*А сонца нагадвае ўсё часцей —*
*Аб тым я сам забыўся нібыта:*
*Рыхтуйся сустрэць пералётных гасцей*
*З чыстай душою і сэрцам адкрытым.*

***

*Выпадак рэдкі: пеўчы дрозд,*
*Жыхар лясоў карэнны,*
*Прыняў, напэўна, новы хрост:*
*Стаў мне амаль што крэўны.*

*Прыжыўся — над вакном якраз,*
*У вінаградным веццi*
*Гняздо зрабіў.*
*Дзве хаты ў нас,*
*Але адны ў нас дзеці.*

*Жывём вясёлаю сям'ёй,*
*Ідзе ўсё ў хатах ладам, —*
*Тады і радасць у маёй,*
*Калі ў драздовай радасць.*

*Дзве хаты нашы, два гнязды,*
*З вясною дзён не лічаць.*
*Шчыруюць раннія дразды,*
*А мы — удачы зычым.*

*Ды як жа хутка, неўпрыкмет*
*Лес клікнуў драздзянятак!..*
*Самотна пазіралі ўслед*
*Я, і гняздо, і хата...*

*Яно па-боску ўсё, калі*
*Крылатыя ўзляцелі,*
*Але ж — сады яшчэ цвілі,*
*А гнёзды апусцелі...*

***

*Бясконца можна гаварыць*
*З Ахматавай, Цвятаевай,*
*А тайну ў люстры не адкрыць,*
*Схаваную за тайнаю.*

*Яе адбітак з верша ў верш,*
*Як з люстра ў люстра, множыцца, —*
*Якой была яна найперш,*
*Наўрад спазнаць вы зможаце.*

*Яе адкрыеш — а яна*
*Замкнецца зноў пытаннямі...*

*Вясна, струна, сцяна, труна,*
*Жанчына з вечнай тайнаю...*

***

*На раніцу — змрок,*
*І на поўдзень — золь,*
*І вечар — апошняй трымціць*
*трысцінкай...*
*І казка — казуляй, дзікай казой,*
*Збегла ў лясы дзяцінства...*

***

*Усё перажыў, — нібы камень на дно,*
*Пайшло. Але Бог не пакінуў:*
*«Пакуль што жыві...» — засталося адно:*
*Яшчэ перажыць і ўспаміны...*

# Молімся Табе, Маці Божая*



Валер САНЬКО

**Удзячныя за кожную прынесеную цукерку, за слова добрае, адзыўныя на цёплую ўсмешку, спагадны ківок галавы, — дзеткі шаснаццатай палаты ўсё болей ніклі. Іх ела адзінота.**

Крылле і дзюбкі вострацъ птушачкі аб воблакі, дзеткі палаты вастрылі носікі аб шыбківаконня.

Яны ўжо рэдка прасілі бацькоў і знаёмцаў прыязджаць у гомельскі Дзіцячы цэнтр, нешта прывозіць. Ляжалі, дыхалі не дзяўчаткі — дошчачкі, яшчэ дыхлівыя, варушныя, а ўжо нежывыя дошчачкі, абгабляваныя выбельнымі фуганкамі жахлівага чарнобыльскага лёсу.

Яшчэ нядаўна іх часта раздражняла людская мітусь, аднастайная слоўная пустэча. Зараз хочуць, моўклыя, цішыні, прагнуць няруху, свядома моляць адлёту.

Дзяўчатачкі паміраюць. Гэта ведаюць усе, усэнсовілі яны самі, выкінутыя з дупла шпачаняты і жаўручаняты.

Плачуць, цякуць празрыстаю сінню дзявочыя вочкі. Сіненькія сіроткі ўзіраюцца ў засіненыя астральнасцю сіва-шэрыя цяккуткія воблакі. Прыязджаюць да іх родзічы ўсё радзей, не падаюць рук, не туляцца, не цалуюць. Рэдзь у рэдзь. Заявіцца сяброўка — не абдымаецца, гаворыць знаводдаль, развітваецца — не пацалуе ў шчочку.

Вялыя пахі позневосеньскіх зрэзаных траў букету, як выдых заспакойных слоў, не грэюць.

Пачуе каторая свежы голас у калідоры, сціскаецца радасцю — да яе; усё часцей на адказ чуе ад санітаркі — «не перажывай, прыедуць».

Наўзрыдма плачуць, душацца слязьмі не дзяўчатачкі Гомельшчыны і Магілёўшчыны — беларускае абрабаванае дзявоцтва. Плача Беларусь, асірацелая на мілых падстрэленых пташак. Дзяцінства і дзяцінства, падлеткавасць і юнацтва птушанят глыбей заворвалі сумота і адчай.

Хто на іх не гляне, спакойным не адыйдзе, заплача, калі не яўна, то ўпотайкі. Слоўна пра іх стан, нярухнасць выкажацца дома і на працы. Такіх бальнічные стараюцца выпісваць. Не хочуць павялічваць смяротнасць у Цэнтры. Не ўдаецца. Блізкія адмаўляюцца ад абнярухнелых плаксаў, не хочуць везці жывую радыяцыю ў хату, ды і самі кемкія дзяўчатачкі шкадуюць брацікаў і сястрычак, просяцца дабыць тут. Яны восьвось вылечацца. Слова «памерці» не вымаўляецца малымі, старымі.

Усё часцей дзяўчаткі адкрыта вымольваліся ў неба і радні. Дайце нам памерці неадзінокімі. Знайдзіце нам блізкіх, хай наведваюць. Чужыя стануць роднымі, абы наведвалі, мы прызнаем іх…

Два хлопчыкі скокнулі з пятага паверха на асфальт. Самагубнічаць грэх, яны скокнулі. Вырываліся з адзіноты і непатрэбнасці, хоць чым выказвалі характар і волю.

Што рабіць, хто пачуе дзявочыя думы і стогны?

— Мы доўга маўчым, Вяруня, — азываецца першая.

— Давайце раскажу, як мы ездзілі ў Мазыр, у тэатр, — Вера Нямковіч раздумвае даўгавата. Непадобныя, як не могуць быць падобнымі два баравікі, дзяўчаткі падобна варушацца, падобна мысляць, слоўнічаюць.

— Казала. Тры разы, — трэцяя.

— Нічога, кажы, Верка, слухаць — заўжды цікавасць. Лепей за маўчанства.

Дзяўчынка апавядае. З неадабрэнствам за пропускі дэталяў яе папраўляюць, суседкі ўспамінаюць варыяцыі Вернай паездкі, пра якія Вера не казала ні разу, іх не было. Вяруня згаджаецца з удакладненнямі.

Не прыручаная для прамаўлення і філасофскасці дзіцячая выдумка гучыць з шчырым наівам. Запаўняе страшэннейшыя пустэчы жывога неісназання.

Прапоўз дзень, два, тыдзень, паўмесяца, два месяцы. Настаў час, калі дзяўчаткі перасталі чакаць любога госця. Яны радыя ўсмешцы нават староннягa, хоць іх усё меней. Засвоілі жорсткую рэальнасць быцця. Нарэшце дарослыя перасталі прытварацца, заспакойнага слоўнага зманьства не стала ў палацe, на калідоры.

У памечаных радыяцыяй дзетак скалечанае здароўе, душы, лёсы.

— Хачу, каб не хварэла мама…

Няхай паправіцца сястра і цялушка.

— Мне здароўе не трэба, не патрэбна і ўсё. Ужо не баюся памерці.

— Дзеўкі, перастаньце, ніхто не памрэ…

Дзяўчаткі паўтараліся ў словах, жаданнях. Вера Нямковіч адкрыла нарэшце прычыну свае хваробы. Сонца кліча на траву, на выган, у лес, а бацькі і настаўнікі асаджвалі: не бегай, сядзі ў хаце. Вось і ўцякала з-пад Мазыра да бабкі ў мілы нараўлянскі Лубень. Бабка не хварэе, і Вера не хварэцьме. Бабуля давала гарантыю, не шкадавала рублікаў.

Чыстая зона ёсць, слухайце радыё, чытайце газеты. Усё ў Беларусі добра з радыяцыяй, пад кантролем. Толькі ехаць дзяцям туды нельга, тым болей у Лубень. Агідна, як гэта так? Паедзе. Лубень для бабкі і ўнучкі заўжды быў Айчынаю.

Аўтобус перастаў хадзіць у Лубень, там небяспечная зона, ахоўваецца міліцыянерамі. Што б ні было, Вяруня пойдзе пешшу, папаўзе, але штогод будзе ў Лубені. Не месяц, два, як раней — хоць дзень, два.

Мары Веры дапаўняе Зоська з Крычава. Два гады раённыя кіраўнікі Крычава зусім не ўзгадвалі пра радыяцыю. Людзі хадзілі ў лес і ў рыбу бязбоязна. Раённая ўлада праўду ведала і подла не папярэджвала дарослых і дзяцей.

— Сяброўчачкі! Давайце паспяваем.





— Не-э, пашэпчамся.

— Пра што?

— Ні ведаю.

Дзеці перашэптваюцца. Звычная млосная ціша засейваецца ў палатах, калідорах. Нават рэзка павярнуцца на ложку дзеткам цяжка. Усхліпне адна, другая, маўчаць. Уночы стогнуць, прачынаюцца. Ад ускрыкаў.

Нудотна цячэ дзень за днём. Паміж дзяўчыначкамі ўсё перараказана. Асабістыя кнігі сталі агульнымі. Разрэджаныя на макаўках валаскі прычэсваюць радзей.

У вакно глядзяць паасобку, разам, паасобку, па двое. Вышукваюць жаўрукоў, вераб'ёў, варон. Навучыліся птахаў распазнаваць, далі імёны…

Фортка сіратліва ўздыхае, часцей плача.

Зрэдку дзяўчынкі прымаюць лекі, без роспытаў у медсясцёр.

Моляцца ўсе чацвёра. Як умеюць. Асобныя, як Люська, дачушка рабочага, і Светка, дачушка райкамаўца з Хойнікаў, ойчанашыцца не ўмелі, хрысціцца саромеліся, у шаснаццатай палаце навучыліся.

Пастунова хворанькія знаходзілі ў прасторы неба ўласную малітву, не лепшую за храмавыя і не горшую. Малітва іх не была сузгоднена-велічнаю. Яна складалася з асобных рэплік, слоў, нават уздыхаў — Богу, а калі прааналізавалі — Матухне, Дзеве Марыі, Стваральніку, Матцы Боскай. У такім парадку.

Трывожны роспачны боль, ціхая слабасць усё мацней ядзе дзяўчынак, аднімае волю, бездапаможыць цела, душу. Вораг змусіў іх жыць у цемры хваробы. Не хавай, Божухна, ад іх твар Твой, каб яны няхутка сталі тым, што заўжды маўчыць, бо яны ўжо і так на мяжы магілы і свята, на мяжы пераходу.

У Гомельскім Дзіцячым радыяцыйным цэнтры яны не пачуваліся ў зняволенні, у зоне, але і не на волі, хаця не ведалі пра гэта. Яшчэ не так даўно дзяўчаткі паводзіліся бліз родных аселішчаў, як дазвалялі дарослыя і жадалася самім: не баяліся вады, пяску, лесу. Колішняя дзіцяча-дзявоцкія прыяцельствы, спаборніцтвы, іроніі, посваркі — глупства зялёнае ў параўнанні з цяперашнімі хворасцямі, пачасцелымі смерцямі дзетак гэтага крыла, іхняга пакоя, слязьмі дарослых.

Дзяўчынкі ўжо не хочуць і не могуць сябе ашукваць. Акіяны дабра, зла і хлусні прынесла ім савецкая палітыка і аднапартыйнасць. Мамы і таты баяцца привезці ў Цэнтр брацікаў ці сястрычку, хаця абяцалі. Самі радзей прыязджаюць. У дзяўчынак хворасцяў болей. Неўсвядомлена, інстынктыўна болей просяць Бога і ўсё жывое памагчы ім. Гатовыя ўсё жыццё прысвяціць Богу, штодня аддаюць Яму малітвы, абы паправіцца. Або хутка памерці.

**Спусташэнне зямлі, вады, паветра, спусташэнне душы прынёс маленькім беларускам Чарнобыль. Зона адчужэння не трыццаць кіламетраў — уся беларуская зямля**

— Войча, Божухна Наймілы, Прасвятая Багародзіца, прыміце нашу просьбу. Уладычніца, молім Цябе, вырані ад нас хваробы. У Бараўлянах, у анкалагічным інстытуце пакутавалі мы і нашыя аднакласніцы. Мы, чацвёра з гэтага пакоя, не ўсе былі там, памалу былі, у нас зусім маленькія хваробы, нам не трэба доўга лячыцца ў Мінску, мы здаровыя, памажы заздаравецца. Каб не пайшлі за прыяцелькамі з пакоя ў вырай далёкі.

Няхай цёмныя дактары стануць светлымі, дапамагаюць па-сапраўднаму. Клаўцы ў амбулаторыі на восьмы дзень пасля аварыі ў Чарнобылі раілі ўжываць палову чайнай лыжкі ёду на дзень. Палову лыжкі замест некалькі кропляў. Не сказалі, які ёд, колькі дзён. Звярнуліся бацькі да доктара, а ён не ведае. Яго не праінструктавалі, з раёна дакладна не параілі, як пачуў ад некага, так людзям і раіў.

…Фаталістычны сум і адзінота. Дзеці інстынктыўна адчуваюць, як сорамна не мець сяброў, гэтак жа сорамна мяняць іх часта. Як мяняюцца дзяўчаткі ў іхняй палаце.

У паслявыбуховым траўні ў школах і кватэрах вокны і дзверы пазачынялі наглуха, а на вуліцы спякотна. Дзеці рвуцца на вуліцу, настаўнікі не пускаюць. Ім самім душна. Нельга нікому загараць, дарослыя не выводзяць дзяцей з-пад сонца. У ваду нікому нельга, дзеці кульмільгна скочуць у рэчку, боўтаюцца, выводзяць іх з вады некаму, выводзяць не адразу.

На вакзалах натоўпы, цягнікі і аўтобусы народ бярэ штурмам. Усе хочуць выскачыць з радыяцыйнага пекла — да родных, блізкіх, знаёмцаў, абы далей ад ЧАЭСся, смерці. Людзі, як у вайну, ратавалі здароўе, дзяцей. Многія начальніцкія сем'і ціхом павывозіліся ў першыя дні аварыі.

За навучальную восеньскую чвэрць Альбінка Пакрова тры тыдні была ў школе, Ніна — месяц, практычна нікога такое не трывожыла.

Змянілася формула крыві ў дзяўчынкі. Штотыдня з пальцаў бралі кроў, паколатых пальцаў яна практычна не чуе. Ёй неабходныя гранатавы сок і крывяная каўбаса. Дзе ўзяць сок маме бібліятэкарцы, за што купіць? Крывянка радыяцыйная, ды і апрыкрала дзяўчаняці.

У школах і бальніцах давалі дзеткам таблеткі, потым адмянілі, памылкова іх прапісалі. Вось цяпер, маўляў, наша лячэнне правільнае. Так некалькі разоў. На дзецях выпрабоўваюць лекі, спосабы, метады — савецкія і замежныя, — адразу на дзецях.

Бацькі пашумяць, нічога не дакажуць. Дактары вучацца самі, у іх не было вопыту, яны ў пошуках; дзе лекі прайшлі патрэбныя выпрабаванні, не ведаюць. «Вы хочаце, каб лекі адразу памаглі, адразу ўсім — так не бывае. Дактары выкарыстоўваюць лепшыя рэкамендацыі, яны не хочуць горшага дзецям і свайму Цэнтру».

Асобныя людцы праз тры гады нечакана завідушнічалі, начальнікі пачалі гаварыць пра жах сусветнай катастрофы на ЧАЭС, вялікія страты ад яе тром савецкім рэспублікам — і пра абавязковасць фінансавай дапамогі пацярпелым рэспублікам і сем'ям ад замежжа. Нават пра што раней прамаўлялася мала, бегла — пра недахопы. Савецкая наймагутная дзяржава ні на што, аказваецца, не мае сродкаў: на лекі, інструменты, апараты, комплексныя вітаміны.

Урэшце, не падабаецца ў нас, у абласным Цэнтры, мы бацькам даўно раім: пераводзьце дзіця ў райбальніцу. Там сапраўдны «рай», вы сюды імкнуліся, дык цярпіце, слухайце.

Ад няправільнага і слабага лячэння радыяцыйнага дзеткі надоўга трапляюць у бальніцы, дасягаюць гэтага Цэнтра, а вінаватых у колішніх і цяперашніх памылковых рэцэптах і лячэннях няма…

Спусташэнне зямлі, вады, паветра, спусташэнне душы прынёс маленькім беларускам Чарнобыль. Зона адчужэння не трыццаць кіламетраў — уся беларуская зямля. Чарнобыльская вайна нашмат страшней за другую сусветную, за ўсе дасюлешнія.

…Каркаюць-каркаюць галкі і вароны ў небе, лапатное крылле рэжа небакрай, прычэсвае ўскрайкі голых раннесакавіцкіх падлескаў. Не можа чорнапатаства забіць жаўручыную звоністасць, адлятае, аціхае.

Звіняць жаўрукі ў чарнобыльскім небе, звіняць, аж заходзяцца.

* Фрагмент з дакументальнага рамана.

# З родным словам — праз усё жыццё

**Да свайго 85-годдзя прафесар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, знакаміты краязнаўца, літаратуразнаўца Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч выдаў чарговае даследаванне культурнай спадчыны Гарадзеншчыны «Слова і кніга Прынёмання», у якой прасочаны здабыткі ад даўніх часоў да сучаснасці.**



Аляксей Пяткевіч

Аўтар запрашае ў цікавую вандроўку, асабліва блізкую жыхарам Гарадзеншчыны. Усё гэта ўзышло на нашай зямлі, дзе заўсёды меліся багатыя набыткі ў галіне літаратуры, кніжнай, музычнай культуры, бо здаўна наш Край быў багаты на таленты. Аляксей Пяткевіч прайшоў гэтую вандроўку сам, дасканала вывучыўшы ўсе вартыя ўвагі з'явы культуры, не праміну́ўшы, бадай, ні аднае постаці. Дбайна сабраў усё гэта пад адной вокладкай.

Пачынае аўтар з далёкага XIII стагоддзя, калі слова, «радкі кірыліцы прыгожай», паўставала дзякуючы перапісчыкам. Адметнае ў даследаванні рукапіснай кнігі — увага да тых асобаў, хто яе ствараў. Шырока цытуюцца іх аўтарскія ўстаўкі, прадмовы, пасляслоўі, у якіх выявілася спроба заявіць пра сябе, выказаць сваё, чалавечае, асабовае, тым самым пакінуць свой след у кнізе — слове напісаным, бо ж напісанае застаецца. Усе гэтыя «отцовскы сыны», «аз смиренныи», вельмі кранаюць. Яны прабіваюцца да нас, сённяшніх чытачоў, праз стагоддзі, і дзякуючы такім даследчыкам, як Аляксей Пяткевіч.

У гэтым раздзеле змешчана пасляслоўе да Жухавіцкага Евангелля, якое ў свой час апублікаваў Вацлаў Ластоўскі. Не можа не здзівіць вялікая ахвярнасць таго, хто напрыканцы назваў сябе: «Нягодны Лукаш Прасвітар Царквы Жухавіцкай». Вось у якіх умовах стваралася Евангелле: «...Пісаў пры лучыне ноччу, левай рукой свецячы, а правай пішучы, гэта значыць, у левай трымаючы лучыну, а ў правай пяро, і то тады, калі меў на паперу які грош з заробку, каб было за што яе купіць, дабрадзея ніякага не маючы». Нішто не змянілася з тых часоў у нашым Краі. Толькі тэхніка пайшла далёка наперад. Вось і гэтую кнігу шаноўны прафесар выдаў сваімі намаганнямі: сам і рэдактар, і карэктар, і фундатар.

А працаваў той прасвітар Лукаш так самаахвярна, бо амаль не было ў беднай Жухавіцкай царкве кнігаў. Тварыў свой чын «на гонар і хвалу Богу ў тройцы с. адзінаму і найсвентшай панне Марыі і ўсім святым». Пэўна, слова такога чалавека, ягоны тэстамэнт Небам прынятыя. А ён быў у тым, каб кніга гэтая заўсёды ў той святыні знаходзілася. Інакш — «анафема, г.зн. праклцце навек, і са мною павінен будзе мець справу ў страшны дзень суда Божага». Дык не дзіва, што столькі бедаў трывае наша зямля, нашчадкі тых, хто не выканаў ягоных запаветаў.

Здабыткі, а іх безліч, слова друкаванага занатаваныя ў другім раздзеле. Гэта ўжо не лучынны час ахвярнікаў-адзіночкаў, тут дзейнічаюць друкарні ўзору еўрапейскага. Вялікую ўвагу аддае аўтар такім установам у Любчы і Гародні. І гэта зразумела: здабыткі іх працы ўражваюць. Так, 100 кніг за 20 гадоў выпушчана ў друкарні Тызенгаўза. Гэта лічба!

І тут Аляксей Пяткевіч таксама бачыць і паказвае чытачу асобу, якая здзяйсняе вялікі чын асветніцтва. Гэта Пётр і Ян Кміты з Любчы, Антоній Тызенгаўз і Жан Жылібер з Гародні.

Пра імкненне даследчыка не абмінуць ні аднае з'явы культуры гаворыць, да прыкладу, такі факт. Між гарадзенскіх выданняў канца XIX ст. гістарычнага, краязнаўчага, этнаграфічнага плану аўтарства Я. Арлоўскага, І. Раманоўскага, М. Доўнар-Запольскага і інш. сустракаем не толькі даволі вядомую кнігу «Перажыткі старажытнага светаўспрымання ў беларусаў» А. Багдановіча, але і забытую «Пра паншчыну», выдадзеную на год раней (1894).

Прасочвае навукоўца, як змянялася мова друкаў. Калі раней гэта была старабеларуская, пазней польская, то да канца XIX ст. у большасці руская. Пранесліся над Краем «лятучыя лісткі» «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага, на якія даследчык звяртае асаблівую ўвагу.

А ўжо ў гады Адраджэння пачатку XX ст. беларускае слова хоць яшчэ і было на паўлегальным становішчы, усё ж разнеслася тысячным накладам выдадзеных у Лондане брашураў. А там паўстала і «Наша Ніва», якая на Гарадзеншчыне была добра вядомая.

Зразумела, што не праміну́ў аўтар альманах «Колас беларускае нівы», выдадзены сябрамі Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, які названы неардынарным выданнем.

Была ў гісторыі беларускага друку і гарадзенская вясна. Гэта 1919 год, калі выходзіў цэлы шэраг цікавых выданняў: газеты «Беларусь, «Родны край», «Бацькаўшчына», «Беларускі народ» і інш.

Апошні артыкул у раздзеле — «Па вайне», дзе разгледжаны друкаваныя выданні да нашага часу. Бракуе, як на мой погляд, паведамлення прычынаў, чаму так мільгаюць гэтыя назвы, што прымушала перыёдыкі сыходзіць са сцэны інфармацыйнага жыцця. Зразумела, што пра многае напісаць і немагчыма, і непатрэбна. Але хоць бы пра тыя выданні, што адыгралі асаблівую ролю ў нацыянальна-асветным накірунку. Такою была газета «Пагоня», якую Аляксей Пяткевіч ацэньвае вельмі высока. І яе паўстанне, і яе руйнаванне адбывалася на вачах шаноўнага аўтара. Мяркую, тое было б цікава і для моладзі, для якое гэта ўжо гісторыя, і для іншых, бо мала хто пра тыя падзеі памятае.

Раздзел «Літаратурна-мастацкае слова» — пра літаратурны працэс на Гарадзеншчыне ад філаматаў да дня сённяшняга. І тых, хто ўзгадаваны ў нашым Краі, і тых, хто трапіў сюды з розных прычынаў. Мноства імёнаў, мноства твораў. Так, у заключным артыкуле з лаканічнаю назваю «Сучаснікі» згаданы больш за 160 імёнаў. Укласці іх у 28-старонкавы тэкст параўнальна невялікага выдання вельмі няпроста. Аўтар выкарыстоўвае трапныя, лаканічныя, выказаныя літаральна адной фразай, а то і некалькімі словамі характарыстыкі, якія дакладна высвечваюць галоўную адметнасць літаратурнага таленту. Называецца самае значнае. Толькі ў адным выпадку дазволю не пагадзіцца: лепш было б згадаць не тэмы сучаснага палітычнага жыцця публіцыста Зянона Пазняка, а паэму «Вялікае княства» і кнігу лірыкі «Глёрыя Патрыя» паэта Зянона.

Вельмі істотную заўвагу, засяроргу робіць дасведчаны літаратуразнаўца напрыканцы размовы пра сучасны стан літаратуры, калі з'яўляецца «немалая колькасць кніжак аматарскага ўзоўню... Выпусціўшы такі твор ці зборнік, аўтар наіўна, а то і самаўпэўнена лічыць сябе пісьменнікам. Масавы, эстэтычна не падрыхтаваны чытач таксама ўспрымае такую прадукцыю як эталон мастацкай творчасці. Такім чынам размываецца сама катэгорыя мастацкасці, і самадзейная літаратура наносіць шкоду чытачу».

У раздзеле «Выявы духу» размова ідзе пра яркія постаці Гарадзеншчыны: Яўхіма Карскага, Элізу Ажэшку, Макара Краўцова і інш. І гэта зразумела і неаспрэчна. А вось артыкул «Універсітэт імя Янкі Купалы як асяродак навучання і выхавання пісьменніцкіх асоб» выклікае сёння неадназначнае ўражанне. Цалкам справядлівыя словы пра тое, што «таленты заўсёды прыходзілі ў жыццё, каб супрацьдзейнічаць грамадскай рэальнасці свайго часу з мэтай яе аздараўлення, удасканалення». Ці можна сёння назваць хоць адну асобу з нашае вну, якая была б здольная «супрацьдзейнічаць»? Пытанне рытарычнае. Амаль усё тут у мінулым часе. Балюча сёння бачыць спіс тых чатырнаццаці навукоўцаў-філолагаў, якіх аўтар называе «выдатныя ў дыдактычным і навуковым сэнсе спецыялісты, якія сапраўды могуць уздзейнічаць на фармаванне пісьменніцкіх асоб». Балюча, бо з чатырнаццаці сем ужо не працуюць. Засталася палова, і не толькі таму, што іх не стала. А не прыйшоў ніхто, хто мог бы гэтыя прагалы запоўніць. Ды і тое, як ушанавалі ў ГрДУ круглую дату прафесара, які ўсё жыццё аддаў гэтай навучальнай установе, гаворыць пра многае...

Завяршае кнігу аўтабіяграфічны нарыс «Сваё», які падзагалоўкам мае «З родным словам», бо са словам беларускім Аляксей Пяткевіч усё жыццё ідзе па зямлі.

Гэтая мастацкая біяграфія чытаецца як цікавы твор непрыдуманае літаратуры. Зачын гучыць як лірычны маналог чалавека, чыё сэрца напоўнена глыбокай любоўю да месца нарадзінаў: «Кожны раз, калі кірую́ся да роднага парога, калі машына, ідучы са Стоўбцаў, перавальвае цераз чыгуначны пераезд каля Нёмана і вачам адкрываецца шырокая панарама майго мястэчка Новы Свержань, зведваю раптоўны прыліў радаснай узбуджанасці, да якой, аднак, прымешваецца пачуццё гаркоты і жалю — нібы шкадаванне сябе: як жа даўно ты не быў тут, як ты так мог?»

Пісьменнік расказвае пра тое, як трапіў у Гародню, на працу ў педінстытут. Гісторыя даўняя, вядомая. Але гэтым разам мяне асабліва збянтэжыла ягонае «молада-зелена!» Нотка шкадавання прамільгнула ў тым выгуку. Быццам захацеў наш шаноўны Аляксей Міхайлавіч вярнуць страчаную ў маладосці магчымасць застацца ў Мінску ў Інстытуце літаратуры. Цяжка такое ўявіць, бо вельмі многа страціла б літаратурная Гародня ў такім выпадку.

Замілаванасць да мясцінаў маленства, любоў да родных людзей выказаны стрымана, што характэрна стылю пісьменніка. Вылучае аўтар постаць бацькі Міхаіла Антонавіча, які зрабіў асаблівы ўплыў на фармаванне ягонае асобы. Звычайны службоўца на чыгунцы, меў ён абвостранае пачуццё справядлівасці, праз што неадночы ўзнікалі праблемы на працы. Быў чалавекам неардынарным, шанаваў кнігу, меў матэматычныя здольнасці, добры голас, іграў на аматарскай сцэне.

Пісьменнік азіраецца на пройдзенае, якое ўспрымае па-філасофску. Не наракае, не шкадуе: «Так склаўся лёс. Благі ці шчасны, гэта ўжо не мне ацэньваць. Але мой уласны. І роднае беларускае слова ў ім заўсёды было са мной».

Як тыя далёкія ў часе асветнікі нашае зямлі, так і Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч на гонар і хвалу Прынёманскаму Краю, з якім зжыўся, аддае сваю працу.

**Ала Петрушкевіч**



Падчас прэзентацыі кнігі

# AdМетная котка



Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

***

*Бяспеку,*
*што завецца пыласмокам,*
*Адсочвай пільна —*
*вухам,*
*вусам,*
*вокам.*
*Рутунак ад яе ці не адзіны —*
*Караскацца на штору*
*ці гардзіну.*

*Сабака —*
*твой спрадвечны,*
*злосны вораг.*
*Успыхвае нянавісць, быццам порах,*
*Як суне нос нахабны ў тваю місу —*
*Збягай...*
*або яму падрапай пысу!*

*Зусім бяда —*
*дзіцёнак чалавечы,*
*Хавайся нават у эСВэчцы-печы:*
*То тузане за хвост,*
*то ў абдыманцах*
*Зацісне так,*
*што выжыць мала шанцаў!*

***

*І не каштуйце —*
*Смак дратоў агідны!*
*Пачвара,*
*Што завуць электратокам,*
*Не лечыць ад кашэчае ангіны*
*І можа стацца непрыемным шокам.*

*Патрэбна хітрым быць*
*І асцярожным:*
*Калі схавацца за сістэмным блокам,*
*Дык вырубіць кампутар лёгка можна*
*Ударам лапы...*
*нібыта няўрокам.*

***

*Не любім пакідаць стары і звыклы*
*Свой дом і свой участак паляўнічы,*
*Дзе ў кожны кут і закуток пранціклі,*
*Дзе ўсё здаецца мілым, маляўнічым.*

*Рэформам, пераменам мы не верым,*
*Хвастамі галасуем за стабільнасць...*
*Ды звозяць нас на новыя кватэры*
*«На шчасце» тэпаць па падлозе пыльнай.*

***

*Галоўны твой супернік —*
*Ёлка на Каляды,*
*Бо ёю захапляюцца,*
*Ёй надзвычай рады.*
*Дык проста неабходна*
*Яе атакаваць*
*І тыдня не павінна*
*Красуня прастаяць!*

***

*Чалавек без прачуханкаў*
*Корм даваць павінен*
*зранку,*
*Свежанькай вады ўліваць, —*
*Толькі потым душ прымаць,*
*Каву ў джэзве гатаваць*
*І развітацца пры ганку.*

***

*«Корм сухі пажыўны ў поўнай меры...»? —*
*Этыкеткам не давайце веры!*
*Знайце,*
*што ў мышынай шкурцы шэрай*
*Больш патрэбнай нам*
*карыснай серы!*

***

*Так*
*Хораша кармушку і паілку*
*Знайсьці ў куце на кухні*
*без памылкі,*
*Ды селядцовы хвост*
*куды смачней,*
*Калі грызеш яго...*
*на мяккім дыване!*

***

*Як раптам возьме на ваніты,*
*На крэсла ці дыван скачы ты!*
*Пасля таго,*
*як званітуеш,*
*Палёгку з гонарам адчуеш.*

***

*Ты кацяня?*
*Гуляйся з цацкамі ад ранку!*
*Падыйдуць добра:*
*шарык тэнісны,*
*бразготка*
*Ці зайчык сонечны,*
*хвост брата, мамы-коткі.*
*Найлепей — корак ад бутэлькі...*
*з валер'янкай.*

***

*Ёсць многа добрых месцаў*
*для муркотных сноў —*
*Запамінайце,*
*каб не паўтараць ізноў:*
*На падваконні*
*(сонца хораша сагрэе),*
*Пад лямпаю*
*настольнай*
*І пад батарэяй,*
*У рукамыйніку*
*І на клавіятуры,*
*А за пляскатым*
*маніторам*
*Спаць культурна.*
*У прачыненай*
*шуфлядзе,*
*Што ў сталe пісьмовым,*
*Найлепш на важных*
*дакументах,*
*Безумоўна.*
*Спаннё салодкае*
*Не падлягае штрафу*
*Ў старой кардоннай скрыні,*
*На паліцы ў шафе,*
*У гаспадарчай сумцы,*
*На праходзе ў залу*
*(Скачыце на лядоўню*
*У выпадку скандалу!).*
*Уладкавацца*
*Не патрэбна шмат прычынаў*
*У цэнтрыфузе*
*Новай пральнае машыны,*
*А з раніцы*
*Залегчы хораша яшчэ*
*І падрамаць*
*У белай печцы-СВЧ.*

***P.S.*** *Пацьвердзіць гэта*
*крытык Ціхан Чэ))*



**Малюнак Алены Карповіч**

# Прыпаўзкам



Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ

## Дачушка

***Васіліне***

*Кожная хваля цяпер*
*удвая карацейшая,*
*і месяца ў кватэры*
*быццам паменела,*
*але ж на прастору і час*
*сталі мы багацейшымі,*
*бо ты з намі,*
*дачушка.*

## Калыханка

*Ручку пад вушка,*
*Вочкі заплюшчы,*
*І пакрысе засынай,*
*Любая дачушка,*
*Лапатушка, шчабятушка,*
*Баю-бай.*

*На калысцы-чоўне*
*Міма зор і поўні*
*Мы плывем за небакрай.*
*Хмары як падушкі,*
*Цёплых сноў, дачушка,*
*Баю-бай!*

##Ківач

*У правы бок, у левы бок —*
*Туды ківок, сюды ківок.*
*За крокам крок, за крокам крок —*
*Усё жыццё хаджу без ног,*
*І з месца не сыйсці, хоць плач,*
*Бо я не чалавек — ківач.*

## З дожджыкам дружныя

*За вакном імга і слота,*
*На павекі цісне сон,*
*Але ж мы абуем боты,*
*Возьмем жоўты парасон,*
*І па лужах, відавочна,*
*Мы з прыскокам пабяжым —*
*Паплюскочам, патапочам,*
*Пагарэзім, пакрычым.*

## Ратуйця!

*Пшыць-пшыць-пшыць-*
*пшыць-пшыць-пшыць-пшыць —*
*чайнік чмыхкае, шыпіць:*
*— Адлучайце газ хутчэй,*
*Полымя жывот пячэ.*

## Прыпаўзкам

*Навокал усё так бясконца займальна,*
*Калі вывучаць гэта гарызантальна —*
*Кардонныя скрыні, і шторы, і пуфы,*
*І бацькаў пляцак, і матуліны туфлі,*
*Драты сецявыя, шуфляды і крэслы —*
*Паўсюдна я маю свае інтарэсы,*
*Бо ў свеце яшчэ столькі*
*рэчаў займальных,*
*Калі паглядзець на іх гарызантальна.*

## Гарэза

*Цык-цык-цык*
*Цык-цык-цык —*
*Неўгамонны мой язык,*
*Яму мала месца ў роце —*
*Лезе аж на падбароддзе!*

*А з чаго бяда такая? —*
*Бо зубоў пакуль не маю.*
*А вось зубікі палезуць —*
*Супакоіцца гарэза!*

## Мячык

*Цмыг ды цмыг, і скок-паскок —*
*Долу і ўгару, і ўбок*
*Гоцкае свавольнік-мячык,*
*Не капрызіць і не плача,*
*А шпарчэй наперад скача.*
*Нават і на паўхвіліны*
*Ён не ведае супыну.*
*Мячык, мячык, пачакай!*
*Навучы мяне скакаць.*

## Пыласос

*Я не сівер, не буран,*
*Не віхура, не ўраган.*
*Хоць часамі я і выю, —*
*Не жахайцеся, малыя;*
*Не вішчыце, не пішчыце*
*І ратунку не крычыце*
*Вы не жартам, не ўсур'ёз,*
*Я — звычайны пыласос!*

## Вугрыніяда

*З Нарочча ў Саргасава мора*
*Вугры кіраваліся спора,*
*Ды толькі на горкае гора*
*Дамоў не вярнуліся з мора.*
*Мяркую, вар'яцкі акрутны*
*Прыбраў іх Бермудскі трохкутнік,*
*Праз некалькі год вуграняты*
*Прыплылі нарэшце дахаты.*
*І ў Нарачы гэтых вугроў*
*Цяпер будзь здароў!*

## Калыханка (яшчэ адна)

*Баю-баю-баю-бай —*
*Сон, малюська, сустракай.*
*Прыйдзе ён прыгожы, моцны*
*І пагладзіць па галоўцы.*
*Не гараць ужо агні,*
*Спяць усе, і ты засні.*
*Спяць бацькі і мышка ў клетцы,*
*Кніжачкі ў бібліятэцы,*
*І, атуленыя сном,*
*Дрэмлюць дрэўцы пад вакном.*
*Котак, мятлікаў і птушак*
*Ветрык лёгенькі загушкаў,*
*А малятам аж да ранку*
*Ён спявае калыханку:*
*«Баю-баю-баю-бай,*
*Маё шчасце, засынай...»*

# У віры быцця*

Ніл ГІЛЕВІЧ


Фота www.bymedia.net

### Усім, у каго ёсць сумленне...

«Для навукі беларуская мова не гадзіцца!» — фанабэрыста заяўляюць (у друку!) моцна вучоныя акадэмікі.

А для чаго гадзіцца? Гадзіцца — каб рабіць хлеб, гадаваць жывёлу, ну яшчэ — каб каваць жалеза ці абпілоўваць бярвенне... Якую ж трэба мець любоў да Беларусі, каб так зняважаць яе мову! З такой любоўю самы раз выводзіць нашу краіну з беднасці, уздымаць яе да вяршынь дабрабыту.

У часы Скарыны і Буднага, — гадзілася, а сёння ўжо — не!..

І што ж гэта за няшчасная доля наша, што за пракляцце на нас звалілася? Генералы ад навукі і мастацтва імгненна забываюць, хто яны, трацяць паважнасць і набываюць халуйскую міну, і пляскаюць у ладкі, глытаючы чарговую порцыю папуліцкай дэмагогіі.

Яны вераць, што можна пабудаваць беларускую дзяржаву без нацыянальнай беларускай ідэі і без беларускай мовы. Марная задума! Гэта тое самае, калі нехта бярэцца зварыць піва без дражджэй. Але ж такога цуда людзі не бачылі. Не зварыць! Зварыць гідкае пойла, а не піва.

Што датычыцць нашай мовы... Усім, у каго ёсць сумленне, раю запомніць адзін «дробязны» факт. Калі гарэлі беларускія вёскі з жывымі людзьмі — з агню-полымя даляталі жудасныя (больш жудкіх не бывае) крыкі: «Ратуйце!» Не «спасите!», а «ратуйце!» Калі вам і гэта нічога не гаворыць — то на высокім маральным узроўні трымаецеся, панове-таварышы!

**1993**

### З думак пра Купалу

Не перачытваючы — усенародна — Купалу, мы да беларускай Беларусі не дойдзем. Да сапраўды суверэннай, свабоднай, дэмакратычнай.

*Не магу маску ўздзець,*
*Крывіць роднай душой,*
*Песні весела пець,*
*Калі смуцен брат мой.*

Душа — родная. Каму? Мужыкам.

Яго муза ўдыхнула гарачага паветра рэвалюцыйных бітваў Першай рэвалюцыі ў Расіі (1905–1907).

Сіла пераканаўчасці купалаўскага радка. Паэт гаварыў так, што яму верылі. Бо — да мужыцкага народа гаварыў сам мужык, падрабляцца (апускацца) не было патрэбы.

Трэба ж было адчуць, што прыйшоў гістарычны час для Беларусі, для беларускага народа — і ён адчуў! І стаў вешчуном, павадыром, сцяганосцам. Мала ў сусветнай паэзіі геніяў, якія ў такой ступені былі ідэолагамі нацыянальнага адраджэння.

У яго была найвышэйшая ступень усведамлення абавязку паэта-грамадзяніна. Ніхто ні да яго, ні пасля яго да такога ўсведамлення не падымаўся. Адзіная і ўсёабдымная жарсць, ідэя, апантанасць. Усё, да апошняга радка, было падпарадкавана гэтаму — яго беларускаму болю.

**1997**

### Высакароднасць

Часопіс «Нёман» апублікаваў вельмі цікавы дакумент — «Тлумачальную запіску» У. С. Караткевіча, зробленую ім па патрабаванню КДБ БССР. Патрабаванне ўзнікла па нейчаму даносу, што ў Караткевіча на кватэры збіраюцца і пра штосьці гавораць навукоўцы і літаратары, якія знаходзяцца на падазрэнні ў КДБ. Па кожнай з гэтых асоб Караткевіч і дае сваё тлумачэнне — сваю маральную і грамадска-палітычную ацэнку. Пра каго — зусім лапідарную (Г. Тумас, А. Ліс), пра каго — больш разгорнутую (М. Прашковіч, Л. Геніюш, М. Чарняўскі, С. Міско, В. Лапуць). Пра кожнага з пералічаных Уладзімір Сямёнавіч гаворыць з вялікай павагай, падкрэсліваючы іх выдатныя чалавечыя і грамадзянскія якасці, іх навуковы або пісьменніцкі аўтарытэт. І завяршае свае паказанні агульнай ацэнкай і дзейнасці «падазроных», і ўсёй грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі, — завяршае не гнучыся, не ўгодліва, не з дрыжыкамі ў каленьках, а шчыра і мужна, з высокай чалавечай і пісьменніцкай годнасцю. Вось некалькі радкоў з ягонага «падагульнення»:

«...За своих знакомых я ручаюсь в том, что они люди порядочные, что они любят свою Родину и, в случае чего, не подведут... А то, что некоторые факты... скажем, отношение к белорусскому языку в школе, к тому, что некоторые принижают роль белорусов в войне, к тому, что Минск не имеет национального лица — что эти факты вызывали наше законное, может быть, излишне резкое возмущение, то, я думаю, это было не только наше право, но и наша обязанность».

Вось так: «не толькі наша права, але і наш абавязак». І можаце сабе судзіць мяне, калі мая праўда вам не падабаецца.

**1993**

### А пра галоўнае...

Даючы згоду на ўтварэнне БССР, бальшавікі думалі пра сваё. Па-першае, пра тое, што Антанта будзе мець справу з суверэннай савецкай рэспублікай, а не з Расіяй. Па-другое, БССР будзе калідорам для сусветнай рэвалюцыі на Захад. А пра галоўнае — пра правы беларускага народа, пра яго нацыянальнае адраджэнне яны не думалі. Пра гэта думалі «нацыяналісты», ворагі Кастрычніка, ворагі бальшавікоў, якіх (бальшавікоў) трэсла і калаціла ад ідэі незалежнай БНР.

**1990**

### О, нашы «Патрыёты»!..

26 студзеня 1990 года — дзень гістарычны. Вярхоўны Савет Беларусі прыняў «Закон аб мовах». Адна дэталь да таго, як ён прымаўся. Дэпутатаў у зале было — 368. Прагаласавалі «за» — 332, «супроць» — 27, «устрымаліся» — 9. Але! Самыя заўзятыя «патрыёты» дабіліся перагаласоўкі артыкула «Мова навучання». І ў выніку: за прапанову пакінуць, захаваць, як ёсць, як прагаласавалі за Закон у цэлым, цяпер выказаліся «за» толькі 185 дэпутатаў. Усяго 185! З 332, што да перапынку прагаласавалі за Закон у цэлым. Вось які страшны артыкул «Мова навучання»! Разумеюць «патрыёты»: беларускую школу трэба ліквідаваць, школу!..

**1990**

### Мова перш за ўсё, мова!..

Гады два назад мяне папракнулі (у друку), што я недаацэньваю значэнне Герба і Сцяга. Гэта не зусім так. Проста я быў упэўнены, што сёння для нас важней за ўсё — Мова, на першым плане павінна быць Мова! Будзе Мова — будзе нацыянальная свядомасць і будзе Беларусь. Не будзе Мовы — не будзе Беларусі. Вось чаму пісаў: «Ну будзе Герб, будзе Сцяг, а Мовы не будзе — і што? У 1920-я гады і без Герба і Сцяга ваўсю ішла беларусізацыя». Значыць, галоўнае — Мова. На гэтым этапе — Мова! Нацыянальна свядомы народ падыме і Сцяг і Герб.

**1991, верасень**

***

Які б ты ні быў пісьменнік — ты ёсць, пішаш, выдаеш кнігі толькі таму, што ёсць Мова. І ты радуешся, што цябе большменш — але ўсё ж чытаюць, значыць — ведаюць, прызнаюць, цэняць... Гэтай радасці ты б не меў, калі б не Мова. Мова цябе зрабіла пісьменнікам, Мова!

Дык чаму ж ты маўчыш, бачачы, што робяць з мовай запраданцы? Чаму ты не змагаешся за Мову? За рэжым, які быў бы на абароне роднай мовы, які ведаў бы, што такое Мова ў жыцці нацыі.

**2000**

***

Лозунг кіраўнікоў дзяржавы Рэспубліка Беларусь:

«Наперад! Да вяршынь! Да росквіту! Перамагаючы і топчучы галоўную перашкоду на нашым шляху — беларускую мову!»

**2001**

***

У кожнай цывілізаванай краіне Нацыянальная Акадэмія Навук задае тон развіццю культуры, вядзе рэй, увогуле вызначае галоўную тэндэнцыю прагрэсіўнага поступу нацыі на шляху самасцвярджэння ў свеце. Які ж тон задае Нацыянальная Акадэмія Навук РБ? Якую тэндэнцыю вызначае? Тэндэнцыю — ператварыць беларускую Акадэмію ў дадатак да РАН? Тэндэнцыю — абезабліччыць, каб нацыянальным толькі фігавы лісток застаўся? Як і ў цэлым у культуры Беларусі?

**2002**

### І мацней паверыць...

За сябе кожны народ можа змагацца толькі на сваёй мове (кажу пра народ, а не пра аднаго героя). І весці народ на барацьбу за вызваленне, за свабоду, за сацыяльную справядлівасць можна толькі на мове гэтага народа. На роднай мове народ лепш зразумее праваДыра, на сваё роднае слова лепш адгукнецца і мацней паверыць... Так было ўсюды: балгары ішлі на вызваленчую барацьбу за родным словам Хрысты Боцева, у Венгрыі — за родным словам Шандара Пецёфі, у Польшчы — за родным словам Тадэвуша Касцюшкі... Інакш не здабудзем незалежнасць і свабоду і мы, беларусы...

**2000**

***

За апошнія 15 гадоў я прачытаў у расійскім друку мноства публікацый пра нацыянальнае адраджэнне Балгарыі (другая палавіна XIX ст.). Вядома ж, у рэчышчы ідэі славянскага брацтва. А пра нацыянальнае адраджэнне Беларусі (канец XX ст.) не прачытаў нічога. Няма! Каб хоць адна брашурка! Каб хоць адзін артыкул! Хаб хоць адна нататка! Каб хоць адзін абзац! Каб хоць два-тры слоўцы ў падтрымку! Маўляў — вітаем! Зычым поспехаў! Жыві і адраджайся, Беларусь, краіна братоў нашых!

Можа, прачытаю ў наступныя 15 гадоў?..

**2006**

***

Супроць чаго нам, беларусам, трэба змагацца? Супроць шкоднай, злачыннай палітыкі дыфузіі насельніцтва. Калі так будзе ісці працэс далей — мы, беларусы, як нацыя загінем, мы сыдзем паступова на нішто. Спачатку нас стане ў сваёй краіне 60%, затым — 50, затым — 40, а 60% ужо будуць перасяленцы (рускія, азербайджанцы, таджыкі і г.д.). Пры слабым нацыянальным імунітэце — гэта страшна. А затым скажуць: ды вас тут ніколі і не было!

**2010**

### Мая прапанова

Незалежныя СМІ краіны абнарадавалі зварот аргкамітэта па скліканні Усебеларускага кангрэса за незалежнасць. Выдатная ініцыятыва! Але... Але чытаю ў звароце радкі пра самае істотнае:

«Таму мы прапануем склікаць Усебеларускі кангрэс за незалежнасць, каб абмеркаваць сітуацыю і прыняць усе захады для таго, каб адстаяць Беларусь.

Мы лічым неабходным абмеркаваць такія надзённыя пытанні, на якіх грунтуецца наша незалежнасць, як прыватная ўласнасць на зямлю і іншую дзяржаўную маёмасць, энергетычная бяспека краіны, праблемы правоў чалавека, адукацыі і медыцыны, роля СМІ (як айчынных, так і замежных) у грамадстве, знешняя і ўнутраная палітыка нашай краіны.

Мы чакаем ад Вас канкрэтныя прапановы па правядзенні Кангрэса, яго тэматыцы...»

І так, «надзённыя пытанні, на якіх грунтуецца наша незалежнасць». Усе пералічаныя пытанні, бясспрэчна, вельмі важныя. Аднак самае значнае, самае галоўнае пытанне — не названа, у пераліку няма. У соты раз, выбачайце, мушу заявіць і падкрэсліць: наперадзе ўсіх самых надзённых праблем у нас павінна стаяць праблема выратавання нашай роднай беларускай мовы. Калі мы беларусы і хочам «адстаяць Беларусь». Беларусь без беларускай мовы — не Беларусь. Няўжо хто з беларусаў гэтага не разумее? Каму з верных сыноў і дачок нашай роднай зямлі патрэбна небеларуская Беларусь? Мне — не патрэбна.

**2014, кастрычнік**

* Старонкі з апошняй прыжыццёвай кнігі эсэістыкі апошняга Народнага паэта Беларусі

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Ці можна смяяцца з Эрдагана?

Алег НОВІКАЎ




**Жарт нямецкага сатырыка на адрас турэцкага прэзідэнта на вачах перарастае ў скандал еўрапейскага маштабу.**

У гісторыі нямецкай журналістыкі хапала выпадкаў, калі палітык (у тым ліку замежны) абураўся, пабачыўшы ў сатырычнай прэсе матэрыял пра сябе. Дастаткова ўзгадаць скандал 2006 года, калі леваліберальная «Tageszeitung» назвала братоў Качыньскіх, партыя якіх «Права і Справядлівасць» прыйшла да ўлады ў Польшчы, «новым гатункам польскай бульбы». Польскі прэм'ер Яраслаў Качыньскі жарт не зразумеў, палічыў выхадку «злачынствам». Гучная перапалка паміж рэдакцыяй і канцылярыяй польскага ўраду, аднак, ніякіх наступстваў не мела.

Прыкладна гэтак жа было і ў іншых выпадках. Напэўна, самым вялікім пакараннем для сатырычнага выдання ў ФРГ, якое падазравалі ў замаху на гонар і годнасць палітычнага дзеяча, была канфіскацыя накладу. А часопіс «Titanic» нават паставіў у гэтым рэкорд — яго наклад арыштоўвалі 35 разоў.

Аднак цяпер у стаўленні нямецкай Феміды і ўлады да сатыры шмат што змянілася. Ангела Меркель не выключыла, што супраць Яна Бёмермана, вядучага сатырычнага шоу «Neo Magazin Royale», якое выходзіць на лічбавым тэлеканале «ZDFneo», можа быць распачата крымінальная справа. Заяве канцлера папярэднічаў напэўна ўжо вядомы чытачам скандал, які пачаўся яшчэ 31 сакавіка, калі вядучы шоу высмеяў турэцкага прэзідэнта.

У адказ турэцкае міністэрства замежных спраў выклікала нямецкага пасла і запатрабавала пакарання для журналіста «ZDFneo». Яшчэ далей пайшоў намеснік турэцкага прэм'ера, які ахарактарызаваў творчасць Бёмермана як «цяжкае злачынства супраць гуманізму». Такі тон, у сваю чаргу, абурыў нямецкіх палітыкаў, якія пабачылі ў гэтым спробу ціску на свабоду слова ў Германіі.

Гісторыя развіваецца на фоне здзелкі, якую Еўропа рыхтуе з Турцыяй. Апошняя за адпаведныя бонусы (крэдыты і адмену візаў) гатовая паставіць фільтр на шляху сірыйскіх эмігрантаў у Еўропу. Фліртм Еўрасаюза з Анкарой выклікаў пратэсты некаторых фракцый еўрапейскай грамадскасці, якія лічаць, што дамова будзе азначаць выдачу Эрдагану індульгенцыі на аўтарытарны ўнутрыпалітычны курс. Акрамя таго, Анкара можа атрымаць інструмент для шантажу Еўропы.

Тое, што Меркель так хутка пайшла насустрач Эрдагану ў пытанні пакарання журналіста, шматлікія каментатары тлумачаць новым фарматам еўрапейска-турэцкіх адносінаў. Газета «Die Welt» нават пафасна назвала словы Меркель актам Kniefall (кленчанне), якое другі раз у гісторыі робіць нямецкі лідар. Першым Kniefall зрабіў, як вядома, імператар Генрых Чацвёрты, які ў 1077 годзе ўпаў на калені перад Рымскім Папам, каб атрымаць прабачэнне. Сёння, маўляў, на каленях стаіць Меркель, праўда, не перад Пантыфікам, а перад туркам.



Нездарма ў якасці іранічнага каментара да справы Бёмермана брытанскі «The Spectator» заклікаў аўдыторыю не пакідаць у каментарах на сайце выдання абразлівых выразаў наконт турэцкага лідара. Маўляў, дзякуючы дамове з ЕС цяпер Эрдаган можа пакараць любога грамадзяніна Еўропы.

Аднак у гэтай справе з'явіўся новы паварот. Шматлікія немцы, якія вырашылі азнаёміцца з прадметам спрэчкі, нечакана занялі бок Турцыі. На іх думку, Бёмерман у сваёй творчасці перайшоў мяжу, якая падзяляе мастацтва (нават у самым бескампрамісным выглядзе) і звычайную пахабшчыну. У змесце песенькі, якая так абразіла турэцкага лідара, сапраўды няма дэфіцыту ў супярэчлівых высноваў. Напрыклад, Эрдагану прыпісваюцца секс з жывёламі, захапленне парнаграфіяй, у тым ліку дзіцячай. Таму некаторыя калегі па сатырычнаму і журналісцкаму цэху вырашылі ў выніку адвярнуцца ад Бёмермана.

Праўда, ёсць у вядучага «Neo Magazin Royale» і абаронцы. На іх думку, толькі жанр правакацый дазваляе абудзіць грамадства, прыцягнуць інтарэс да праблемы. У дадзеным выпадку дзякуючы творчасці Бёмермана ўвесь свет пачаў казаць пра аўтарытарную прыроду рэжыму Эрдагана. Існаванне табу, маўляў, наадварот, толькі кастрыруе сатыру.

Пакуль публіка спрачаецца, сам сатырык, па сутнасці, знаходзіцца пад хатнім арыштам — яму забаронена выходзіць з яго дому ў Кёльне, кантактаваць са знешнім светам праз пагрозу яго бяспецы і, натуральна, весці сваю праграму. Дом, дзе жыве Ян, ахоўваецца паліцыяй.

У прынцыпе, большасць каментатараў дапускаюць наступны сцэнар развязкі гісторыі: супраць Бёмермана сапраўды завядуць справу па артыкуле, які прадугледжвае турэмны тэрмін. Аднак у выніку рознага кшталту змякчальных абставін суд абмяжуецца банальным штрафам. Пасля гэтага ўсё вернецца на свае месцы.

Але і тут ёсць адно «аднак». Каб рэалізаваць такі няхітры план, спатрэбіцца публічныя судовыя працэдуры, падчас якіх можа адбыцца ўсё, што заўгодна. Эрдаган сапраўды ўспрымаецца шматлікімі туркамі як глабальная, амаль сакральная фігура, на якой трымаецца ўся краіна. Не кажучы пры тое, што турэцкі афіцыёз трактуе верш Бёмермана як абразу не персанальна кіраўніка Турцыі, а ўсіх туркаў. Сярод якіх, натуральна, можа з'явіцца жадаючы адпомсціць сатырыку за гонар нацыі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

На пачатку магчымай гібрыднай вайны Расіі давядзецца досыць хутка ўводзіць істотную групоўку на тэрыторыю Беларусі. Проста так гэта зрабіць праблематычна. Дый знайсці неабходныя рэзервы, пакуль не скончаны канфлікт ва Украіне, таксама. Менавіта таму Масква так настойліва прасоўвала тэму стварэння сваёй базы на тэрыторыі «саюзніка». Гэта дазволіла б дзейнічаць больш актыўна, з вялікім геаграфічным ахопам і вялікімі сіламі ўжо на пачатковым этапе. Менавіта таму Лукашэнка ўсяляк пярэчыць падобным ініцыятывам. Самалёты — калі ласка. Але пад аховай беларускіх салдат. І па пары штук на розных аэрадромах. Такі фармат Маскву не вельмі задавальняе.

**«Хвиля» (Украіна)**

Беларусь пайшла па іншым шляху. Як выказаўся калісьці Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, беларусы — гэта тыя ж рускія, але са знакам якасці. І ён, вядома ж, меў на ўвазе не нейкія расавыя меркаванні, а тое, што пад яго кіраўніцтвам у Беларусі ўдалося стварыць больш эфектыўную, чым у Расіі, сістэму кіравання. Іншая справа, што гэтую сістэму немагчыма тыражаваць на ўсю Расію, таму што Беларуссю кіраваць, без сумневаў, прасцей. Ва Украіне такую сістэму пабудаваць не здолелі, і тэхнічна не атрымалася б, паколькі Украіна значна больш разнастайная за Беларусь.

**«Реактор» (Расія)**

Для Захаду стала вялікім сюрпрызам разыгрыванне нацыяналістычнай карты Беларусі кіраўніком дзяржавы. Таму ў далейшым заходнія партнёры плануюць прыглядзецца да верагоднага новага саюзніка і вывучыць магчымасці адрыву краіны ад Расіі. Лукашэнка не будзе тым палітычным лідарам, на якога станучь рабіць стаўкі. Выбар прыпадзе на больш беспрынцыпных калег з яго атачэння. Калі параўноўваць Беларусь і Украіну, то пазіцыі першай адносна інтэграцыі ў Еўропу больш выгадныя. Кампактныя памеры краіны і яе гатоўнасць стаць пастаўшчыком сыравіны (каля 35% экспарту ўжо скіравана ў Еўропу) могуць у выніку зрабіць бязвізавы рэжым і больш танныя прадукты з ЕС рэальнасцю для беларусаў без усялякага Майдана.

**«Kiev Post» (Украіна)**

Калі казаць пра агульны аб'ём датавання Расіяй беларускай — шмат у чым па-ранейшаму па-савецку пабудаванай — эканомікі, то толькі па вуглевадародах да пачатку гэтага крызісу аб'ём датацый складаў 3–4 мільярды долараў у год за кошт цэнавага дысконту. Плюс цалкам адкрыты расійскі рынак для беларускіх тавараў, у тым ліку сельскагаспадарчых, плюс адзіны сацыяльны пакет для грамадзян Беларусі ў Расіі, уключаючы прыкладна 600 тысяч гастарбайтэраў. Усяго, па розных артыкулах, у год набягала да 8–9 мільярдаў долараў. За 15 апошніх гадоў агульны аб'ём датацый Расіі Беларусі па розных каналах склаў ад 60 да 72 мільярдаў долараў. Сума толькі расійскіх крэдытаў, выдадзеных Мінску з канца 90-х гадоў, склала прыкладна 50 мільярдаў долараў. Тэрміны пагашэння па многіх з іх пастаянна адкладаліся. Так што Аляксандр Лукашэнка цалкам мае рацыю: такія адносіны могуць быць толькі паміж братамі. Нават калі адзін з іх трошкі гандлюе налева.

**«Bfm.ru» (Расія)**

З Беларуссю супрацоўніцтва па гэтай (чарнобыльскай) тэме вельмі ўскладненае, тамтэйшыя навукоўцы пакутуюць ад рэпрэсій рэжыму. Прэзідэнт Лукашэнка не выказвае цікавасці да выяўлення ісціны. У Лукашэнкі няма цікавасці высвятляць, што там у прадуктах.

**«Die Tageszeitung» (Германія)**

Украіна і тыя краіны, якія пасля 1991 года сталі незалежнымі, працягнуць шлях да ўмацавання сваёй незалежнасці. Расія ім перашкодзіць не здолее. Нічога не атрымаецца і з Беларуссю, таму што Лукашэнка ўжо пераарыентаваўся на Захад.

**«Экономические Известия» (Украіна)**




# Перамагчы

Пітар КРАХТ, ПІТСБУРГ

**У прэзідэнцкай гонцы ў ЗША склалася беспрэцэдэнтная сітуацыя. Сярод дэмакратаў і рэспубліканцаў уражваючы поспех атрымалі кандыдаты-аўтсайдары, якія раней не ўспрымаліся як сур'ёзныя канкурэнты, — Дональд Трамп і Берні Сандэрс.**

Нягледзячы на тое, што ўжо зразумела: Берні Сандэрс не будзе кандыдатам ад Дэмакратычнай партыі, тым не менш яго адносны поспех на гэтым флангу амерыканскай палітыкі больш варты ўвагі, чым непазбежнасць «машыны» Клінтан.

Мінула стагоддзе з таго моманту, як у ЗША ў прэзідэнцкай гонцы настолькі паспяхова ўдзельнічаў адкрыты сацыяліст. Гэтак жа, як з другога боку яшчэ ніколі не высоўваўся дэмагог-экстрэміст, які не мае нічога агульнага з ідэалогіяй кансерватызму.

Чаму такія змены адбываюцца ў абедзвюх галоўных партыях ЗША?

### Бліжэй да Еўропы

Амерыканская палітыка стала больш падобнай да еўрапейскай, нягледзячы на культурныя і гістарычныя адрозненні. Прычына таго — абодва кантыненты ўвайшлі ў новую, неспакойную фазу свайго сацыяльнага развіцця пасля больш чым паўстагоддзя стабільнасці, росквіту і бяспекі.

Моцныя макраэканамічныя трэнды, у асноўным спалучэнне дэіндустрыялізацыі і глабалізацыі, зруйнавалі жыцці мільёнаў людзей і прывялі да змен у сацыяльных структурах па ўсім свеце. Высокі ўзровень беспрацоўя і канцэнтрацыя багаццяў у вельмі вузкіх колах — дзве найбольш відавочныя праявы гэтых працэсаў. Па абодва бакі Атлантыкі гэта прывяло да паглыблення пачуцця сацыяльнага заняпаду і палітычнай разгубленасці для многіх простых людзей.

У дадатак ЗША і ЕС апынуліся пад ціскам знешніх выклікаў бяспецы з Усходу і Поўдня. У Еўропе яны прадстаўлены аўтарытарнай і рэваншысцкай Расіяй, а таксама хвалямі мусульманскіх бежанцаў. Для Амерыкі гэта ў асноўным эканамічны і вайсковы выклік з боку дынамічнага Кітая і трызненні пра вялізную колькасць нелегальных імігрантаў з Мексікі. Асаблівасць ЗША ў тым, што і Кітай, і мексіканскія імігранты абвінавачваюцца амерыканскім грамадствам у эканамічных праблемах краіны.

Усё гэта прывяло да парушэння сацыяльнага паразумення, якое было асновай даўніх палітычных механізмаў. Няздольнасць прадстаўнікоў традыцыйных партый улічыць ці хаця б зразумець сур'ёзнасць перманентных эканамічных праблем вылілася ў стагнацыю палітычнага класа і зніжэнне масавай падтрымкі насельніцтва. Гэта адкрыла магчымасці для з'яўлення нетрадыцыйных, нават экстрэмісцкіх, кандыдатаў — правых і левых, — якія зараз маюць большы водгук, чым нехта мог яшчэ нядаўна падумаць.

Вось чаму Сандэрс і Трамп непадобныя да іншых амерыканскіх палітыкаў, сучасных ці з нядаўняга мінулага.

### Сацыяліст і дэмагог

Сандэрс ганарліва называе сябе «дэмакратычным сацыялістам», што звычайна (і нават мэйнстрымна) для еўрапейскага палітычнага спектра. Аднак у ЗША, дзе такога не было з часоў сацыяліста Юджына Дэбса, гэта сапраўды шакуе.

**Чым бяднейшы і менш адукаваны чалавек, тым большая верагоднасць, што ён падтрымае Трампа. На гэта ён і зрабіў стаўку. У хамаватых выступах такія людзі бачаць кагосьці вельмі падобнага да іх, а ў яго пустым фінансавым поспеху — надзею для сябе і нават для краіны**

Трамп таксама вельмі падобны да некаторых еўрапейскіх палітыкаў значна больш, чым да амерыканскіх. Ён — прадстаўнік амерыканскай галіны еўрапейскага сямейнага дрэва, да якога належаць Берлусконі, Орбан, Ле Пэн і Эрдаган (цікава, што Трампа і турэцкага лідара збліжае таксама схільнасць выкарыстоўваць закон у абароне іх крохкага эга). Як і яго еўрапейскія стрыечныя браты, Трамп грае на страхах мільёнаў звычайных людзей для дасягнення сваіх палітычных мэтаў. Яго абяцанне «зрабіць Амерыку зноў вялікай» абуджае найгоршыя інстынкты краіны.

Як і ўсе дэмагогі-папулісты, Трамп прапануе простыя тлумачэнні («Кітай ашуквае ў гандлёвых здзелках») і спрошчаныя рашэнні («збудуем Сцяну») складаных праблем. Пагардліва стаўячыся да мусульман і мексіканцаў, ён прадстаўляе іх як жахлівую цемнаскурую пагрозу з пустынных земляў. Трамп выкарыстоўвае твітар як «гвіздак для сабакі» (бязгучны для звычайных людзей і горн для заўзятараў Трампа), пасылаючы закадаваныя экстрэмісцкія пасланні, каб здабыць палітычную энергію з ірацыянальнай нянавісці, уключна з расізмам. Тыповым прыкладам тут з'яўляецца заклік «вярнуць нашу краіну», што негалосна азначае: краіну трэба вярнуць, бо яе «скраў» чорны «мусульманскі» прэзідэнт, які нарадзіўся ў Кеніі.

Такім і рознымі іншымі спосабамі Трамп разумна выкарыстоўвае разгубленасць перад «сістэмай» бедных белых амерыканцаў і заахвочвае іх накіроўваць свой гнеў на чорных, мексіканцаў, іншаземцаў, палітыкаў, інтэлектуалаў і іншых «ворагаў» як крыніцу праблемаў краіны.

Па статыстыцы, чым больш бедны і менш адукаваны чалавек, тым большая верагоднасць, што ён падтрымае Трампа. На гэта ён і зрабіў стаўку. У хамаватых выступах такія людзі бачаць кагосьці вельмі падобнага да іх, а ў яго пустым фінансавым поспеху — надзею для сябе і нават для краіны.

Што яшчэ горш, Трамп па-майстэрску валодае мовай нянавісці і заахвочвае сваіх прыхільнікаў да ўжывання гвалту. Ён выказвае захапленне такімі асобамі, як Пуцін, і падвойвае традыцыйную для сучаснай амерыканскай палітыкі «вайну з тэрорам», каб пасеяць страх і паранойю ў сваіх палітычных мэтах.

Ён абяцае выкарыстаць «сапраўдныя» метады катаванняў, якія «намнога горшыя», чым утапленне, а таксама ў якасці помсты пакараць сямейнікаў вядомых тэрарыстаў. Гэта бессаромныя абяцанні ажыццявіць ваенныя злачынствы — зразумелыя і простыя. Такое квазіфашысцкае пасланне, паўстанне культу гвалту вітаецца з энтузіязмам мільёнамі звычайных амерыканцаў. Сумна, але аўтарытарызм часта папулярны.

У Еўропе лідар такога тыпу стварыў бы сваю палітычную партыю, каб прыцягнуць і заахвоціць прыхільнікаў. Але ў ЗША няма шматпартыйнай сістэмы

# Канец двухпартыйнай

Алег НОВІКАЎ

**Прыхільнікі як Берні Сандэрса, так і Дональда Трампа заклікаюць сваіх куміраў ісці на выбары прэзідэнта ЗША асобна ад партый. Ці ёсць пагроза двухпартыйнай сістэме ЗША? Пра гэта спецыяльна для НЧ распавядае брытанскі журналіст Том Хол.**




**10 тысяч подпісаў сабрала інтэрнэт-петыцыя, у якой амерыканцы заклікаюць Сандэрса працягнуць удзел у выбарах**

***— Праймерыз у Нью-Ёрку фактычна сталі памінальным звонам па амбіцыях Сандэрса стаць кандыдатам ад дэмакратаў. Які стан у лагеры Сандэрса пасля катастрофы ў Нью-Ёрку?***

— Як не дзіўна, там хапае аптымізму. Сандэрс і так дабіўся шмат чаго. Калі б нехта год таму сказаў, што такі стары палітык, ды яшчэ пад сацыялістычнымі лозунгамі, здольны заручыцца падтрымкай 40 працэнтаў сябраў Дэмакратычнай партыі, ён бы стаў героем сатырычных шоу. Пры гэтым Берні Сандэрс сапраўды мабілізаваў шмат людзей, якія дапамагалі яму ў тым ліку і фінансава. Відавочна, камандзе Сандэрса хочацца працягу кампаніі. Сказаныя ім на адным з нядаўніх мітынгаў у Нью-Ёрку словы пра тое, што Хілары Клінтан «не мае адпаведнай кваліфікацыі для пасады прэзідэнта», шмат хто ўспрыняў як маніфест новай партыі.

***— Ці стварылі ўжо аматары новай партыі якую-небудзь арганізацыю?***

— Функцыю такога цэнтра гуляюць карлікавыя левыя групоўкі, якія падтрымалі Сандэрса і, напэўна, упершыню выйшлі за межы палітычнага гета. Напрыклад, адзін з дэпутатаў гарсавета Сіэтла — сябра трацкісцкай секты, запусціў інтэрнэт-петыцыю, падпісанты якой заклікаюць Сандэрса працягнуць удзел у выбарах. Калі не памыляюся, там зараз каля 10 тысяч подпісаў. Найбольш буйныя арганізацыі, якія штурхаюць Сандэрса працягваць выбарчую кампанію: антыглабалісцкая ініцыятыва Occupy Wall Street, «Партыя працоўных сямей», прафсаюз медыкаў і г.д.

***— Ці пракаментаваў як-небудзь гэтыя заклікі сам Сандэрс?***

— Пакуль, наколькі я ведаю, не. Акрамя таго, раней ён абяцаў падтрымаць Клінтан, асабліва, калі ў фінале ёй будзе супрацьстаяць Трамп. Яму таксама часта нагадваюць пра казус Ральфа Найдэра — кандыдат ад Зялёных, які ў 2000 годзе адабраў у дэмакратаў пару працэнтаў галасоў, дазволіўшы стаць прэзідэнтам Бушу-малодшаму. У падобнай сітуацыі Сандэрс будзе захоўваць інтрыгу да канца праймерыз. Ужо вядома, што пасля іх заканчэння 18 чэрвеня яго прыхільнікі



# палітычнае варварства




і ніколі ў сучаснай гісторыі альтэрнатыўная дэмакратам і рэспубліканцам «трэцяя партыя» не атрымлівала істотнай падтрымкі на нацыянальных выбарах. Замест таго з'явіліся кандыдаты-аўтсайдары ў абедзвюх партыях, але што адрознівае гэты выбарчы цыкл — Сандэрс, і ў большай ступені Трамп, скарысталіся з нарастаючага гневу выбарцаў і прывабнасці нетрадыцыйных заклікаў левага і правага характару. Тым не менш, гэтыя выклікі з боку аўтсайдэраў у дзвюх партыях разыгрываюцца зусім па-рознаму.

Дэмакратычную партыю, дагэтуль даволі функцыянальную, узначальвае Хілары Клінтан, прадстаўнік сямейнай палітычнай дынастыі, якая мае глыбокія і ўплывовыя карані ў партыі. Яна не страціла сваю хватку, таму Сандэрс, які нечакана добра выступіў у спаборніцтве, звяртаючыся да студэнтаў і інтэлігенцыі, не выйграе гонку за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты. Аднак яго пасланне дагэтуль знаходзіць шырокі водгук і сімпатыі ў Дэмакратычнай партыі. Ідэі Сандэрса, але не яго асоба, могуць мець моцны ўплыў на выбары гэтай восенню і нават пазней.

## Папулізм і маніпуляцыі

У Трампа няма ні сваёй сеткі ў Рэспубліканскай партыі, ні традыцыйных для гэтай партыі поглядаў. Ён не асабліва кансерватыўны і ў мінулым часта і адкрыта займаў ліберальныя пазіцыі па розных пытаннях. Гэта павінна было б стаць вялізнай слабасцю яго кампаніі сярод рэспубліканцаў, але, як ні дзіўна, гэта не так. Прычына палягае ў тым, што папулісцкае пасланне і разумная маніпуляцыя СМІ не патрабуюць традыцыйных палітычных тэхнік або арганізацыйнага апарату для атрымання масавай падтрымкі.

Трамп паспяхова разбіў слабых апанентаў-рэспубліканцаў, што прадэманстравала хранічны разброд і фрагментарызацыю партыі, якая доўга трымалася на непаслядоўных палітычных кааліцыях, адсюль — гіперрэлігійнасць ў сацыяльных пытаннях, вера ў неўмяшанне ў эканоміку і мілітарызацыя знешняй палітыкі. Такая камбінацыя даволі добра працавала ў мінулым, дзякуючы ігнараванню вельмі моцнага напружання паміж яе трыма элементамі. Менавіта адсутнасць нейкіх базавых прынцыпаў дазваляе Трампу выйсці па-за межы гэтых трох слупоў рэспубліканства, пакуль ён робіць стаўку на брутальны папулісцкі шарм у здабыванні галасоў.

Такім чынам, зараз атаман варвараў Трамп накіроўвае сваё раз'юшанае, нямытае войска паслядоўнікаў да брамы аслабленай Рэспубліканскай партыі, расколатай і безабароннай цытадэлі, якая дэманструе ўсе прыкметы таго, што не вытрымае атакі.

**Прынята лічыць, што Клінтан адназначна выйграе ў Трампа, але такое пераацэньванне яе як кандыдата можа быць небяспечным. Яна заўсёды мела праблемы з камунікацыяй**

З гэтага пункту гледжання, толькі дзве перашкоды стаяць паміж Дональдам Трампам і прэзідэнцтвам. Першая — з'езд Рэспубліканскай партыі ў чэрвені, на якім яе кіраўніцтва ўсё яшчэ будзе мець магчымасць выкарыстаць статут і таемныя пагадненні для звяржэння кандыдатуры Трампа. Ён пагражае «мяцяжом», аднак масавыя хваляванні могуць здацца меншым злом для лідараў рэспубліканцаў у параўнанні з распадам партыі ў выпадку перамогі Трампа. Але ў рэальнасці ніхто не можа спрагназаваць, чым скончыцца барацьба на з'ездзе.

Другая перашкода — Хілары Клінтан і дэмакраты на агульным галасаванні ў лістападзе. Прынята лічыць, што Клінтан адназначна выйграе ў Трампа, але такое пераацэньванне яе як кандыдата можа быць небяспечным. Стыль Клінтан механічны, прадуманы і нібыта пазбаўлены жыцця, яна вядомая сваімі адказамі на ўсе пытанні ў форме планаў з 10 пунктаў і заўсёды мела праблемы з камунікацыяй з простымі людзьмі.

З гэтым кантрастуе стыль Трампа. Ён эмацыянальны, апелюе да інстынктаў, ён неахайны і непаслядоўны, як дзэбашыр на вечарыне. Трамп выглядае ў вачах многіх людзей як «звычайны хлопец». Яго прапанова простых адказаў на ўсе праблемы і выразнае вылучэнне ворагаў эмацыянальна адпавядае многім раззлаваным і спалоханым амерыканцам.

Такім чынам, можна спадзявацца на жыццёвую мудрасць амерыканцаў і на тое, што Хілары Клінтан прыме прысягу ў якасці новага прэзідэнта ў студзені 2017 года. Але мы таксама павінны памятаць, што гісторыя XX стагоддзя выслана касцямі тых, хто пацярпеў паразу, загадзя прадбачваючы трыумф. Усё ж будзем спадзявацца, што палітычнае варварства саступіць больш цывілізаваным памкненням.

Аўтар **Пітар Крахт** — дырэктар выдавецтва Пітсбургскага ўніверсітэта, з адметнай выдавецкай кар'ерай, якая ўключае рэдактарскія і кіраўнічыя пасады ў такіх выдавецтвах, як Oxford University Press, Westview Press, Harper Collins ды Praeger Publishers. Мае дыплом Універсітэта Масачусетса па рускай і ўсходнееўрапейскай гісторыі, а таксама навучаўся ў аспірантуры Калумбійскага ўніверсітэта па тэме савецкай палітыкі, міжнароднай бяспекі і замежных адносін.

# сістэмы?



збяруцца на «народны саміт» у Чыкага, каб вызначыцца з далейшымі планамі.

Мая асабістая думка — Сандэрс усё ж падтрымае Клінтан, для якой гэтая падтрымка проста крытычна. Калі прыхільнікі Сандэрса застануцца ў дзень выбараў дома, Хілары Клінтан моцна рызыкуе. Падзякай за гэту падтрымку напэўна будзе дэмакратызацыя статуту партыі, напрыклад, скасаванне інстытуту суперделегатаў — прыкладна 700 удзельнікаў канвенту, якія абіраюцца ненаўпрост. Прэса лічыць, што дэмакратычны прынцып абрання дэлегатаў на канвент дазволіць сацыялістам выйграць намінацыю ў кандыдаты ад Дэмакратычнай партыі ў 2020 годзе.



***— Ці магчыма, што новая партыя будзе заснаваная без удзелу Сандэрса? Ці ёсць асобы, здольныя ўзначаліць рух за стварэнне ўплывовай масавай партыі, больш левай за дэмакратаў?***

— Падчас кампаніі Сандэрса з'явіліся новыя імёны, аднак гэта маладыя людзі, у якіх палітычная кар'ера па-сапраўднаму пачнецца толькі праз пэўны час. Сацыёлагі падлічылі, што сярэдні ўзрост цяперашняй вярхушкі Дэмакратычнай партыі — каля 60 гадоў. Як следства, прыход новай генерацыі ў парткіраўніцтва ў хуткім часе проста непазбежны. З улікам таго, што большасць маладых актывістаў Дэмакратычнай партыі (тых, хто маладзейшы за 45 гадоў) — прыхільнікі Сандэрса, яны і будуць фармаваць будучы профіль арганізацыі. Феномен Сандэрса і дэмаграфія напэўна пасунуць Дэмпартыю ў бок левага цэнтру з нішы лібералаў, якую партыя займае цяпер.

***— Чаму ў лагеры рэспубліканцаў шмат хто гатовы падтрымаць партыйны праект Дональда Трампа?***

— Трамп, у адрозненні ад Сандэрса, ад самага старту быў настроены супраць кіраўніцтва Рэспубліканскай партыі, свядома агучваў праект стварэння сваёй партыі яшчэ ў лістападзе мінулага года. Яго сацыяльная база — кансерватары з усіх сектараў грамадства, уключаючы нават учарашніх эмігрантаў, якія ненавідзяць эліту рэспубліканцаў. Кансерватыўны выбаршчык адчувае сябе дыскамфортна праз эканамічны крызіс, наплыў эмігрантаў, гомасексуальныя шлюбы. Між тым, рэспубліканскі істэблішмент, наадварот, выступае за лібералізацыю рынку і дае зялёнае святло эмігрантам і геям. На гэтай палярызацыі светапогляду і гуляе Трамп.

***— Круз і Кейсіч плануюць стварыць на канвенце рэспубліканцаў блок са сваіх дэлегатаў, каб заблакаваць намінаванне скандальнага мільярдэра. Ці можна пасля гэтага казаць, што незалежная балаціроўка Трампа і стварэнне пад яго кампанію новай партструктуры фактычна непазбежныя?***

— У гісторыі рэспубліканцаў было нешта падобнае, напрыклад, у 1976 годзе. Тады высунуты партыйным істэблішментам Форд змагаўся з выскачкам Рэйганам, за якім стаяла публіка накшталт той, якая зараз ідзе за Трампам і якая таксама думала пра сваю партыю. Нягледзячы на напал эмоцый, партыя захавала адзінства. Аднак усё ж у Рэйгана і Трампа іншыя сістэмы каардынат палітычнай культуры. Ад Дональда можна чакаць чаго заўгодна. Але ж экспрэсіўны характар Трампа выклікае сумнеў у тым, што ён будзе здольны адбудаваць уплывовы палітычны цэнтр. Ён нават не можа дамовіцца з кансерватыўным колам рэспубліканцаў з «Tea Party». Аднак праблему агульнай ідэнтычнасці рэспубліканцаў гэта не вырашае. Унутрыпартыйная палярызацыя застанецца, што будзе моцна аслабляць шансы рэспубліканцаў патрапіць у Белы Дом.

# Як у Беларусі «русский мир» стваралі

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**У Беларусі сем гадоў існавала афіцыйна зарэгістраваная арганізацыя, якая як ніхто адстойвала «русский мир» і далучэнне да яго Беларусі. Гэта была палітычная партыя «Славянскі Сабор «Белая Русь» (ССБР).**




**Члены Славянскага Сабора на Дні Незалежнасці 27 ліпеня 1993 г. у Гомелі. На адваротным баку здымка словы «Дзень Незалежнасці» ўзяты ў двукоссе.**

### Пачатак

Днём нараджэння Славянскага Сабора з'яўляецца 6 чэрвеня 1992 года. У гэты дзень з удзелам 82 чалавек прайшоў першы з'езд арганізацыі, на якім былі зацверджаны назва, статут і склад рэвізійнай камісіі. Вышэйшым органам Сабора абвяшчалася Дума. Улічваючы, што ў статуце былі прапісаны палітычныя мэты, прынялі рашэнне зарэгістраваць Славянскі Сабор не ў якасці грамадскай арганізацыі, як планавалася, а як палітычную партыю. У сувязі з гэтым 26 жніўня 1992 года адбыўся дадатковы з'езд з удзелам 102 чалавек (паводле тагачаснага заканадаўства, палітычная партыя павінна была налічваць не менш за 100 сяброў).

4 верасня партыя афіцыйна была зарэгістраваная Міністэрствам юстыцыі і выйшла на палітычную арэну. Першапачаткова яе ўзначалілі чатыры сустаршыні Думы: Міхаіл Ільін, Андрэй Цэгалка, Валерый Сураеў і Мікалай Сяргееў. Сяргееў меў пэўную перавагу над сваімі калегамі, бо атрымаў «права першага подпісу». А 26 лютага 1995-га Мікалай Сяргееў на III з'ездзе быў абраны адзіным старшынёй Сабора, атрымаўшы ўсю паўнату ўлады.

Мэтамі партыі былі: «Абарона славянскіх інтарэсаў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця на аснове яднання славян і прыярытэту традыцыйных каштоўнасцяў славянскай цывілізацыі; стварэнне ў Беларусі канстытуцыйным шляхам праваога, гарманічна развіваючагася грамадскага ладу, заснаванага на сабornасці (адзінства ў разнастайнасці, аднадушнасць пры вырашэнні найважнейшых пытанняў, шырокае народнае прадстаўніцтва, раўнапраўнае супрацоўніцтва розных слаёў грамадства); распаўсюджванне праваслаўнай святаайцоўскай веры».

У сакавіку 1993-га была зацверджана эмблема партыі Славянскі Сабор «Белая Русь», якая ўяўляла «стылізаваную выяву трызубца і адначасова атакуючага сокала, абрамленыя васьміканцовай зоркай». На думку распрацоўшчыкаў эмблемы, трызубец выяўляў «трыадзінства вялікаросаў, беларусаў і маларосаў-украінцаў», а «атакуючы сокал — радавы знак Рурыкавічаў, да роду якіх належалі і полацкія князі». У сваю чаргу, васьміканцовая зорка — гэта знак Багародзіцы, «абаронцы славян і іх земляў».

Сцягам стала чорна-залаціста-белае палотнішча часоў Расійскай імперыі 1858–1883 гадоў.

### «Русский мир»

Праграма Славянскага Сабора «Белая Русь» была ўхвалена на II з'ездзе партыі 12 снежня 1993-га. Своеасаблівым эпіграфам да яе стала знакамітае «Сим победиши!», а лозунгам — «Русь, справедливость, труд и свобода!». Канчатковай мэтай праграмы абвяшчалася стварэнне Славянскай Супольнасці, ядром якой з'яўлялася Саборная Русь. Яна ахоплівала тэрыторыі Белай Русі, Вялікай Русі, Русі-Украіны, а таксама «Семиреченскую Русь» (поўнач Казахстана). А першым крокам да яе стварэння павінна была стаць інтэграцыя Беларусі і Расіі.

Вышэйшым органам прадстаўнічай і заканадаўчай улады Саборнай Русі абвяшчаўся «Совет всея земли» (Земскі сабор), які зацвярджаў асноўны закон — Саборнае Укладанне. Земскі сабор ствараў орган выканаўчай улады, на чале якой быў Вярхоўны Арбітр.

У эканамічнай сферы катэгарычна ставілася пытанне ліквідацыі залежнасці ад развітых краін: «Шлях на Захад — шлях у нікуды!». Апорай эканамічнай мадэлі Сабору павінна была стаць ваенная прамысловасць, дзеля чаго праграма патрабавала «спыніць разгромную канверсію ВПК». Асноўнай крыніцай валюты, паводле праграмы, быў «гандаль айчыннай зброяй».

Нацыянальна-моўная палітыка зводзілася да таго, каб надаць рускай мове статус дзяржаўнай, а беларускай вярнуць яе «спрадвечнае, не скажонае «беларусізатарамі» гучанне, узяўшы за ўзор мову Георгія Скарыны». Такім чынам, аналагічная прапанова, зробленая кандыдатам Мікалаем Улаховічам у апошнія прэзідэнцкія выбары, не новая.

У сферы адукацыі замацоўвалася абавязковае вывучэнне рускай мовы, літаратуры і гісторыі. Дзяржаўную падтрымку павінна была мець праваслаўная царква.

### Якія людзі!

Арганізацыйная структура Славянскага Сабора канчаткова склалася ў канцы 1996-га. Славянскі Сабор меў адну абласную (Віцебск) і 15 гарадскіх арганізацый: Мінск, Слуцк, Заслаўль, Мар'іна Горка, Бабруйск, Гомель, Горкі, Віцебск, Полацк, Навапалацк, Гарадок, Орша, Лёзна, Кобрын, Гродна. Пры гэтым у Мінску і абласных цэнтрах арганізацыі Сабора дзейнічалі ва ўсіх раёнах гэтых гарадоў. Гродзенская і Гомельская абласныя арганізацыі былі ліквідаваныя (перш за ўсё з-за недахопу сродкаў). У такім выглядзе структура праіснавала да знікнення партыі.

Пасля перарэгістрацыі 10 красавіка 1995-га Сяргееў абвясціў аб новай структуры партыі. Усе члены Славянскага Сабора падзяляліся на тры катэгорыі: «паплечнікі», «падзвіжнікі» і «прыхільнікі». Такая градацыя «ўлічвала ўнёсак члена партыі ў справу ССБР». Менавіта «паплечнікі» вырашалі прынцыповыя пытанні, мелі права падпісваць дакументы і выступаць ад імя партыі.

Палітычную кар'еру ў Славянскім Саборы пачыналі дагэтуль вядомыя ў рэспубліцы людзі: акцёр Уладзімір Гасцюхін, рэжысёр, аўтар прапагандысцкага «шэдэўра» «Нянавісць. Дзеці ілжы» Юрый Азаронак, высокапастаўлены зараз чыноўнік Усевалад Янчэўскі, незалежны эканаміст Сяргей Чалы, прафесар-філосаф Валянцін Акулаў, палітолаг Сяргей Шыпценка. Кіраўніком Віцебскай абласной арганізацыі ССБР быў той самы Андрэй Герашчанка. Членам Сабора з'яўляўся і былы галоўны рэдактар «Знамени юности» Ігар Гукоўскі.

ССБР быў першай палітычнай арганізацыяй, якая зрабіла стаўку на Аляксандра Лукашэнку. У рэзалюцыі пасяджэння праўлення Думы партыі ад 14 снежня 1993-га можна прачытаць: «Апублікаваць у СМІ заявы ў падтрымку выступу дэпутата Лукашэнкі». У першыя прэзідэнцкія выбары члены партыі ўвайшлі ў яго ініцыятыўную групу, аднак неўзабаве шляхі будучага кіраўніка дзяржавы і Славянскага Сабора разышліся.

### Прапаганда

У Саборы ўзніклі структурныя падраздзяленні: аддзел аналітыкі і палітычнага прагназавання, аддзел знешніх сувязяў (які ўзначаліў сам Сяргееў), аддзел гісторыі і культуры славян, аддзел нацыянальна-моўных праблем, юрыдычны аддзел, а таксама аддзел па сувязях з праваслаўнай царквой. 17 кастрычніка 1994-га ў партыі з'явіўся аддзел прапаганды, каб «творча развіваць традыцыйны рускі светапогляд; распрацоўваць методыку прапаганды ідэй Рускага Нацыянальнага Руху сярод розных слаёў насельніцтва Беларусі; рыхтаваць прапагандысцкія і асветніцкія матэрыялы».

З першых часоў існавання партыі паўстала пытанне аб яе друкаваным органе, які першапачаткова планавалася назваць «За веру и верность». У ліпені 1992 года ў якасці прыярытэтных задач выдання Сяргееў акрэсліў фармаванне грамадскай думкі аб неабходнасці ўвядзення двухмоўя, а таксама стварэнне аб'ектыўнай гісторыі Беларусі «ў сувязі з фальсіфікацыямі».

Друкаваны орган Сабора з'явіўся ў студзені 1993-га пад назвай «Русь Белая. Газета славянофилов Придвинья». З верасня 1994-га «Русь Белая» ўжо называлася як газета Славянскага Сабора «Белая Русь».

### Ворагі

Галоўным палітычным ворагам Славянскага Сабора паўставаў Беларускі народны фронт, якога «сабаране» вінавацілі ва ўсіх бедах рэспублікі, а таксама іншыя партыі і аб'яднанні нацыянальнага накірунку — Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў і інш. Нават пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі «Белая Русь» сцвярджала, што ў яго атачэнне «затесались» паплечнікі БНФ. Напрыклад, крытыкаваўся міністр замежных спраў Уладзімір Сянько, які нібыта ператварае Беларусь «у вечнага даўжніка і васала ЗША».

У знешнепалітычнай дактрыне «сабаран» Русь паўстае не інакш як крэпасць у аблозе. Галоўнымі ворагамі выступалі ЗША і NATO, Ізраіль і «міжнародны сіянізм», Польшча і «мусульманска-каўказская экспансія». Турцыя абвінавачвалася ў тым, што «праз свае спецслужбы» быццам бы «вядзе варожую дзейнасць супраць нашай рэспублікі».

Славянскі Сабор лічыў сваім абавязкам «працягнуць руку дапамогі» тым славянам, якія нібыта пакутуюць ад сусветнага імперыялізму, асабліва балканскім славянам і сербам. На працягу 1993–1996 гадоў ССБР літаральна заваліў Мінгарвыканкам заявамі на пікетаванне амбасадаў заходніх краінаў супраць іх палітыкі на Балканах.

А 22 ліпеня 1993-га Дума Славянскага Сабора накіравала віншавальную тэлеграму жыхарам гарадоў Нарва і Сіламяэ з нагоды правядзення рэферэндуму аб статусе гэтых эстонскіх населеных пунктаў з большасцю рускамоўнага насельніцтва.

### У абдымках Расіі

Будучыня Беларусі разглядалася выключна ў залежнасці ад Расіі. Славянскі Сабор меў кантакты з такімі ідэйнымі паплечнікамі «русского мира», як Эдуард Лімонаў, Аляксандр Дугін, Уладзімір Жырыноўскі, Канстанцін Затулін, Сяргей Бабурын, старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі Валерый Ганічаў, скульптар і прэзідэнт Міжнароднага фонду славянскай пісьменнасці і культуры Вячаслаў Клыкаў.

3 мая 1995 года ССБР звярнуўся да Лукашэнкі і старшыні Мінгарвыканкама Уладзіміра Ярмошына разгледзіць пытанне аб перайменаванні сталічнай плошчы Незалежнасці ў плошчу імя Жукава. 11 сакавіка 1996-га прапанавалі надаць галоўнай плошчы новую назву — «плошча Славянскага адзінства».

17 снежня 1995-га Дума звярнулася да Лукашэнкі з прапановай зацвердзіць 25 снежня ў якасці дзяржаўнага свята і назваць яго «Днём Яднання Русі». Таму што 25 снежня 1795-га Кацярына II падпісала ўказ аб далучэнні да Расіі, як было занатавана ў звароце, «земляў Заходняй Русі».

***

Ліквідацыя Славянскага Сабора адбылася на нечарговым VII з'ездзе 12 чэрвеня 1999-га Было заяўлена аб аргкамітэце па стварэнні Рэспубліканскага агульнанароднага саюза «Белая Русь», які, «з аднаго боку, забяспечвае пераемнасць палітычнай лініі ССБР, а з другога — пашырыць падтрымку з боку грамадзян РБ».

Аднак «Белай Руссю» стала іншая арганізацыя.



Павільён маслабойна-сыраварнага заводу



Павільён спажывецкай кааперацыі



Павільён тэхнічных культур (лён, каноплі)

# Дом ураду ў Камароўскім лесе



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Мазырскія цукеркі, полацкую дахоўку, дамы-камуны, каноплі і яшчэ шмат чаго цікавага маглі ўбачыць наведвальнікі Першай усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выставы.**

Яна пачала сваю працу ў жніўні 1930 года на спецыяльна падрыхтаванай пляцоўцы ў раёне Вялікай і Малой Слепні па Барысаўскім тракце (працяг Савецкай вуліцы на паўднёвы ўсход), на плошчы ў 75 гектараў у Камароўскім лесе (зараз Парк Чалюскінцаў).

Павільёны выставы прадстаўлялі сабой цікавыя ўзоры функцыяналісцкай і канструктывісцкай архітэктуры. У іх будаўніцтве прымалі ўдзел знакамітыя архітэктары Аляксандр Воінаў, Рыгор Лаўроў, Іван Валадзько. Менавіта апошнім быў спраектаваны галоўны павільён выставы.

## Тэлефон і водаправод

Жадаючыя наведаць выставу сядалі на трамвай № 2 на станцыі Мінск-Пасажырскі і ехалі на Старажоўку, дзе на вуліцы Савецкай, ці на рагу Савецкай і Энгельса перасадалі на трамвай №1 і ехалі на Усебеларускую выставу сельскай гаспадаркі і прамысловасці. Падчас працы выставы рух трамваяў быў прыстасаваны да прыходу цягнікоў на галоўны чыгуначны вакзал сталіцы БССР. Уваход для арганізаваных экскурсійных груп, дзяцей школьнага ўзросту, чырвонаармейцаў быў бясплатны. Іншыя грамадзяне павінны былі набыць квіткі ў касах на ўваходзе.

Тагачасныя перыядычныя выданні савецкай Беларусі падкрэслівалі важнасць падзеі. «Выстава павінна стаць школай для працоўных мас БССР і паказаць, як пры дапамозе індустрыялізацыі і калектывізацыі краіны можна павысіць ураджай. [...] Лозунг выставы «мінімум штучнасці і максімум натуральнасці». [...] Асноўная яе задача цесна звязана і грунтуецца на патрэбе рашучага разгортвання працы па выкананні пастаноў XV Усесаюзнага і XII Усебеларускага партз'ездаў і пастаноў саюзнага і беларускага ўрадаў, накіраваных на хутчэйшую сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, на падвышэнне ўраджайнасці і г. д. на аснове ўзмоцненага тэмпу індустрыялізацыі краіны. Выстава будзе часткай нашай працы па рэканструкцыі народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва БССР. [...] Яна па сэнсу сваёй арганізацыі будзе зусім адрозніваецца ад выставаў буржуазных краін, дзе такія мерапрыемствы робяцца як рэклама, як кірмаш, з мэтаю камерцыйнага спаборніцтва індывідуальных гаспадарак і паасобных фірм, з мэтай нажывы буржуазіі і чорнай біржы», — адзначалася ў газетах.

Па суседству з павільёнамі выставы былі Даследчая станцыя па свінагадоўлі ў Малой Слепні, рыбная гаспадарка ў Вялікай Слепні, Мінская балотная даследчая станцыя на Камароўскім балоце, дэндралагічны парк і іншыя навуковыя ўстановы. Планавалася, што па заканчэнні працы выставы на яе тэрыторыю перанясуць Навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі.

**У Галоўным павільёне сацыялістычнай гаспадаркі быў прадстаўлены парткабінет камсамольска-піянерскай работы, куток бязбожнікаў, а таксама раённая бібліятэка**



Павільён «Праца і быт»

Уся тэрыторыя выставы была агароджана плотам, быў праведзены водаправод, электрычнасць, тэлефонная сувязь. У спецыяльным буклеце, выдадзеным да адкрыцця выставы, адзначалася: «Найлепш за ўсё, калі экскурсанты за дрэваапрацоўчым заводам злезуць з трамваю і пойдуць пехатою. Яны будуць мець магчымасць бачыць цалкам новы культурны асяродак горада Мінска з грандыёзным будаўніцтвам, пачынаючы ад будынкаў клінікі і да самой выставы».

## Уся рэспубліка на 75 гектарах

На выставе працавала 15 аддзелаў (10 сельскагаспадарчых і 5 — прамысловага сектару), якімі кіравалі навуковыя супрацоўнікі інстытутаў. Увазе наведвальнікаў было прадстаўлена 48 павільёнаў і іншых пабудоў. Гасцей сустракаў помнік «правадыра рэвалюцыі таварыша Леніна», выкананы з дрэва і гіпсу. На цэнтральнай вуліцы былі усталяваны сонечны гадзіннік і каляндар.

Уваходная брама знаходзілася з левага боку Барысаўскага тракту. Яна была ўпрыгожана чырвонымі сцягамі і гербам савецкай Беларусі. З правага боку месціўся Лясны павільён, у якім госці выставы маглі ўбачыць узоры лесаматэрыялаў, што выкарыстоўваліся ў розных сферах прамысловасці БССР. Тут жа, у спецыяльным памяшканні, былі выстаўлены пудзілы жывёл, якія насялялі беларускія лясы. У павільёне сувязі можна было ўбачыць усе тагачасныя навінкі тэлеграфнай і паштовай сувязі.

У Галоўным павільёне сацыялістычнай гаспадаркі быў прадстаўлены парткабінет камсамольска-піянерскай работы, куток бязбожнікаў, а таксама раённая бібліятэка. Акрамя гэтага, экскурсантам прэзентавалі выставу «Спадчына вайны і абарона краіны», у якой распавядалася пра падзеі польска-бальшавіцкай вайны і ўсталяванне савецкай улады ў Беларусі. У Павільёне масавых экспанатаў земляробства былі прадстаўлены ўзоры прадуктаў сельскай гаспадаркі з Віцебскай, Полацкай, Аршанскай, Магілёўскай, Мінскай, Бабруйскай, Гомельскай і Мазырскай акруг.

Вынікі працы земляробчых даследчых станцый (у тым ліку з Мінска, Дрыбіна, Горак) знаходзіліся ў Павільёне земляробства. Асаблівую ўвагу даваенныя земляробы надавалі развядзенню лёну і каноплі. Увесь працэс вырошчвання гэтых культур быў прадэманстраваны ў будынку, выкананым у канструктывісцкім стылі.

Адмысловая зала была пабудаваная для таго, каб прадэманстраваць мінчукам і гасцям сталіцы БССР працэдуру тэхнічнай перапрацоўкі садавіны і гародніны. На выставе былі Павільёны механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, каняводства, свінагадоўлі, развядзення буйной рагатай жывёлы ды іншыя. Цікава тое, што ў кожным з іх наведвальнікі маглі даведацца пра гісторыю развіцця той ці іншай галін сельскай гаспадаркі, у тым ліку і ў дакастрычніцкі перыяд.

Вось што адзначалася ў даведніках да выставы: «Яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя былі спробы разводзіць чырвоную беларускую жывёлу ў чыстым выглядзе, называючы яе «літоўскай». Так, у каталогу выставы 1901 года сустракаем паказанні, што на выставе абшарнікам Славінскім В.В. з маёнтку Талочын Магілёўскай губерні была прадстаўлена мясцовая палепшаная «літоўская» чырвоная жывёла». Даведнік пазначаў, што гэтая парода жывёл сустракалася амаль ва ўсіх дарэвалюцыйных літоўскіх і беларускіх губернях.

Другая частка выставы была прысвечана індустрыялізацыі. Наведвальнікі маглі ўбачыць будынак маслазаводу з характэрным для функцыянальнай архітэктуры фасадным стужачным шкленнем, павільёны друку, «Чырвонага крыжа», «Белмедгандлю», аддзелу камунальнай гаспадаркі, спажывецкай кааперацыі. У будынку, прысвечаным мясцовай і саматужнай прамысловасці, можна было ўбачыць вырабы з дрэва і металу з Бабруйска, цукеркі з Мазыра, цэглу з Гомеля, дахоўку з Полацку.

У павільёне "Дзяржбуду" кожны мог пабачыць, як будзе выглядаць Дом Ураду (быў здадзены ў эксплуатацыю ў 1934 годзе). А з макетам Асінбуду і іншых энергетычных магутнасцяў можна было пазнаёміцца ў прамысловым павільёне. Дарэчы, там была прадстаўлена мапа электрыфікацыі савецкай Беларусі.

Цікавасць уяўлялі макеты новых дамоў-камун, якія планавалася пабудаваць у Мінску, а таксама ў абласных і раённых цэнтрах. Госці выставы таксама маглі ўбачыць макеты дому адпачынку для працоўных у Ждановічах і санаторыя імя дзесяцігоддзя БССР.

Дзеля таго, каб кожны з наведвальнікаў зразумеў сутнасць развіцця сельскай гаспадаркі БССР, на выставе працавалі «тлумачы». Гэтую ролю выконвалі студэнты Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. У верасні 1930 года на выставу з Масквы прывезлі камбайн і першы ў Беларусі трактар Сталінградскага трактарнага завода.

Першая ўсебеларуская сельскагаспадарчая і прамысловая выстава працавала да 1 лістапада 1930 года, а пазней большая частка павільёнаў была дэмантавана. Зараз пра яе ўжо нічога не нагадвае.

**Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава**

# Італьянскія «Піцыка» з беларускімі дзецьмі

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**На сцэне «Нацыянальнага цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі» 22 сакавіка італьянскія і беларускія дзеці паказалі гледачам цэлае шоў — «Музыка душы». Бубны, спевы дзесяцігадовай італьянкі і скачкі, зусім не характэрныя для беларусаў, узрушылі ўсіх.**



Беларускія і італьянскія дзеці на адной сцэне



«Бубначы з Атранта»

Пры падтрымцы Амбасады Італіі ў Мінску стартаваў праект «Мост сяброўства: Беларусь—Італія», мэта якога сярод іншага — навучанне беларускіх дзяцей аўтэнтычнаму мастацтву Італіі. Маэстра Масіма Панарэзэ ў лютым і сакавіку наведаў Беларусь, навучыўшы беларускіх дзетак некаторым элементам італьянскай музыкі і танцаў.

Калектыў, якім кіруе маэстра ў Італіі, носіць назву «Бубначы з Атранта» і існуе сем гадоў. Калі Масіма Панарэзэ стаў толькі ствараць гэты ансамбль, да яго прыйшла ў галаву думка выкарыстоўваць бубен, каб можна было заахвоціць займацца музыкай усіх — і бедных, і багатых: «Шчыра кажучы, мы пачалі жартам, а ператварыліся ў сур'ёзную рэальнасць нацыянальнага маштабу, — прызнаўся маэстра. — На мае курсы запісана больш за 400 дзетак. І я прытрымліваюся такой пазіцыі: нават калі дзіця не вельмі добра грае, яно ўсё адно застаецца ў калектыве. Бо кожны павінен мець сваю ролю, сваё месца і адчуваць сябе важным. Самае прыўкраснае ў жыцці — бачыць шчаслівым дзіця».

Калі маэстра прыехаў у Мінск упершыню, то беларускія дзеці яму падаліся даволі сур'ёзнымі. Але, калі пачалі займацца з бубнам, то яны разнявольваліся. «Таму сяброўства паміж італьянцамі і беларусамі можна і трэба ўмацоўваць», — заключыў маэстра. Масіма Панарэзэ заверыў, што атмасфера ў беларуска-італьянскім калектыве надзвычай спакойная. Ніхто не скажа нікому, што ён, маўляў, кепска грае. Калі маюцца ў кагосьці складанасці, то да яго падыдуць і дапамогуць.

Сумесны дзіцячы выступ падобны да атмасферы штогадовага італьянскага фестывалю «Ноч Таранты». Цікава, што «Ноч Таранты» не мае нічога агульнага са знакамітай і нібыта італьянскай «Тарантэлай», якая стала папулярнай і ў беларускіх калектывах, што вывучаюць сярэднявечныя танцы. Танец «Тарантэла» ўзнік у Неапалі. У кожнага рэгіёна Італіі быў свой танец. Тое, чаму навучылі італьянцы беларусаў, носіць назву «Піцыка». Калі вытокі «Піцыка» сыходзяць у XI стагоддзе, то «Тарантэла» згадваецца толькі ў канцы XVIII стагоддзя. Гэта той час, калі турысты сталі ездзіць у Італію. Для іх і былі прыдуманы танец «Тарантэла».

Што ж такое «Піцыка», якая пацiснула звыклыя беларускія цымбалы, што былі прадстаўлены на сцэне да гэтага? Музыка, пад якую танчылі дзеці, — па гучанні такая ж, як і тысяча гадоў таму. Але адметнасць гэтага танца ў тым, што ён танчыўся кожным чалавекам па-свойму.

Усё тое, што Італія ўзяла ў кантэйнер ад культуры Грэцыі, Албаніі і Турцыі, адлюстравалася ў традыцыі «тарантызму». У першую чаргу, гэтую традыцыю падтрымлівалі жанчыны, якім было патрэбна пазбавіцца ад праблем, што накапіліся ўнутры. І яны выражалі сябе пры дапамозе музыкі, якая сёння называецца «Піцыка».

«Таранта», або павук, — сімвал зла, сімвал таго, джаліць жанчын. Існавала павер'е: каб пазбавіцца ад атруты, жанчыны павінны танчыць пад такія інструменты, як скрыпка, гітара, бубен. У выніку рытмічнага танцу яны вызваляюцца ад атруты павука. Мінімум тысяча гадоў існавала традыцыя — жанчыны, танцаваўшы, раз на год скідвалі з сябе ўвесь гэты негатыў. Але Каталіцкая Царква пастанавіла, што калі жанчына ўдзельнічала ў гэтым, то яна грашыла. У выніку пасля ўдзелу яна павінна была прынесці ахвяру пэўнаму святому.

У 1980-х гадах італьянская моладзь стала аднаўляць рух тарантызму. І толькі нядаўна ў Італіі тарантызм вырашылі аформіць у афіцыйны фестываль «Ноч Таранты». Свята аб'ядноўвае 12 рэгіёнаў і суправаджаецца таксама шэрагам палітычных і сацыяльных мерапрыемстваў.

Натуральна, тое, што пабачылі гледачы на сцэне, — гэта забаўляльнае мерапрыемства. Але італьянскія майстры не бачаць нічога кепскага ў тым, што аўтэнтычныя матывы прасочваюцца ў сучасныя рэчы. Інакш танец так бы і застаўся ў Сярэднявеччы. Танец не павінен быць танцам бацькоў і дзядоў — ён павінен жыць і з'яўляцца танцам цяперашняга пакалення.

Недарэмна Італія робіць гэты праект з Беларуссю. Гісторыя нацыянальных танцаў і спеваў абедзвюх краін падобная. Італьянская гісторыя была складанай і заблытанай. Бацькі і дзяды сучасных італьянцаў збольшага былі эмігрантамі. Яны закінулі сваю гісторыю і ніхто нічога не ведаў. І толькі на пачатку 80-х гадоў яны сталі аднаўляць сваю культуру. Таму італьянцы пачалі займацца як гістарычнай часткай, так і прапагандай сучаснасці. «Калі мы сканцэнтруемся толькі на гісторыі, мы не зможам даць жыццё гэтым рэчам. Мы не зможам радавацца таму, што мы маем зараз», — упэўнены італьянцы.

Праект «Мост сяброўства: Беларусь — Італія» будзе развівацца і далей. Госці запрашалі ўсіх на сапраўдную «Ноч Таранты» ў Італію ў жніўні. А пасол Італіі ў Беларусі Стэфана Б'янкі разлічвае на пашырэнне мерапрыемстваў і майстар-класаў па італьянскай культуры сярод беларусаў.

## Патрэбна дапамога

**Таварыства беларускай мовы просіць дапамогі ў выплаце арэнднай платы.**

З красавіка чарговы раз падвысілася арэндная плата за сядзібу ТБМ. Зараз яна складае 14 мільёнаў 359 тысяч 600 рублёў у месяц. Таксама трэба рэгулярна плаціць за камунальныя паслугі, тэлефон, электрычнасць і інтэрнэт.

Рахунак ТБМ: 3015741233011 код 739 у Аддзяленні па Мінску і Мінскай вобласці №539 ААТ «Белінвестбанка» УНП 100129705.

Спісы ахвярадаўцаў будуць рэгулярна друкавацца ў «Нашым слове» і размяшчацца на партале ТБМ.

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
| --- | --- | --- | --- | --- |
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня
Всего
Кассир

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр
З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб., **квартала — 90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 400

Падпісана да друку 29.04.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.